Мінску. У пэўнай ступені гэта сведчыць аб тым, што беларускі бок быў больш зацікаўлены ў развіцці двухбаковых адносін. Аб сустрэчах і перамовах у шматбаковым фармаце ні ў беларускіх, ні ў азербайджанскіх афіцыйных крыніцах не паведамляецца, нягледзячы на тое, што абедзве краіны з'яўляюцца удзельніцамі такіх міжнародных арганізацый, як СНД і АБСЕ, а таксама праграмы "Усходняе партнёрства" ЕС.

Верагодней за ўсё такое становішча выклікана асаблівасцямі адносін Беларусі з лідарамі гэтых структур. Не падлягае сумневу, што большасць беларуска-азербайджанскіх праектаў разглядаецца афіцыйным Мінскам як "эканамічная страхоўка" на выпадак пагаршэння адносін з Расіяй, а ваенныя пастаўкі Азербайджана пагаршаюць становішча Арменіі – галоўнага расійскага саюзніка на Каўказе. Таму абмеркаванне сумесных праектаў у межах СНД і іншых структур, дзе дамінуе Расія, сапраўды выглядала б дзіўна.

З іншага боку, канфліктныя адносіны беларускага кіраўніцтва з Захадам і стаўка на пошук "слабых звенняў" у еўрапейскай палітыцы да Беларусі падштурхоўваюць мінімізаваць удзел у шматбаковых перамовах у рамках структур, дзе дамінуюць заходнія краіны, і сканцэнтравацца на двухбаковых кантактах з дзяржавамі, што маюць у Беларусі прагматычныя інтарэсы і не схільныя імі рызыкаваць дзеля сімвалічнага прасоўвання дэмакратычных каштоўнасцяў.

Нягледзячы на фактычную адсутнасць у беларуска-азербайджанскіх адносінах шматбаковага фармату, ёсць звесткі аб падтрымцы Азербайджанам Беларусі на міжнароднай арэне. Так, паводле інфармацыі МЗС Беларусі, Азербайджан падтрымаў кандыдатуру Беларусі на выбарах непастаянных сяброў Савета бяспекі ААН у 2001 годзе, а падчас галасавання на пасяджэнні ПА АБСЕ ў Ратэрдаме ў 2003 годзе па рэзалюцыі аб становішчы ў Беларусі падтрымаў пазіцыю беларускага боку (Посольство, 2012a). Таксама паведамляецца, што прадстаўнікі Азербайджана выступалі супраць заходняй крытыкі беларускага рэжыму ў ПА АБСЕ і ЕЎРАНЭСЦЕ. Пра зваротныя крокі Беларусі ў падтрымку Азербайджана на міжнароднай арэне, аднак, ніякіх звестак няма. Вядома, што афіцыйны Мінск заяўляе аб сваёй нейтральнай пазіцыі па Нагорна-Карабахскім канфлікце (Википедия, 2013).

## II. Развіццё дамоўна-прававой базы

Па звестках электроннай сістэмы "Консультант Плюс", у 1992 – 2012 гадах паміж Беларуссю и Азербайджанам было заключана 56 міжнародна-прававых актаў. І хаця ў матэрыялах МЗС Беларусі пазначаецца значна большая колькасць – больш за 80 (Посольство, 2013), а ў матэрыялах МЗС Азербайджана – ўвогуле 92 (Ministry, 2013), разыходжанні гэтых лічбаў і адсутнасць інфармацыі пра тое, якія дакументы іх складаюць, вымушае ўзяць за аснову больш канкрэтныя і дэталізаваныя дадзеныя сістэмы "Консультант Плюс". З 56 знойдзеных у ёй дакументаў з удзелам Беларусі і Азербайджана 55

з'яўляюцца двухбаковымі дамоўленасцямі і толькі 1 – шматбаковай.[6]

23 з іх было падпісана ў Мінску, 29 – у Баку, 1 – у азербайджанскім горадзе Габала. Месца падпісання яшчэ 3-х дакументаў невядомае. Толькі 1 з 56 дакументаў тычыцца змянення і перагляду раней дасягнутых дамоўленасцяў. 3 акта маюць статус міждзяржаўных дамоў, 26 – міжурадавых пагадненняў і 27 – галіновых (міжведамасных). У 1990-х гадах былі заключаны толькі 3 галіновых пагадnenня і 1 міждзяржаўнае шматбаковае пагадненне. Астатнія 2 – падчас першага раўнду абмену візітамі кіраўнікоў дзяржаў. Першыя міжурадавыя пагадненні былі заключаны толькі ў 2001 годзе – падчас візіту ў Баку беларускага прэм'ера В. Ярмошына. Пераважная большасць галіновых пагадненняў (23 з 27) былі заключаны ў другой палове 2000-х гадоў – пачынаючы з 2006 года. Дынаміка колькасці заключаных дамоўленасцяў па гадах прадстаўлена ў наступнай Дыяграме 2.

**Дыяграма 2. Дынаміка агульнай колькасці беларуска-азербайджанскіх дамоўленасцяў, 1992 – 2012 гады.**




*Крыніцы: аўтарскія падлікі на аснове дадзеных базы прававой інфармацыі Консультант Плюс, 2013.*

З дыяграмы бачна, што дынаміка развіцця дамоўна-прававой базы ў цэлым карэлюе з дынамікай палітычных кантактаў. Такім чынам, відавочна, што сустрэчы дзяржаўных лідараў мелі прамое дачыненне да яе развіцця – нават заключэнне міжурадавых і галіновых дамоў па часе пераважна супадае з візітамі прэзідэнтаў.

Каб вызначыць прыярытэтныя накірункі развіцця беларуска-азербайджанскай дамоўна-прававой базы ізноў скарыстаемся рэйтынгавай сістэмай, што ўлічвае колькасць дамоўленасцяў і іх узровень – бо, відавочна, міждзяржаўныя дамовы і міжурадавыя пагадненні рэгулявалі больш значныя пытанні двухбаковых адносін, чым галіновыя міжведамасныя. Такім чынам, кожная міждзяржаўная дамова ацэньваецца ў 3 балы, міжурадавая – ў 2 і галіновая – ў 1. Пагадненні, што рэгулююць блізкія ці сумежныя накірункі супрацоўніцтва (напрыклад, гандаль

6 Пагадненне аб падзеле інвентарных паркаў грузавых вагонаў і кантэйнераў былога Міністэрства шляхоў зносін СССР паміж постсавецкімі краінамі 1993 года.

і падаткі) аб'ядноўваюцца ў адну групу, а іх балы падсумоўваюцца. Па агульнай колькасці балаў у асобных групах вызначаецца прыярытэтнасць кожнага з накірункаў. Вынікі адлюстраваны ў Табліцы 2.

**Табліца 2. Прыярытэтныя накірункі развіцця беларуска-азербайджанскай дамоўна-прававой базы.**

| Накірункі супрацоўніцтва | Колькасць дакументаў | Рэйтынгавая ацэнка |
|---|---|---|
| Эканоміка, гандаль, падаткі і маёмасць | 9 | 18 |
| Барацьба са злачыннасцю і супрацоўніцтва судовых органаў | 8 | 12 |
| Адукацыя і навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва | 6 | 10 |
| Фінансава-крэдытныя пытанні і разлікі | 7 | 8 |
| Медыцына, ветэрынарыя і санітарны кантроль | 4 | 6 |
| Транспарт і грузаперавозкі | 3 | 5 |
| Супрацоўніцтва мытных і памежных органаў | 3 | 4 |
| Стандартызацыя, метралогія і статыстыка | 3 | 4 |
| Ваеннае і ваенна-прамысловае супрацоўніцтва | 2 | 3 |
| Праца і сацыяльная абарона грамадзян | 2 | 3 |
| Інфармацыя і СМІ | 2 | 3 |
| Моладзевая палітыка, фізкультура і спорт | 2 | 3 |
| Ахова наваколля і супрацоўніцтва па лініі МНС | 2 | 2 |
| Іншае | 3 | 7 |

*Крыніцы: аўтарскія падлікі на аснове дадзеных базы прававой інфармацыі Консультант Плюс, 2013.*

Такім чынам, пяцёрку вядучых накірункаў развіцця дамоўна-прававой базы складаюць: гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва (у тым ліку пытанні падаткаабкладання, аховы інвестыцый і маёмасці) – 9 дамоўленасцяў з агульным рэйтынгам у 18 балаў; барацьба са злачыннасцю і супрацоўніцтва судовых органаў дзвюх краін – 8 і 12 адпаведна; супрацоўніцтва ў галіне адукацыі, навукі і тэхналогій – 6 і 10; фінансава-крэдытная сфера і ўзаемныя разлікі (у тым ліку пагадненне аб выдачы Беларусі азербайджанскага крэдыту ў 2010 годзе) – 7 і 8; у галіне аховы здароўя, ветэрынарыі і санітарнага кантролю – 4 і 6. Характарызуючы дынаміку гэтых накірункаў, трэба адзначыць, што, у першую чаргу – яшчэ ў 1990-х гадах пачала стварацца дамоўная база ў галіне ўзаемных разлікаў, маёмасных пытанняў і супрацоўніцтва судовых органаў. Апошні накірунак, аднак, выйшаў на вядучыя пазіцыі толькі ў 2012 годзе, калі было заключана 5 з 8 пагадненняў, аднесеных да гэтай групы.

Таксама трэба спыніцца яшчэ на адным накірунку двухбаковых адносін – супрацоўніцтве ў галіне ВПК, бо, нягледзячы на досыць сціплае месца ў развіцці дамоўнай базы, яно мае значны міжнародны рэзананс. Першай дамоўленасцю ў гэтай сферы стала міжурадавае пагадненне "Аб вытворчай і навукова-тэхнічнай кааперацыі прадпрыемстваў і арганізацый абаронных галін прамысловасці" ад 5 лістапада 2004 года. Другой – пагадненне паміж міністэрствамі абароны абедзвюх краін "Аб стварэнні сістэмы інфармацыйнага абмену" ад 13 лістапада 2008 года.

У графу "Іншае" патрапілі міждзяржаўная дамова "Аб сяброўстве і супрацоўніцтве" і 2 міжурадавых пагадненні – "Аб узаемных паездках грамадзян" і "Аб узаемным прадастаўленні ўчасткаў для размяшчэння дыппрадстаўніцтваў". Увогуле ж падзел часам насіў даволі ўмоўны характар, бо некаторыя пагадненні (напрыклад, аб супрацоўніцтве ў галіне медыцынскай навукі ці сельскагаспадарчых тэхналогій) падыходзяць адпаведна вышэйзгаданай класіфікацыі адразу ў дзве катэгорыі, і выбар да якой іх урэшце аднесці не заўсёды быў відавочным.

## III. Эканамічныя сувязі

Інстытуалізацыя эканамічных сувязяў паміж Беларуссю і Азербайджанам пачалася даволі позна – фактычна праз 10 год пасля ўсталявання дыпламатычных адносін. Міжурадавая двухбаковая камісія па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве была створана толькі ў 2004 годзе (для параўнання, з Літвой – у 1994 годзе). Нават па развіцці дамоўна-прававой базы бачна, што сапраўднае ажыўленне беларуска-азербайджанскіх эканамічных сувязяў пачалося толькі ў другой палове 2000-х гадоў. Так за 2006 – 2012 гады было заключана 9 дамоўленасцяў у галіне эканомікі, гандлю і разлікаў, у той час як за ўвесь папярэдні перыяд – толькі 7. Зразумела, што з беларускага боку каталізатарам эканамічнай зацікаўленасці да Азербайджана сталі нарастаючыя супярэчнасці ў адносінах з кіраўніцтвам Уладзіміра Пуціна, наконт коштаў і спосабаў разліку за пастаўкі расійскай нафты і газу. Імкненне знайсці альтэрнатыўных пастаўшчыкоў вуглевадароднай сыравіны, а таксама магчымых крэдытораў, на выпадак згортвання крэдытнай падтрымкі з боку Масквы, вымушалі звярнуць большую ўвагу на магчымасці супрацоўніцтва з Азербайджанам.

У сваю чаргу ў Азербайджана таксама расце зацікаўленасць да супрацоўніцтва з Беларуссю. У 2000-я гады за кошт нафтаздабычы гэтая краіна ўжо аднавіла эканамічны патэнцыял, страчаны пасля крызісу першых гадоў незалежнасці і ваеннага канфлікту з Арменіяй у Нагорным Карабаху. Як піша беларускі эканаміст азербайджанскага паходжання Фарман Юсубаў, стратэгія эканамічнага развіцця Азербайджана грунтуецца на выкарыстанні нафтавага фактару дзеля мадэрнізацыі прамысловасці ў бок імпартазамяшчэння (Юсубов, 2011, 98). Таму адной з важных тэм беларуска-азербайджанскага эканамічнага супрацоўніцтва стала стварэнне на тэрыторыі Азербай-

джана сумесных прадпрыемстваў па вытворчасці сельскагаспадарчай тэхнікі і тэхнікі для нафтаздабычы.

Значная ўвага надаецца і павышэнню ваеннага патэнцыялу краіны ў сувязі з нявырашаным Карабахскім канфліктам і непрызнаннем азербайджанскім кіраўніцтвам страты кантролю над часткай сваёй тэрытотрыі. Таму відавочна і зацікаўленасць азербайджанскага боку ў пастаўках ваеннай тэхнікі і супрацоўніцтве з беларускім ВПК. Прынамсі ў апошнія гады Азербайджан стабільна фігуруе ў спісе асноўных імпарцёраў беларускай ваенна-тэхнічнай прадукцыі (Будкевич, 2013; Википедия, 2013).

Разгледзім больш падрабязна дынаміку асноўных паказчыкаў беларуска-азербайджанскіх эканамічных стасункаў у перыяд іх актывізацыі – пачынаючы з 2006 года. Тэндэнцыі развіцця беларускага гандлю з Азербайджанам адлюстраваны ў табліцы 3.

**Табліца 3: Гандаль Беларусі з Азербайджанам, 2006 – 2012 гады.**

| | 2006 | 2007 | 2008 | 2009 | 2010 | 2011 | 2012 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Таваразварот (млн. дал.) | 37,2 | 89,7 | 111.6 | 124,6 | 146,2 | 1026 | 223,3 |
| Экспарт (млн. дал.) | 34,5 | 86,4 | 105,4 | 120,3 | 140,2 | 200,2 | 211,1 |
| Імпарт (млн. дал.) | 2,7 | 3,3 | 6,2 | 4,3 | 6,0 | 825,8 | 12,2 |
| Сальда (млн. дал.) | 31,8 | 83,1 | 99,2 | 116,0 | 134,2 | -625,6 | 198,8 |
| Доля ў сукупным экспарце | 0,17 % | 0,36 % | 0,32 % | 0,56 % | 0,55 % | 0,48 % | 0,46 % |
| Доля ў сукупным імпарце: | 0,01 % | 0,01 % | 0,02 % | 0,02 % | 0,02 % | 1,80 % | 0,03 % |

*Крыніцы: Внешняя торговля, 2010: 34; 2012: 40; Национальный статистический комитет.*

З табліцы бачна, што хаця да 2012 года двухбаковы таваразварот няўхільна павялічваўся, у яго дынаміцы можна вызначыць два рэзкіх скачка – у 2007 і 2011 годзе. Пры гэтым, калі першы з іх быў абумоўлены значным павелічэннем (больш як удвая) беларускага экспарту ў Азербайджан, то другі – наадварот, рэзкім ростам імпарту з Азербайджана.

Увогуле, 2011 год рэзка выбіваецца з агульнага трэнду развіцця ўзаемнага гандлю – і тым, што таваразварот перавысіў 1 млрд. даляраў, і тым, што ў Беларусі ўпершыню атрымалася адмоўнае знешнегандлёвае сальда з Азербайджанам. Такая рэзкая змена гандлёвага трэнду была абумоўлена пастаўкамі ў Беларусь азербайджанскай нафты па своп-схеме з удзелам

Венесуэлы. У наступным 2012 годзе яны спыніліся і вярнуліся папярэднія тэндэнцыі з павольным, але няўхільным павышэннем беларускага экспарту і яго шматкратнай перавагай над імпартам. Доля Азербайджана ў сукупным экспарце Беларусі за гэтыя 6 год павялічылася амаль утрая, але толькі ў 2009–2010 гадах яна перавышала 0,5 %. У сукупным імпарце Беларусі доля гэтай краіны заставалася мізэрнай на працягу амаль усяго гэтага перыяду – за выняткам 2011 года, калі, дзякуючы пастаўкам нафты, яна ўзрасла ледзь не да 2 %.

Аснову беларускага экспарту ў Азербайджан складае прадукцыя машынабудавання (трактары, грузавыя аўтамабілі, аўтамабілі спецыяльнага прызначэння, прычэпы, дарожная тэхніка), прыборабудавання (электратрансфарматары), дрэваапрацоўкі (фанера, пліты ДСП), а таксама некаторыя харчовыя прадукты (пераважна малако і малочныя вырабы), керамічныя пліты, паліраванае шкло і шкляны посуд, шыны, палімеры эцілена (Посольство, 2012c). У 2011 – 2012 гадах на вядучыя пазіцыі ў структуры беларускага экспарту ў Азербайджан выходзяць прыборы, апаратура і мадэлі для дэманстратыўных мэт – ледзь не 10 % ад усяго экспарту ў гэту краіну (Внешняя торговля, 2011, 130; 2012, 129). З сярэдзіны 2000-х гадоў Азербайджан таксама становіцца адным з галоўных пакупнікоў беларускай ваеннай тэхнікі і ўзбраенняў. У табліцы 4 прыведзены дадзеныя аб беларускіх ваенных пастаўках ў Азербайджан адпаведна дадзеным ААН.

**Табліца 4. Беларускія пастаўкі ўзбраенняў і ваеннай тэхнікі ў Азербайджан.**

| | Найменне тэхнікі | Колькасць |
|---|---|---|
| 2005 | танкі Т-72 | 19 |
| 2006 | танкі Т-72 | 41 |
| 2007 | - | - |
| 2008 | самаходныя гаўбіцы 2С7 "Піён" 203 мм. | 3 |
| 2009 | самаходныя гаўбіцы 2С7 "Піён" 203 мм. | 9 |
| | штурмавікі Су-25 | 5 |
| 2010 | штурмавікі Су-25 | 1 |
| | 122-міліметровыя буксіруемыя гаўбіцы Д-30 | 30 |
| 2011 | - | - |
| 2012 | танкі Т-72 | 62 |
| | штурмавікі Су-25 | 1 |

*Крыніцы: Будкевич, 2013; Википедия, 2013.*

Наконт кошту гэтых паставак у аанаўскіх справаздачах не паведамляецца. Але, як бачна з табліцы, у Азербайджан пастаўляюцца пераважна састарэлыя мадэлі ваеннай тэхнікі, што дасталіся Беларусі ў спадчыну ад Савецкага Саюза.

Азербайджанскі экспарт у Беларусь прадстаўлены, галоўным чынам, сельскагаспадарчай прадукцыяй (садавіна і гародніна, сокі, бавоўна), а таксама ацыклічнымі спіртамі і тканінамі з сінтэтычных комплексных ніцей (Посольство, 2012c). Аднак з года ў год яго структура значна мяняецца. Так у 2011 годзе асноўнае месца ў структуры беларускага імпарту з Азербайджана занялі пастаўкі азербайджанскай нафты, але гэтыя пастаўкі насілі хутчэй разавы, чым рэгулярны характар. У 2012 годзе асноўнымі пазіцыямі імпарту былі нафтапрадукты (больш за 60 %) і ацыклічныя вуглевадароды (каля 12,5 %) (Внешняя торговля, 2012: 263; 2013: 203).

Аднак беларуска-азербайджанскія эканамічныя сувязі не абмяжоўваюцца ўзаемным гандлем. Развіваецца і супрацоўніцтва краін у інвестыцыйнай сферы. Як бачна з прыведзенай ніжэй статыстыкі, у 2006 – 2008 гадах азербайджанскія інвестыцыі ў Беларусі выраслі больш як у 50 разоў і перавысілі адзнаку ў паўмільярда даляраў. У наступным годзе адбыўся іх пяцікратны спад, а ў 2010 – 2011 гадах – зноў хуткі рост, калі яны дасягнулі свайго максімуму за ўвесь перыяд, за якім адбыўся новы спад. Такім чынам, азербайджанскія інвестыцыі ў Беларусі адзначаліся вельмі непаслядоўнай дынамікай, прычым рэкордны рост 2011 года быў адзначаны не за кошт прамых ці партфельных інвестыцый, а тых што былі аднесены ў катэгорыю "іншыя", да якой звычайна адносяць гандлёвыя крэдыты і банкаўскія ўклады. Азербайджанскія інвестыцыйныя праекты ў Беларусі ўключаюць будаўніцтва гандлёва-лагістычнага цэнтра, бізнес цэнтра і аб'ектаў грамадскага харчавання ў Мінску і некаторых іншых гарадах. Таксама абмяркоўваецца ўдзел азербайджанскіх інвестараў у праграме прыватызацыі ў Беларусі (Посольство, 2012c).

**Табліца 5. Дынаміка азербайджанскіх інвестыцый у Беларусі.**

| | 2006 | 2007 | 2008 | 2009 | 2010 | 2011 | 2012 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Прамыя** | 11,9 | 184,2 | 542,8 | 64,7 | 1525,9 | 12062,4 | 10541,7 |
| **Партфельныя** | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| **Іншыя** | 0 | 0 | 21,2 | 34,9 | 0,5 | 300013 | 64,3 |
| **Усяго** | 11,9 | 184,2 | 564,0 | 99,6 | 1526,4 | 312075,4 | 10606,0 |

*Крыніцы: Инвестиции, 2008: 13; 2010: 16; 2012: 39.*

Што тычыцца беларускіх інвестыцый у Азербайджане, яны накіраваны пераважна на стварэнне ў гэтай краіне тавараправодных сетак айчынных прадпрыемстваў. Па афіцыйных звестках, зараз там дзейнічаюць сеткі 40 беларускіх вытворцаў. У 2009–2010 гадах былі створаны су-

месныя прадпрыемствы Універсальны гандлёвы дом “Баку-Мінск” і ТАА Гандлёвы дом “АзНёманБХЗ” па гандлі беларускім крышталём (Пасольства, 2012с).

Атрымала развіццё і прамысловая кааперацыя – пераважна ў галіне сельскагаспадарчай тэхнікі. У 2007 годзе ў Азербайджане была наладжана зборка беларускіх трактароў і грузавых аўтамабіляў, а таксама кааперацыя па вытворчасці мабільных буравых установак. Асноўным партнёрам з азербайджанскага боку па супрацоўніцтве з беларускімі прадпрыемствамі МАЗ, МТЗ і Белаграмаш выступае аўтамабільны завод горада Гянджа. У якасці пацверджання паспяховасці беларуска-азербайджанскай прамысловай кааперацыі прыводзіцца факт падпісання трохбаковага кантракта на 10 год паміж беларускімі, азербайджанскімі і нямецкімі вытворцамі камунальнай тэхнікі (Юсубов, 2011, 100–101).

Нарэшце, трэба ўзгадаць яшчэ і пра такі накірунак эканамічнага супрацоўніцтва, як крэдытаванне Беларусі з боку Азербайджана. Вядома, што 23 чэрвеня 2010 года паміж урадамі дзвюх краін у Баку было падпісана пагадненне пра выдачу Азербайджанам Беларусі дзяржаўныга крэдыту ў памеры 200 млн. дал. дзеля пагашэння запазычанасці перад расійскім “Газпрамам”. І хаця некаторыя эксперты пісалі, што разлічваць на працяг азербайджанскай крэдытнай падтрымкі не варта, бо, у адрозненні ад Венесуэлы, Баку не мае палітычных матываў для прадстаўлення Мінску асаблівых эканамічных прэферэнцый і зыходзіць выключна з прагматычных інтарэсаў (Тихомиров, 2011), эканамічны аналітык Сяргей Чалы сцвярджае, што ў 2011 – 2012 гадах Беларусь атрымала ад Азербайджана яшчэ адзін, а магчыма і два крэдыты (Чалый и Свердлов, 2014). Пры гэтым ён спасылаецца на пастанову Саўміну № 1001 ад 27 ліпеня 2011 г. (то бок адразу пасля візіту ў Баку М. Мясніковіча) аб крэдытным займе “Беларуськалія” ў 300 млн. дал. пад гарантыі беларускага ўраду з боку прыватнага азербайджанскага банка, які цалкам належыць сям’і прэзідэнта І. Аліева. Гэтыя звесткі пацвярджае і прыведзеная вышэй інвестыцыйная статыстыка, адпаведна якой менавіта такую суму мы бачым у графе “іншыя інвестыцыі” з Азербайджана за 2011 год. Трэці крэдыт Беларусі ў памеры 400 – 450 млн. дал., па версіі Чалага, мог быць выдзелены пасля чарговага візіту ў Мінск азербайджанскага кіраўніка ў жніўні 2012 года, аднак ніякіх пацверджанняў гэтага не прыводзіцца.

## Заключэнне

Такім чынам, за некалькі год Азербайджан, які да сярэдзіны 2000-х гадоў фактычна не меў істотных адносін з Беларуссю, становіцца адным з прыярытэтных знешнепалітычных і эканамічных партнёраў нашай краіны. Аб гэтым сведчаць і рэгулярнасць палітычных кантактаў на вышэйшым і высокім узроўнях, і створаная даволі шырокая дамоўна-прававая база (як па колькасці дакументаў, так і па сферах іх рэгулявання), і, нарэшце, гатоўнасць азербай-

джанскага боку аказваць нашай краіне крэдытную падтрымку. Праўда, калі паглядзець на гандлёвую статыстыку, Азербайджан пакуль ніяк нельга ўключыць у лік асноўных знешнегандлёвых партнёраў Беларусі. Але, як сведчыць аналіз тэматыкі палітычных кантактаў, у выпадку Азербайджана нарошчванне прамога гандлю таварамі і не з'яўляецца галоўным знешнеэканамічным прыярытэтам Беларусі. Куды большая ўвага надаецца развіццю прамысловай каапераціі і стварэнню ў Азербайджане зборачных вытворчасцяў беларускай тэхнікі, што будуць працаваць не толькі на ўнутраны рынак Азербайджана, але і выходзіць у перспектыве на рынкі суседніх з ім дзяржаў.

Што тычыцца беларуска-азербайджанскага супрацоўніцтва ў ваеннай сферы, не варта перабольшваць яго маштабы і значэнне, бо ў гэтую краіну з Беларусі экспартуецца не новая прадукцыя айчыннага ВПК, а старая савецкая тэхніка. Зразумела, што запасы такой тэхнікі ў нас не бязмежныя, а яе кошт на міжнародным рынку ўзбраенняў з цягам часу будзе толькі памяншацца. Таму гэта хутчэй невялікі эпізод, чым доўгатэрміновы трэнд у развіцці беларуска-азербайджанскіх адносін.

Безумоўна, важнае значэнне для Беларусі мае і тое, што ў асобе Азербайджана яна знайшла альтэрантыву расійскім пастаўкам нафты і газу. Азербайджанскі бок, відавочна, таксама не супраць асвоіць новы беларускі рынак для сваёй вуглевадароднай сыравіны. Аднак, як паказаў досвед 2011 года, наладзіць трывалыя пастаўкі ў Беларусь азербайджанскай нафты аказалася даволі складанай справай. Транзіт праз тэрыторыю некалькіх трэціх краін робіць гэтыя пастаўкі даволі невыгоднымі. Таму хутчэй за ўсё беларускае кіраўніцтва разглядае Азербайджан не ў якасці рэальнай альтэрнатывы па замяшчэнні імпарту расійскай нафты і газу ў кароткатэрміновай перспектыве, а як "страхоўку" на выпадак будучых абвастрэнняў нафта-газавых супярэчнасцяў з Масквой.

У гэтай сувязі паказальна і тое, што развіццё беларуска-азербайджанскага супрацоўніцтва адбываецца пераважна па-за фарматам СНД і іншых рэгіянальных аб'яднанняў, дзе дамінуе Расія. Галоўную ролю ў ім, безумоўна, адыгрывае двухбаковы фармат, які дапаўняецца паслядоўнай падтрымкай Азербайджанам афіцыйнага Мінску ў такіх еўрапейскіх структурах, як АБСЕ, ПАСЕ і "Усходняе партнёрства" ЕС. Пры гэтым кіраўніцтва Азербайджана асуджае заходнюю палітыку згортвання палітычных кантактаў з вышэйшым кіраўніцтвам Беларусі (за што І. Аліеў нават быў раскрытыкаваны азербайджанскай апазіцыяй). Такім чынам, пазіцыю Азербайджана ў дачыненні Беларусі нельга назваць ні прарасійскай, ні празаходняй. Патлумачыць дасягнуты высокі ўзровень адносін выключна прагматычнымі інтарэсамі азербайджанскага боку таксама не выпадае з нагоды пакуль не надта шчыльных эканамічных сувязяў. Таму тут не варта ігнараваць даволі важны, калі размова ідзе аб краінах Усходу, фактар добрых асабістых адносін паміж кіраўнікамі абедзвюх дзяржаў.

**Літаратура**

1. Беларусь у Фокусе (2011) Будущее Беларуси в Евронесте. – 24.04.2011. URL (доступ 17.04.2013): http://belarusinfocus.info/by/p/265buduschee_belarusi_v_evroneste
2. БЕЛТА (2010a) Между Беларусью и Азербайджаном существуют широкие возможности для всестороннего развития связей – Андрейченко. – 01.06.2010. URL (доступ 27.04.2013): http://www.belta.by/ru/all_news/politics/Mezhdu-Belarusju-i-Azerbajdzhanom-suschestvujut-shirokie-vozmozhnosti-dlja-vsestoronnego-razvitija-svjazej---Andrejchenko_i_581608.html
3. БЕЛТА (2010b) Парламентарии Беларуси и Азербайджана констатируют высокий уровень сотрудничества между двумя странами. – 01.06.2010. URL (доступ 27.04.2013): http://www.belta.by/ru/all_news/politics/Parlamentarii-Belarusi-i-Azerbajdzhana-konstatirujut-vysokij-uroven-sotrudnichestva-mezhdu-dvumja-stranami_i_513788.html
4. Будкевич, Вячеслав (2013). В 2012 году Беларусь продавала обычные вооружения в Азербайджан, Йемен и Великобританию. TUT.BY 09.12.2013. URL (доступ 29.01.2014): http://news.tut.by/society/378064.html
5. Википедия. (2013) Азербайджано-белорусские отношения. URL (доступ 29.01.2014): http://ru.wikipedia.org/wiki/Азербайджано-белорусские_отношения
6. Внешняя торговля Республики Беларусь (2009) статистический сборник.
7. Внешняя торговля Республики Беларусь (2010) статистический сборник.
8. Внешняя торговля Республики Беларусь (2011) статистический сборник.
9. Внешняя торговля Республики Беларусь (2012) статистический сборник.
10. Внешняя торговля Республики Беларусь (2013) статистический сборник.
11. Закавказье: информационно аналитический бюллетень (2001). № 35 (01.09.2001) Хроника. URL (доступ 17.04.2013): http://www.zatulin.ru/institute/sbornik/035/05.htm
12. Инвестиции в Республику Беларусь из-за рубежа (2008) статистический сборник.
13. Инвестиции в Республику Беларусь из-за рубежа (2010) статистический сборник.
14. Инвестиции в Республику Беларусь из-за рубежа и инвестиции из Республики Беларусь за рубеж (2012) статистический сборник.
15. Консультант Плюс (2013) Справочная правовая система: Версия проф. Технология 3000 / ООО "ЮрСпектр".
16. Медиафорум (2006) Президент Ильхам Алиев находится с визитом в Беларуси. – 17.10.2006. URL (доступ 11.05.2013): http://www.mediaforum.az/rus/2006/10/17/ПРЕЗИДЕНТ-ИЛЬХАМ-АЛИЕВ-НАХОДИТСЯ-С-ВИЗИТОМ-В-БЕЛАРУСИ-040737301c.html
17. Министерство иностранных дел Республики Беларусь (2004). Материалы брифинга заместителя начальника управления информации МИД Р. О. Есина, проведенного для представителей СМИ 4 ноября 2004 г. URL (доступ 21.03.2013): http://www.mfa.gov.by/press/news_mfa/fce54ddd6bfdef20.html
18. Министерство иностранных дел Республики Беларусь (2011). О визите Премьер-министра Республики Беларусь Михаила Мясниковича в Азербайджанскую Республику. URL (доступ 21.03.2013): http://mfa.gov.by/press/news_mfa/f0168b93f086ca51.html
19. Министерство иностранных дел Республики Беларусь (2012a). О белорусско-азербайджанских межмидовских консультациях. URL (доступ 21.03.2013): http://mfa.gov.by/press/news_mfa/f51f5c42ed92bafe.html
20. Министерство иностранных дел Республики Беларусь (2012b). О белорусско-азербайджанских межмидовских консультациях. URL (доступ 21.03.2013): http://mfa.gov.by/press/news_mfa/fb26f84113e02a9e.html

21. Национальное Собрание Республики Беларусь. (2008). 18 июня 2008 года начался визит парламентской делегации Республики Беларусь во главе с Председателем Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь Поповым В.А. в Азербайджанскую Республику. – 19.06.2008. URL (доступ 27.04.2013): http://house.gov.by/index.php/,1,17201,1,,0,,,0.html
22. Национальное Собрание Республики Беларусь. Совет Республики. (2009). Визит делегации Милли Меджлиса Азербайджанской Республики URL (доступ 27.04.2013): http://www.sovrep.gov.by/index.php/.596.5171...0.0.0.html
23. Национальное Собрание Республики Беларусь. Совет Республики. (2010). Вадим Попов принял участие в международном наблюдении за парламентскими выборами в Азербайджане. URL (доступ 27.04.2013): http://www.sovrep.gov.by/index.php/.480.6175.2..0.0.0.html
24. Национальный статистический комитет Республики Беларусь. (2013) Основные показатели внешней торговли // URL (доступ 21.03.2013): http://belstat.gov.by/homep/ru/indicators/ftrade1.php
25. Посольство Республики Беларусь в Азербайджанской Республике (2012a) Белорусско-азербайджанские отношения в ретроспективе: состояние и перспективы. URL (доступ 17.04.2013): http://azerbaijan.mfa.gov.by/rus/relations/
26. Посольство Республики Беларусь в Азербайджанской Республике (2012b) Политические отношения. Сотрудничество Республики Беларусь и Азербайджанской Республики в политической сфере. URL (доступ 17.04.2013): http://azerbaijan.mfa.gov.by/print/ru/bilateral_relations/
27. Посольство Республики Беларусь в Азербайджанской Республике (2012c). Сотрудничество Республики Беларусь и Азербайджанской Республики в торгово-экономической области. URL (доступ 17.04.2013): http://azerbaijan.mfa.gov.by/rus/relations/
28. Посольство Республики Беларусь в Азербайджанской Республике. (2013). Договорно-правовая база Республики Беларусь и Азербайджанской Республики. URL (доступ 29.06.2013): http://azerbaijan.mfa.gov.by/ru/bilateral_relations/DPB/
29. Посольство Республики Беларусь в Азербайджанской Республике. (2014) Белорусско-азербайджанские двусторонние отношения. URL (доступ 29.06.2013): http:// http://azerbaijan.mfa.gov.by/print/ru/bilateral_relations/
30. Тихомиров, Андрей (2011). Удастся ли Минску раскрутить Баку на спонсорство? *Newsland,* URL (доступ 27.04.2013): http://newsland.com/news/detail/id/746073/
31. Чалый, Сергей; Свердлов Павел (2014). "Экономика на пальцах". Продолжится ли политика затягивания поясов населению и в 2014 году? *TUT.BY* 13.01.2014. URL (доступ 29.01.2014): http://news.tut.by/economics/381565.html
32. Юсубов, Фарман (2011) Совершенствование торгово-экономического партнерства Беларуси и Азербайджана, Журнал международного права и международных отношений, 4: 94 – 102.
33. Ministry of Foreign Relations of the Republic of Azerbaijan (2013) Azerbaijan-Belarus relations. Political relations. URL (consulted 29.06.2013): http://www.mfa.gov.az/files/file/Azerbaijan%20-%20Belarus%20relations.pdf
34. NAVINY.BY (2004). Премьер-министр Азербайджана посетит с официальным визитом Беларусь. – 25.3.2004. URL (доступ 27.04.2013): http://naviny.by/rubrics/politic/2004/03/25/ic_news_112_254291/
35. NAVINY.BY (2007). Готовится официальный визит Александра Лукашенко в Азербайджан. – 09.03.2007. URL (доступ 27.04.2013): http://naviny.by/rubrics/politic/2007/03/09/ic_news_112_267855/

36. NAVINY.BY (2009). Алиев доволен отношениями Азербайджана и Беларуси. – 12.11.2009. URL (доступ 27.04.2013): http://naviny.by/rubrics/economic/2009/11/12/ic_news_113_321177/
37. NAVINY.BY (2013). Оппозиция Азербайджана обвиняет официальный Баку в финансовой поддержке Лукашенко. – 09.04.2012. URL (доступ 27.04.2013): http://naviny.by/rubrics/politic/2012/04/09/ic_news_112_390845/
38. TUT.BY (2007). Сидорский 28 – 29 марта посетит Азербайджан. – 27.03.2007. URL (доступ 21.03.2013): http://news.tut.by/economics/85159.html
39. NAVINY.BY (2010). Лукашенко совершит визит в Азербайджан. – 02.06.2010. URL (доступ 27.04.2013): http://naviny.by/rubrics/politic/2010/06/02/ic_news_112_332260/
40. TUT.BY (2009). 7 июля Сидорский совершит рабочий визит в Азербайджан. – 06.07.2009 URL (доступ 17.04.2013): http://news.tut.by/politics/141907.html

©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 20, 2013

Лукаш Войцешак

# Адносіны Расіі да перспектываў выкарыстання Польшчай сланцавага газу

## Уводзіны

Праблема энергетычнай бяспекі шмат год з'яўляецца надзвычай істотным пытаннем, якое прыцягвае ўвагу як прымаючых рашэнні палітыкаў, так і зацікаўленых прадпрымальнікаў і звычайных грамадзянаў. Усведамленне сур'ёзнай залежнасці Польшчы ад паставак энерганосьбітаў з Расіі прымушае ўлады шукаць іншыя шляхі дастаўкі сыравіны, а таксама ўласныя радовішчы. Польшча мае вялікія радовішчы прыроднага газу, аднак не менш істотнае значэнне могуць мець наяўнасць на яе тэрыторыі радовішчаў сланцавага газу. Другім не менш істотным пытаннем і ў той жа час шанцам на павелічэнне энергетычнай бяспекі Польшчы (а таксама іншых краінаў Еўропы і свету) з'яўляецца перспектыва дастаўкі марскім шляхам амерыканскага звадкаванага газу, які паходзіць са сланцаў.

Як магчымасць атрымання сланцавага газу з уласных крыніцаў, так і яго атрыманне, дзякуючы імпарту з ЗША, значыць аслабленне ўплываў Масквы ў Польшчы. Расійскія інтарэсы магла б закрануць нават частковая дыверсіфікацыя крыніцаў паходжання, спажываемых Польшчай энерганосьбітаў. У той жа час, паводле некаторых прагнозаў, Польшча можа стаць нават экспарцёрам сланцавага газу і атрымаць, такім чынам, панацэю ад многіх фінансавых праблемаў. У гэтым тэксце мы перадусім сканцэнтруемся на праблеме газавай бяспекі Польшчы і рэакцыі Расіі на перспектывы атрымання Польшчай энерганосьбітаў са сланцаў.

З'яўленне інфармацыі пра наяўнасць у Польшчы вялікіх радовішчаў сланцавага газу сутыкнулася з жывой рэакцыяй на Усходзе. Існаванне сур'ёзных рэзерваў газу ў Польшчы можа стаць праблемай для яго экспарцёраў. У такой сітуацыі важна паставіць пытанне пра тое, як разглядаюць гэтую праблему расійскія палітычныя эліты, прадстаўнікі энергетычнага сектара і, нарэшце, мясцовыя журналісты. Ці трактуецца гэта праблема як рэальная пагроза для расійскіх уплываў?

## Пагроза пазіцыі Расіі як пастаўшчыка газу

Расія з'яўляецца бясспрэчным манапалістам у пастаўках ключавой энергетычнай сыравіны: нафты і прыроднага газу. На шырокіх абшарах гэтай дзяржавы знаходзяцца гі-

ганцкія рэзервы гэтых выкапняў, што дае важныя эканамічныя і палітычныя перавагі для расійскіх уладаў. Асаблівую важнасць мае той факт, што Расія застаецца найважнейшым пастаўшчыком прыроднага газу для значнай колькасці еўрапейскіх дзяржаў. Варта адзначыць, што такая сітуацыя склалася яшчэ ў перыяд існавання СССР. Энергетычную манаполію шмат гадоў выкарыстоўвае Крэмль, імкнучыся з дапамогай сеткі газаправодаў паглыбіць залежнасць як дзяржаў Усходняй і Цэнтральнай, так і Заходняй Еўропы. Экспансіяніцкія памкненні Крамля сталі асабліва заўважнымі пасля таго, як у 2000 годзе да ўлады прыйшоў Уладзімір Пуцін, каторы стварыў з блакітнага паліва своеасаблівую зброю ў барацьбе за пашырэнне як гаспадарчых, так і палітычных уплываў Расіі.

Пад канец 2010 года Расія валодала рэзервамі прыроднага газу, якія ацэньваюцца прыблізна ў 44,4 трыльёнаў м$^3$, а ў 2011 годзе здабыла 607 мільярдаў м$^3$ гэтай сыравіны (British Petroleum, 2012: 20, 22). Дамінаванне Расіі на энергетычных рынках дазваляе ёй ужо шмат гадоў выкарыстоўваць ціск на ўрады розных краін праз пагрозы зменшыць ці скараціць пастаўкі газу. Ахвярамі гэтага ўжо сталі суседнія дзяржавы: Украіна і Беларусь. Своеасаблівай зброяй на службе палітычна-гаспадарчых інтарэсаў Крамля застаецца канцэрн “Газпрам”. Гіганцкае прадпрыемства шмат гадоў забяспечвае для Расіі фінансавыя сродкі, патрэбныя для рэалізацыі палітыкі, якая, у вялікай ступені, мае на мэце аднаўленне страчаных раней пазіцый і вяртанне ўплыву на некалі падпарадкаваныя абшары. Адначасова трэба заўважыць, што Газпрам імпартуе газ з Азербайджана і Туркменістана, а фінансавы стан карпарацыі не самы лепшы.

Дзякуючы дасягненню заўважаных пазіцый на сусветным энергетычным рынку, Расія імкнецца адбудаваць палітычныя ўплывы, якія меў СССР. На працягу першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя Расія здолела значна павялічыць сваё значэнне ў міжнародных адносінах, аднавіўшы, у пэўнай ступені, патэнцыял і прэстыж дзяржавы. Энергетычная дамінацыя Расіі ў Еўропе, праявай якой з’яўляецца газаправод “Паўночны паток” і праектаваны “Паўднёвы паток”, вымушаюць шэраг дзяржаў у меншай ці большай ступені імкнуцца да атрымання незалежнасці ад расійскай сыравіны. Палітыкі ў Маскве ўсведамляюць, што ў выпадку цяжкасцяў з продажам выкапняў пазіцыя Расіі ў свеце можа пагоршыцца, што будзе пагражаць не толькі яе планам рэінтэграцыі тэрыторыі былога Савецкага Саюза (інструментам гэтага служаць Мытны Саюз і Еўразійская Эканамічная Супольнасць), але і можа выклікаць эрозію дзяржавы, пазбаўленай іншых важных крыніцаў эканамічнай магутнасці.

## Сланцавы газ як пагроза для расійскіх інтарэсаў

Прыродны газ можна падзяліць на той, які знаходзіцца ў традыцыйных і нетрадыцыйных радовішчах. Калі эксплуатацыя першага тыпу радовішчаў не стварае праблемы і

з'яўляецца працэсам вядомым пачынаючы з XIX стагоддзя, то здабыча сыравіны ў другім выпадку выглядае зусім па-іншаму. Прыкладам газу, які знаходзіцца ў нетрадыцыйных радовішчах, з'яўляецца сланцавы газ, ён знаходзіцца ў пародах свайго першапачатковага ўтварэння. Акрамя сланцавага газу можна вылучыць шэраг відаў нетрадыцыйных радовішчаў: закрыты газ (tight gas), які паходзіць з залежаў вугалю (coalbed methane), глыбінны газ (deep gas), а таксама газавыя гідраты. Усіх іх адрозніваюць, у першую чаргу, месцы здабычы – сланцавыя пароды, ізаляваныя пароды ці залежы вугалю (Gaz łupkowy – technologia 2010).

Першыя спробы эксплуатацыі сланцавага газу былі распачатыя ўжо ў 1821 годзе ў ЗША[1] (Gaz łupkowy. Podstawowe.., 2010), аднак у сувязі з малой эфектыўнасцю здабычы такога тыпу працу спынілі. Змены прынесла развіццё тэхналогіі: быў ужыты працэс "адкрыцця" парод, названы гідраўлічным разрывам пластоў, што заснаваны на запампоўцы вады пад ціскам, а потым дробназярністага пяску, які заціскаецца ў расколіны, паўсталыя ў пародзе, і не дазваляе ім закрыцца. У прамысловых маштабах тэхналогія гідраўлічнага разрыву пластоў першы раз была ўжытая ў 2003 годзе. Разам з развіццём тэхналогіі вада і пясок былі замененыя больш передавымі сумесямі і керамічнымі матэрыяламі з рэгуляванай вязкасцю і велічынёй (Gaz łupkowy – technologia 2010).

Трэба заўважыць, што рэнтабельнасць здабычы газу са сланцаў залежыць ад існавання натуральнай сеткі расколін і гідраўлічнай стымуляцыі, пры гэтым з прычыны значнай разнастайнасці складаных умоваў рэнтабельнасць можа значна адрознівацца нават на ўчастку аднаго і таго ж радовішча. У 2009 годзе парог рэнтабельнасці здабычы сланцавага газу ацэньваўся ў 0,12 – 0,37 $ на м3 пры сярэдняй 0,28 $ на м3. З мэтай заахвоціць здабычу ў нетрадыцыйных радовішчах у Злучаных Штатах ужо з 1980 года былі ўведзены падатковыя ільготы для вытворцаў нетрадыцыйнага паліва, якія дзейнічалі да 2002 года. (Gaz łupkowy – technologia, 2010).[2] Граючы ўсё большую ролю, сланцавы газ значна паўплываў на амерыканскі рынак сыравіны (Yergin, 2011: 329).

Атрыманнем газу са сланцаў зацікавілася не толькі Польшча, але таксама Украіна (Poland, 2013) і Беларусь (краіны ў вялікай ступені залежныя ад паставак расійскай сыравіны), а таксама шмат іншых дзяржаў. Беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ўжо ў красавіку 2010 года абвясціў пра ўдзел у пошуку радовішчаў – да

[1] Свідравіна глыбінёй 9,5 м шмат гадоў забяспечвала газам сістэму вулічнага асвятлення ў горадзе Фрэдонія, штат Нью-Ёрк.

[2] Згодна з меркаваннем Рычарда Гueранта, дырэктара еўрапейскага аддзела *Exxon Mobil*, *"Здабыча сланцавага газу больш складаная за здабычу звычайнага газу, шмат залежыць ад складу парод, адны дазваляюць здабычу, іншыя не. Іншая праблема – гэта шчыльнасць насельніцтва. На бязлюдных абшарах можна рабіць шмат свідравін, чаго патрабуе тэхналогія здабычы сланцавага газу, на заселеных абшарах – не".*

супрацы былі запрошаныя прадстаўнікі навукі (Лукашенко, 2010). Рост вытворчасці газу ў ЗША стаў сур'ёзнай праблемай для Крамля. "Газавая рэвалюцыя" ЗША можа мець важныя наступствы для ўсяго сусветнага рынку, таму што Злучаныя Штаты набліжаюцца да стварэння магчымасцяў дастаўкі звадкаванай сыравіны (LNG) да атрымальнікаў на іншых кантынентах. У выпадку Еўропы гэта азначае ўзнікненне канкурэнцыі, што можа пагражаць уплывам Масквы.

## Праблема энергетычнай бяспекі Еўропы

Дастаўка ў Еўропу прыроднага газу ўжо шмат гадоў з'яўляецца істотнай праблемай як для ўладаў асобных дзяржаў, так і для Еўрасаюза, куды ўваходзяць большасць краін кантынента. У Заходняй Еўропе ключавым вытворцам прыроднага газу выступаюць Нарвегія, Нідэрланды і Вялікабрытанія. У першую дэкаду XXI стагоддзя расла вытворчасць газу ў першай з пералічаных дзяржаў, а ў Вялікабрытаніі наадварот зменшылася. Сярод дзяржаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы важным вытворцам застаецца Украіна. Толькі невялікая частка еўрапейскіх краін мае магчымасць уласнага забеспячэння энерганосьбітамі, што ставіць іх у прывілеяваную пазіцыю (British Petroleum, 2012). Спажыванне газу краінамі Езўрасаюза павялічылася ў апошнія гады як вынік змяншэння цікавасці да вугалю і атаму як крыніц энергіі. У сярэдзіне першай дэкады XXI стагоддзя найважнейшымі атрымальнікамі расійскай сыравіны былі краіны ЕС (каля 70% прыпадала на краіны так званай "старой пятнаццаткі"), асабліва на Германію, Украіну і Італію (Łoskot-Strachota, 2006: 3). У 2030 годзе залежнасць ЕС ад імпарту газу можа скласці 80% (KOM, 2007; Энтин, 2008: 506).

Прыродны газ можа дасягаць кантынент з некалькіх кірункаў, аднак ужо некалькі дзесяцігоддзяў ключавое значэнне мае расійскі напрамак. З 1968 года газ з СССР пачаў паступаць у Аўстрыю (Мухин, 2001: 41), у ФРГ з 1973 года (Paniuszkin and Zygar, 2008: 6). Выразам сённяшняга стану супрацы Германіі і Расіі, акрэсленай назвай "стратэгічнага партнёрства", з'яўляецца стварэнне згаданага "Паўночнага патоку". Тут належыць таксама прыгадаць ролю Нарвегіі, дзяржаў Каспійскага мора і Паўночнай Афрыкі (Conn, 2012). У Заходнюю Еўропу газ пастаўляецца праз магістральныя газаправоды: для паставак сыравіны з рэгіёна Паўночнага мора былі пабудаваныя газаправоды восі Поўнач-Поўдзень, а для паставак з Расіі паўсталі газаправоды восі Усход-Захад (Michałowski and Trzop, 2005: 53). Нягледзячы на існуючую дыверсіфікацыю паставак газу ў Еўрасаюз, з боку расійскіх элітаў можна назіраць імкненне пераўтварэння існуючых сувязяў паміж Расіяй і ЕС у аднабаковую залежнасць ад паставак з Расіі (Сечин, 2010).

Еўрапейская Камісія не ставіцца з прыхільнасцю да доўгатэрміновых кантрактаў, якія заключаюць з Газпрамам некаторыя газавыя аператары краінаў Еўрасаюза, бо такія ўмовы блакуюць магчымасць утварэння

вольнага рынку, які патрабуе свабоднага доступу да трубаў, што злучаюць усе краіны еўрапейскай супольнасці (Grzeszak, 2010). Еўрапейскі Саюз шмат гадоў разважае, як застрахавацца ад мажлівага "закручвання крана" Газпрамам. Адна з магчымасцяў – захаванне часткі рэсурсаў блакітнага паліва з Паўночнага Мора ў якасці стратэгічных рэзерваў. Дылемы, перад якімі стаіць Еўрапейскі саюз, а шырэй – уся кантынентальная Еўропа, супадаюць такім чынам з праблемамі асобных дзяржаў, якія прагнуць мець стабільнасць у вузкай сферы газавай бяспекі. Адначасова, у перспектыве некалькіх гадоў, значную ролю можа адыграць транспарціроўка звадкаванага газу з ЗША. Частку патрэбаў Польшчы і некаторых іншых дзяржаў можа пакрыць здабыча сыравіны з польскіх нетрадыцыйных радовішчаў.

## Праблемы газавай бяспекі Польшчы ў кантэксце запасаў сланцавага газу

Стратэгічнае палажэнне Польшчы спрыяе яе ўдзелу ў шэрагу ініцыятыў, якія могуць гарантаваць энергетычную бяспеку дзяржавы, даючы пры гэтым шанец на выгоднае развіццё ў міжнародным асяроддзі. З іншага боку, пачынаючы з 90-х гадоў XX стагоддзя, можна заўважыць дзеянні, якія маюць намер выключыць Польшчу з энергетычных планаў ключавых гульцоў у рэгіёне, а таксама выразна аслабіць яе пазіцыі праз падпісанне некаторых пагадненняў, у прыватнасці польска-расійскай дамовы кастрычніка 2010 года (Protokół, 2011). Адпаведна, своеасаблівым контрзаходам на гэтую сітуацыю можа быць выкарыстанне залежаў сланцавага газу, якія знаходзяцца ў Польшчы і могуць павялічыць энергетычную бяспеку краіны.

Польшча належыць да групы Еўрапейскіх дзяржаў з невысокім узроўнем спажывання прыроднага газу, саступаючы такім краінам як Расія, Вялікабрытанія ці Германія. У 2010 годзе Польшча купляла ў Газпрама каля 70% патрэбных аб'ёмаў (Łakoma, 2010; Eurostat, 2010). Польскія рэсурсы прыроднага газу складаюць ледзьве каля 0,1% сусветных рэзерваў. У 2009 годзе іх узровень быў 149,05 мільярдаў $м^3$ (Zasoby, 2011).[3] Здаецца, што сланцавы газ можа ў пэўных абставінах аказацца альтэрнатывай для Польшчы не толькі ў сферы прадукцыі і выкарыстання энергіі, але і ў сферы змяншэння эмісіі парніковых газаў. Электрастанцыі, якія працуюць на сланцавым газе, могуць стаць адным з ключавых механізмаў дасягнення стандартаў ЕС у сферы абмежавання эмісіі разам з біямасай, энергіяй ветру і тэхналогіяй CCS[4] (Jóźwiak, 2010).

Працы па пошуку сланцавага газу пачаліся ў Польшчы ў 2006 годзе. Пры гэтым выкарыстоўвалася амерыканская тэхналогія (канцэрны з ЗША ад

[3] У 2009 годзе, паводле Дзяржаўнага геалагічнага інстытута, зарэгістраваныя запасы прыроднага газу дасягалі 138 мільярдаў $м^3$, пры гэтым навукоўцы дапускаюць, што запасы могуць дасягаць 600 мільярдаў $м^3$.

[4] Геалагічны секвестр вугляроду.

самага пачатку зацікавіліся працамі па пошуку сыравіны). Такім чынам, Польшча стала адной з першых краінаў свету, якая распачала даследаванні ўласных рэсурсаў сыравіны са сланцаў. Працы па пошуку газу сканцэнтраваліся перадусім у паўночнай і ўсходняй частках Памераніі, усходняй Мазовіі і ўсходняй Любельшчыне (Herbich, 2011). Польскі “сланцавы пояс” працягнуўся ад узбярэжжа, паміж Слупскам і Гданьскам, у кірунку Варшавы, аж да Любліна і Замосця (Gaz łupkowy. Podstawowe.., 2010). Пэўную праблему ствараў факт, што кошты эксплуатацыі ў Польшчы вышэйшыя з прычыны патрэбы выконвання больш глыбокага бурэння. Прагнозы высокіх коштаў пошуку і здабычы выкапняў прымушаюць задаваць пытанне пра рэнтабельнасць інвестыцый (Łakoma, 2011).

**Табліца 1. Спажыванне прыроднага газу ў Польшчы па гадах**

| | **2001** | **2003** | **2005** | **2007** | **2009** | **2011** |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Мільярд м$^3$ | 11,5 | 12,5 | 13,6 | 13,8 | 14,4 | 15,4 |

*Крыніца: Уласныя падлікі на падставе: British Petroleum, 2012.*

Аднак істотнае значэнне мае пытанне пра памеры польскіх рэсурсаў сланцавага газу. З 2012 года ўсё часцей стала з’яўляцца інфармацыя, што сыравіны ў Польшчы не так шмат, як меркавалася, што прывяло да значнага падзення зацікаўленасці замежных кампаній. Частка з іх пакінула Польшчу, адмовіўшыся ад распачатай працы. У сакавіку 2012 года Польскі геалагічны інстытут выдаў сваю першую справаздачу, падрыхтаваную ў супрацоўніцтве з экспертамі з ЗША і прысвечаную прыблізнай колькасці запасаў. Паводле гэтага дакумента, найбольш верагодная колькасць запасаў вагаецца паміж 346 і 768 мільярдамі м$^3$ (Shale Gas in Ukraine, 2013). Заслугоўвае ўвагі праблема выдання канцэсій на пошук сланцавага газу. Да жніўня 2012 года Міністэрства навакольнага асяроддзя Польшчы выдала 111 такіх канцэсій. Найбольш канцэсій атрымалі: дзяржаўная кампанія PGNiG, Petrolinvest і Marathon Oil Company. Да верасня 2012 года ўдалося выканаць каля 25 свідравін (PMR Consulting, 2012).

## Першыя рэакцыі расіян

Расійскія ўлады даведаліся пра польскія радовішчы сланцавага газу ў студзені 2010 года (Herbich, 2011). Масква разумела цяжкасці звязаныя з выкарыстаннем гэтых рэсурсаў, якія вынікалі з высокіх коштаў, неабходных дарагіх даследаванняў, а таксама пагрозы навакольнаму асяроддзю (Jaffe, 2010). Нягледзячы на прыхаваную занепакоенасць, Расія разумела магчымасць газавай эмансіпацыі Польшчы. Гэтую боязь толькі павялічыла перспектыва паставак звадкаванага газу з-за акіяну. Трэба заўважыць, што калі ў Вялікабры-

танію з ЗША прыплыў першы груз звадкаванага газу, прэзідэнт Расіі вырашыў уключыць пытанне сланцавага газу ў дактрыну энергетычнай бяспекі (Kublik, 2010c).

Праблема сланцавага газу выклікала рэакцыю розных расійскіх палітычных колаў. Расійскі міністр прыродных рэсурсаў Юры Трутнеў заявіў, што рост сусветнай здабычы газу з'яўляецца праблемай для Расіі, а асабліва для Газпрама. Юры Трутнеў нават прызнаў, што пад уплывам сланцавага газу існуе перспектыва трансфармацыі газавага рынку: *"Мы маем праблему са сланцавым газам. Гэта не толькі мая пазіцыя, але і Газпрама"*( Министр, 2010).

У выпадку сланцавага газу, Газпрам разлічвае на тое, што яго значэнне ў будучыні не будзе сур'ёзным. Улады Газпрама ўсведамляюць, што рост здабычы сланцавага газу ў ЗША можа значна змяніць увесь сусветны рынак і пагражаць рынкам расійскага канцэрна, а таксама ўдарыць па канкурэнтаздольнасці гэтай сыравіны ў ЕС. Калі пацвердзяцца падлікі ў Польшчы, то Еўропа можа зменшыць сваю энергетычную залежнасць ад Расіі (Orlicz and Orlicz, 2010). Падчас Еўрапейскага эканамічнага кангрэса ў Канах, які праходзіў у чэрвені 2010 года, старшыня праўлення Газпрама Аляксей Мілер даў адпаведны каментар. На думку Аляксея Мілера, меркаванне часткі дзяржаў і кампаній, што радовішчы сланцавага газу могуць пазбавіць іх залежнасці ад паставак з Расіі, з'яўляецца памылковым. Сланцавы газ не ёсць чымсьці новым і не павінен разглядацца як замена традыцыйнай сыравіны. Шэф Газпрама пазначыў, што, нягледзячы на вялікую колькасць радовішчаў, сланцавы газ выконвае толькі дадатковую ролю з прычыны нізкай прадуктыўнасці і высокіх коштаў здабычы. На думку Мілера, сланцавы газ з'яўляецца хіба найбольш дыскусійнай тэмай у галіне і бізнес-прэсе, але гэта часовая мода, і ён будзе адыгрываць важную і карысную ролю на традыцыйным газавым рынку толькі на рэгіянальным узроўні (Gaz łupkowy nie uniezależni.., 2010). З аднаго боку, старшыня Газпрама казаў аб "міфах" сланцавага газу (Gaz łupkowy wstrząsnął, 2010), але, з іншага боку, не хаваў раздражнення ацэнкамі амерыканскіх экспертаў, на думку каторых найбольшыя рэсурсы сланцавага газу ў Еўропе мае Польшча (Kublik, 2010a).

Пра сур'езнасць праблемы, якой для Газпрама (і пазіцыі Расіі ўвогуле) з'яўляецца магчымасць эксплуатацыі радовішчаў сланцавага газу, сведчыць уключэнне пытання сланцавага газу ў дактрыну энергетычнай бяспекі Расіі. Пра гэта было вырашана на пасяджэнні Рады бяспекі Расіі. Падчас пасяджэння прэзідэнт Дзмітрый Мядзведзеў заявіў, што Масква ўвядзе рэгулярны нагляд за развіццём тэхналогіі здабычы газу з нетрадыцыйных радовішчаў (галоўным чынам сланцавага газу, але таксама метану з залежаў каменнага вугалю), а таксама за планамі ўвасаблення такіх інавацый. Гэты крок азначаў радыкальны разварот у палітыцы расійскіх уладаў, якія дагэтуль недаацэньвалі значэнне сланцавага газу. Трэба заўважыць, што ўтварэнне дактрыны энергетычнай бяспекі з'яўляецца чымсьці

2004; Grinberg, 1994; Kamiński, 2013; Laskowski, 2006; Malenowicz, 2013). 2–3 снежня 2010 года ў Пабярове каля Шчэціна адбылася першая навуковая канферэнцыя, арганізаваная Шчэцінскім універсітэтам, прысвечаная анархізму, матэрыялы якой былі надрукаваныя ў зборніку (Krasucki et al., 2011). Акрамя таго, у Познані існуе анархісцкае выдавецтва "Bractwo Trojka".

У Расіі на хвалі *перабудовы* і агульнай актывізацыі грамадства анархізм пачаў адраджацца напрыканцы 80-х гадоў XX стагоддзя. Практычна аднагачасова з'явіліся "Анархо-синдикалистская свободная ассоциация" у Ленінградзе і "Конфедерация анархо-синдикалистов" (КАС) у Маскве. Ужо ў 1990 годзе з КАС вылучылася "Ассоциация движения анархистов" (АДА) (Тарасов, 1997; Рублев, 2008). На сённяшні дзень у Расіі дзейнічаюць разнастайныя анархісцкія аб'яднанні: АДА, "Автономное действие", "Конфедерация революционных анархо-синдикалистов", радыкальныя эколагі "Хранители радуги", контркультурнае "Панк-Возрождние", прафсаюз "Сибирская конфедерация труда", арт-актывісты "Война", радыкальны калектыў "Черный блог", а таксама шэраг лакальных груп і неаб'яднаных анархістаў. Асвятляецца анархізм і ў навуковым асяроддзі. Кожны год на радзіме Міхаіла Бакуніна адбываецца традыцыйная навуковая канферэнцыя "Прямухинские Чтения", матэрыялы якой выдаюцца ў зборніках (Прямухинские Чтения, 2001–2013).

У 2009 годзе маскоўскае выдавецтва "URSS" заснавала серыю "Размышляя об анархизме". Акрамя таго, шэраг навукоўцаў ВНУ Расійскай Федэрацыі займаюцца даследаваннямі анархізму (Шубин, 1998; Рябов, 2007; Рублев, 2010; Дамье, 2006; Ермаков, 1996). Знайсці навуковыя праекты, прысвечаныя анархізму, можна і ў Інтэрнэце: makhno.ru, socialist.memo.ru і іншыя.

На Украіне анархісты актывізаваліся ў палове 1980-х гадоў. У 1989 годзе ўкраінскія анархісты ўвайшлі ў расійскую КАС. У 1990 годзе з'яўляюцца "Конфедерация анархистов Украины" і "Федерация анархистов Донбасса", а ў 1994 годзе дзеючая і дагэтуль "Революционная конфедерация анархо-синдикалистов им. Батьки Махно" (Дубовик, 2001).

Сярод іншых сучасных анархісцкіх арганізацый найбольш актыўнымі з'яўляюцца палітычная партыя "Союз анархистов Украины" і студэнцкі прафсаюз "Прама Дія". Украінская гістарыяграфія анархізму з'яўляецца багатай з прычыны даследаванняў жыцця і дзейнасці аднаго з найбольш знаных анархістаў Нестара Махно. Менавіта на яго радзіме ў Гуляйполі з 2006 па 2010 гады адбываўся літаратурна-музычны фестываль "Махно-фэст". Сярод сучасных украінскіх даследчыкаў анархізму вылучаюцца: Анатоль Дубавік, Віктар Саўчанка, Уладзімір Чоп і іншыя (Чоп, 2002; Савченко, 2006, 2010). З савецкай літаратуры: (Яковлев, 1922; Горев, 1930; Ярославский, 1939; Комин, 1969; Волковинский, 1991).

Ва ўсіх пералічаных краінах анархісцкая дзейнасць засяроджваецца на наступных тэмах: сацыяльна-эканамічныя пратэсты, экалагічныя і антываенныя акцыі, прафсаюзная

актыўнасць, антыфашызм, контркультура і іншых. Па ўсіх краінах анархісты не маюць адной цэнтральнай арганізацыі ці аднаго асноўнага ідэалагічнага кірунку. Дзейнічаюць легальныя і канспіратыўныя групы, якія выкарыстоўваюць як прававыя, так і неправавыя метады, сярод якіх найбольш папулярнымі з'яўляюцца пікеты, хэпенінгі, страйкі, акцыі *прамога дзеяння (direct action),* формы грамадзянскага непадпарадкавання. Таксама варта падкрэсліць, што ўсе пералічаныя краіны маюць пэўныя анархісцкія традыцыі, на якіх можа будавацца і грунтавацца сучасны анархісцкі рух, чаго няма ў Беларусі. Што датычыць акадэмічных даследаванняў анархізму ў Расіі, Украіне і Польшчы, то гэтыя навуковыя напрамкі таксама з'яўляюцца адносна развітымі. Акрамя публікацыяў у навуковых часопісах, выданняў манаграфій ва ўсіх трох краінах адбываюцца навуковыя канферэнцыі і семінары, прысвечаныя леварадыкальным рухам і тэорыям, у тым ліку – анархізму. Такім чынам, нават на падставе гэтага кароткага агляду можна смела пацвердзіць тэзіс, што ў параўнанні з суседнімі краінамі актыўнасць беларускіх анархістаў, а таксама беларускія даследаванні анархізму знаходзяцца на больш іншым узроўні.

## III. Развіццё руху ў Беларусі

Складаная гісторыя беларускага народу і беларускай дзяржаўнасці не прывяла да актыўнага развіцця леварадыкальных ідэяў. Сітуацыя змянілася толькі напрыканцы 80-х гадоў, калі ў СССР дынамічна развіваўся працэс дэмантажу дзяржаўнай сістэмы, а нацыянальныя і дэмакратычныя рухі саюзных краін набіралі сілы. На палітычнай сцэне пачалі з'яўляцца новыя партыі і грамадскія структуры, цікавым прыкладам якіх былі і анархісты. Упершыню беларускія анархісты заявілі пра сабе ў красавіку 1991 года, калі група "Барацьба" арганізавала ў Гомелі страйк на тыпаграфскай фабрыцы "Палесдрук" (Канавальчык, 2002: 3). Ужо ў жніўні 1992 года на з'ездзе ў Менску былі прыняты агульныя праграмныя прынцыпы, свабодны дагавор і дэкларацыя аб утварэнні "Федэрацыі анархістаў Беларусі" (ФАБ). У дакументах падкрэслівалася аўтаномнасць кожнай групы і салідарнасць усіх удзельнікаў анархістычнага руху, якія аб'ядналіся па прынцыпах *"антыкапіталізму, антыэтатызму, інтэрнацыяналізму, экасацыялізму, антымілітарызму..."*. ФАБ адмаўлялася ад *"элементаў партыйных дысцыплінаў, статусаў, вертыкальнай падпарадкаванасці і іншых арганізацыйных будоў, супярэчных прынцыпу федэралізму"* (Канавальчык, 2002: 3; Тов. Хорхе, 2008: 7).

Сучасны беларускі анархізм нараджаўся ў перыяд, калі ўсе краіны былога СССР перажывалі гаспадарча-палітычную трансфармацыю. У гісторыі незалежнай Беларусі пераломным момантам стаў 1994 год, які адзначыўся пачаткам аўтарытарнага рэжыму і вызначыў развіццё краіны на дзесядзігоддзі наперад. Беларускія анархісты адразу распачалі дзейнасць, накіраваную на барацьбу з новай уладай. Першай у Беларусі ан-

тыпрэзідэнцкай акцыяй з актыўным удзелам анархістаў стаў хэпэнінг "Дзякуй прэзідэнту за хлеб і малако" (Канавальчык, 2002: 4), які адбыўся 14 кастрычніка 1994 года. Наступным палітычным перформансам стала кампанія падчас выбараў у Вярхоўны Савет Беларусі ў 1995 годзе –кандыдат ад анархістаў выступіў з вострай сатырычнай праграмай-пародыяй на выбары (Канавальчык, 2002: 5, БАЦ, 2008:20). У 1995 годзе актывізавалася Антыпартыйная група "Чырвоны Жонд" (ЧЖ), якая арагнізоўвала антыпрызідэнцкія, антывыбарчыя і іншыя хэпэнінгі.[1]

Характар акцыяў адлюстроўваў канцэпт групы: *"Змагайся і адпачывай!"*, таму запачаткаваная гомельскімі анархістамі сацыяльная дзейнасць і *"«сур'ёзная палітыка» ператваралася ў канцэптуальны сьцёб і вясёлы карнавал"* (Канавальчык, 2002: 6). Можна сцвердзіць, што анархісцкі рух таго часу выклікаў грамадскі рэзананс і бясспрэчна быў цікавай з'явай на беларускай палітычнай сцэне, а прапагандысцкі акцэнт акцыяў спрыяў павелічэнню актывістаў у руху. З іншага боку, цяжка згадзіцца з меркаваннем, што анархізм *"выйшаў з палітычнага гета, стаўшы заўважным самастойным суб'ектам беларускай палітычнай сцэны"* (Канавальчык, 2002: 8).

Анархісты актыўна займаліся выдавецкай дзейнасцю, большай часткай "самвыдатам" ("Анархия", "ФАБ – листок", "Чорная ваверка", "Моладзь змагаецца", "Дура", "Бунтуйма!" і іншыя). У Гродна ў 2002 годзе адбылася канферэнцыя самвыдату, а палітыкасатырычныя "Навінкі" (газета, якая выходзіла ў 1998–2003 гадах па ініцыятыве ЧЖ, галоўным рэдактарам быў Паўлюк Канавальчык), сталі адным з найгучнейшых праектаў беларускіх анархістаў, які Павал Севярынец назваў *"найбольш скандальным эксперыментам субкультуры ў палітыцы ў 1998–99 гг."* (Севярынец, 2002). Феноменам газеты было тое, што яна з'яўлялася афіцыйна зарэгістраваным анархісцкім выданнем. Калектыў "Навінак" таксама стварыў мастацкакінематаграфічны праект "Навінкі Home Video", які выпусціў палітычную камедыю "Случай з пацаном", 2001 (34MAG.NET, 05.12.2011), *"гоблін-рымэйк"* "Александрыя Шклоўская", 2004 (Siskazhopa, 19.09.2011) і відэакомікс "Гудбай, Бацька!", 2006 (Serezha ZdorovetsVEVO, 28.12.10). У сваю чаргу, брэсцкімі анархістамі быў створаны "Свабодны Тэатар" (2001), які ад 2012 года дзейнічае пад назвай "Крылы Халопа" (*A-party-Я*, № 2: 13–17; Тэатр "Крылы Халопа", 13.03.2012).

Сярод іншых напрамкаў дзейнасці беларускіх анархістаў можна вылучыць некалькі асноўных. Экалагічныя акцыі: у 1998 годзе пачалася кампанія супраць будаўніцтва Беларускай АЭС, грамадская кампанія "Супраць знішчэння запаведных лясоў", у рамках якой у Менску быў арганізаваны музычны фестываль "Зялёны Шабаш" (сарваны АМАПам). З удзелам актывістаў ФАБ была ство-

[1] "Прагулка палітвязьняў вакол рэзыдэнцыі прэзыдэнта", "Даеш Ынтыграцыю!", "Сьмерць тырана", "Сабачыя выбары" і "Асваеньне апазыцыйнай дэманстрацыі" (Канавальчык, 2002: 7–8).

рана незалежная ініцыятыва “Экасупрацiў”, выдавалася газета “Вясёлка” (Канавальчык, 2002: 10).

Наступным прыярытэтам беларускіх анархістаў стаў антыфашызм: акрамя фізічных сутычак з праварадыкальнымі моладзевымі субкультурамі праводзіліся антыфашыстоўскія семінары, выдавалася газета “Антыфашык”, развіваўся рух “Антыфа” (Ластовский, 2008; Янкоўскі, 2010; АД, 2007). Да іншага важнага накірунку дзейнасці можна аднесці антыглабалізм. Акрамя лакальных акцыяў каля рэстаранаў McDonald’s у Менску пачалі ўсталёўвацца кантакты з заходнімі актывістамі. У 2000 годзе ФАБ удзельнічала ў міжнароднай акцыі антыглабалістаў “Anti-Global Action” у Празе, дзе праходзіў саміт Міжнароднага Валютнага Фонда і Сусветнага Банка. У 2001 годзе ў Крынках пад Беластокам польская Фэдэрацыя Анархістаў з дапамогай ФАБ арганізавала міжнародны лагер “Супраць межаў” (БАЦ, 2008: 21). З 2006 года ФАБ уваходзіць у Інтэрнацыянал Федэрацыяў Анархістаў, а ў 2007 годзе анархісты з Беларусі прымалі ўдзел у масавых пратэстах супраць саміту “Вялікай Васьмёркі” ў Германіі (БАЦ, 2008: 22).

Звярталі ўвагу анархісты і на праблемы вайны і мілітарызацыі: 23 лютага 1996 года ў Гродна адбылася акцыя “Fuck the Army”, 23 лютага 2001 года менскія актывісты ФАБ правялі акцыю-хэпэнінг супраць вайсковай павіннасці перад будынкам Менскага абласнога ваенкамата. Акрамя таго, у Менску ў 2001 годзе анархісты разам з лігай сэксуальных меншасцяў “Лямбда” правялі першую ў Беларусі тэатралізаваную дэманстрацыю сэксуальнай роўнасці “Love Parade”. Што тычыцца цыклічных мерапрыемстваў, то да іх можна залічыць штогадовы з’езд ФАБ, Беларускі Сацыяльны Форум і Анархісцкі Кангрэс. Аднак гэтыя мерапрыемствы практычна не ініцыявалі агульнабеларускіх кампаніяў і масавых акцыяў анархістаў. Можна згадзіцца з думкай, што праблемай у анархісцкім асяроддзі таго часу з’яўлялася *“адсутнасьць у анархістаў салідарнага ўяўленьня мэтаў анархістычнага руху ў Беларусі хаця б на бліжэйшую пэрспэктыву, што ў сваю чаргу ставіць пад сумнеў наяўнасьць нават элемэнтарнай каардынацыі паміж анархістамі пры правядзеньні некаторых акцыяў”* (Канавальчык, 2002: 14).

## IV. Сувязь з палітычнымі партыямі і грамадскімі арганізацыямі

Анархісты не з’яўляюцца зусім ізаляванай групай у беларускім палітычным жыцці, акрамя таго, яны ніколі не імкнуліся да ізаляцыі і заўсёды ўдзельнічалі ў больш шырокіх праектах. У Гродна пры ўдзеле анархістаў працавала Канфедэрацыя дзеючых суполак “Разам!”, якая, адкінуўшы дагматызм, старалася супрацоўнічаць з разнастайнымі сіламі (ад левых да правых), якія стаялі на прынцыпах свабоды, незалежнасці дэмакратыі, а таксама выступалі супраць неалібералізму, імперыялізму і ксенафобіі. Адны з найбольш знаных яе ўдзельнікаў – браты вакаліст анарха-панк гурта “Deviation” Стас Пачобут і журналіст Андрэй Пачобут. У Гомелі і Менску дзейнічала

Беларускае сацыяльнае дзеянне, а ў 2004 годзе ініцыятывы аб'ядналіся ў Беларускі сацыяльны рух "Разам" (БСРР) (Канавальчык, 2002: 13; Ушкін, 2008: 16).

За 20 гадоў у анархісцкім асяроддзі адбылася змена пакаленняў. Можна нават зарызыкаваць меркаванне, што ўжо актывізавалася трэцяе пакаленне беларускіх анархістаў. На сённяшні дзень сярод апазіцыйных структураў найбліжэй да актывістаў анархісцкага руху знаходзіцца першае пакаленне сучаснага беларускага анархізму, якое працягвае сваю дзейнасць у партыях левага напрамку. Перадусім гэта намеснік старшыні Беларускай партыі "Зялёныя" (БПЗ), прэтэндэнт на кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Юры Глушакоў, старшыня партыі Алег Новікаў (псеўданім Лёлік Ушкін, пра яго гл. Тарасов, 1997), а таксама П. Канавальчык і іншыя сябры партыі. У сваёй праграме яны выступаюць між іншым за экалагічную бяспеку, сацыяльную справядлівасць, прынцыпы самакіравання (БПЗ, 2010) і адкрыта сімпатызуюць анархізму (Новікаў, 2010).

Сярод сацыял-дэмакратаў такім прыкладам з'яўляецца былы палітвязень Сяргей Марцэлеў, які быў лідарам "Маладой Грамады" і кіраўніком штаба Міколы Статкевіча. Марцэлева ў 1990-х гадах *"выключылі"* з ЧЖ за *"правы апартунізм"* (Щедренок, 1998). Былы сябра АГП Яраслаў Раманчук з'яўляецца лібертарыянцам (Агофонов, 2010). У яго блогу знаходзяцца выказванні, з якімі можа згадзіцца большасць анархістаў: *"У прыроды і чалавецтва ёсць шмат ворагаў. Самы страшны і небяспечны сярод іх – дзяржава. Г. зн. распарадчыкі чужой маёмасці, грашыма, рэсурсамі і жыццямі грамадзян..."* (Романчук, 2011). Аднак крытычнае стаўленне да дзяржавы з боку гэтага беларускага палітыка з'яўляецца адзіным падабенствам да анархізму.

Найдалей ад ідэяў анархізму стаяць партыі нацыянальна-кансерватыўнага напрамку. Па словах лідара МФ Зміцера Дашкевіча, *"анархізм – палітычная ідэалёгія левага накірунку. Таму шчыльнага супрацоўніцтва паміж Маладым Фронтам і анархістамі быць ня можа (...) Да ідэалёгіі анархізму, які супрацьпастаўляе сям'і камуну й легалізацыю аднаполых шлюбаў, нацыянальнай ідэі – класавую тэорыю Маркса, дзяржаве – хаос «самавызначэньня», мы адносімся адмоўна й лічым анархізм утапічнай тэорыяй"* (МФ, 2011).У сваю чаргу аб стаўленні да нацыяналістычных арганізацыяў анархісты з групы "Революционное Действие" пішуць: *"Трэба змагацца з нацыянал-патрыятычнымі рухамі, якія падзяляюць і нацкоўваюць працоўных адзін на аднога па нацыянальных, рэлігійных, этнічных, палавых і інш. крытэрыях, у чым зацікаўленыя толькі маючыя ўладу..."* (РД, 02.12.2006).

Аўтару артыкула невядомыя прыклады сталага і афіцыйнага супрацоўніцтва анархістаў з партыямі і арганізацыямі кансерватыўнага накірунку (БНФ, МФ, БХД), хаця можна меркаваць, што ў беларускай рэчаіснасці такое супрацоўніцтва адбываецца на нефармальным узроўні. Цікавым здаецца факт, што арганізацыя ЧЖ з'яўлялася нацыянальна-дэмакратычнай моладзевай

структурай, якую ў 1995 годзе *"ўзурпавалі леварадыкальныя элементы"* (Канавальчык, 2002: 5). У 1997 годзе адбыўся футбольны матч на "Кубак Пазьняка" паміж камандамі ЧЖ і Моладзевай фракцыяй БНФ (Канавальчык, 2002:7). Вясной 2007 года анархістамі была заснавана нефармальная футбольная ліга (Belarus DIY Football League, 2013).

Сучасным прыкладам можна лічыць супрацоўніцтва палітвязняў з Бабруйска: сябра аргкамітэта па рэгістрацыі партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя Яўгена Васьковіча і маладых анархістаў Арцёма Пракапенкі і Паўла Сырамолатава. Нягледзячы на радыкальна адменныя погляды і праграмы, анархісты сумесна з палітычнымі партыямі перыядычна ўдзельнічалі ў масавых акцыях пратэстаў і апазіцыйных дэманстрацыях: палатачны гарадок на Кастрычніцкай плошчы ў 2006 годзе (Чернявка, 2006), акцыя супраць фальсіфікацыі выбараў у 2010 годзе, "Дзень Волі" (Печанко, 2011), "Чарнобыльскі Шлях" (РД, 2007, 2009),[2] "Сацыяльны Марш", а таксама "Народны Сход" (Valerikpunk, 10.10.2011).

Інакш выглядае сітуацыя з праварадыкальнымі групамі. Хаця аўтару цяжка пацвердзіць крыніцамі факты пераходу анархістаў у праварадыкальныя арганізацыі і наадварот, можна меркаваць, што такая з'ява мела месца, асабліва ў 1990-я гады. Праварадыкальныя групы, як напрыклад, "Правы Альянс" (а раней таксама незарэгістраваная Беларуская партыя свабоды), ставяцца да анархістаў аднязначна негатыўна (Высоцкі, 2007; БПС, 2011). На гэтай лініі ідзе сталая канфрантацыя, а найгучнейшы яе прыклад меў месца ў лістападзе 2007 года падчас "Сацыяльнага Маршу" ў Менску, калі анархістаў заатакавала ўльтранацыяналістычная арганізацыя "Белая Воля" (РД, 04.11.2007).

Варта дадаць, што ў апошнія гады на постсавецкай прасторы актыўна развіваецца рух "аўтаномных нацыяналістаў", які паступова пераймае тактыку і атрыбутыку анархістаў (Autanomns, 30.03.2013; Национальное Наступление 30.03.2013; TrueRowdy, 30.03.2013). Цікавы сучасны прыклад уяўляе сабой таксама Ігар Банцар, які з'яўляецца адначасова актывістам Саюза палякаў Беларусі, патрыётам Беларусі, удзельнікам антыфашысцкага руху і прадстаўніком DIY сцэны (Skinheads, 30.03.2013).

Пад уплывам палітычнай сітуацыі многія актывісты, якія трымаліся больш мірных і легальных метадаў палітычнай дзейнасці, пакінулі анархісцкі рух і перайшлі на працу ў грамадскія арганізацыі і ініцыятывы (экалагічныя, прафсаюзныя і іншыя). Напрыклад, удзельнік ФАБ Алесь Мазур (Kozak, 2011) быў кіраўніком "Выканаўчага бюро Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі", камендантам намётавага лягеру на Кастрычніцкай плошчы і выканаўчым дырэктарам "Асацыяцыі агенцыяў рэгіянальнага развіцця". "Антиатомное сопротивление" супрацоўнічае з шэрагам экалагічных

[2] Варта падкрэсліць, што на прэс-канферэнцыі, прысвечанай "Чарнобыльскаму шляху 2010" З. Дашкевіч сказаў: *"Прысутнасць анархістаў і прадстаўнікоў сэксуальных меншасцяў мы будзем расцэньваць як правакацыю"* (Пілецкі, 2010).

арганізацыяў (Зеленая сеть, Мирный Атом, БПЗ і іншымі).

Вартай увагі з’яўляецца таксама сувязь анархістаў з акадэмічнай сферай. Сярод заснавальнікаў ФАБ быў выкладчык Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя Ф. Скарыны Уладзімір Пашук (Зялены край, 2008: 9–10). Дзве асобы з ФАБ атрымалі навуковую ступень кандыдатаў гістарычных навук: Ю. Глушакоў і памерлы ў 2011 годзе Віктар Цемушаў (Темушев, 2010). Супрацоўнічаў з анархістамі таксама пісьменнік і перакладчык Макс Шчур (Дудко, 2008). Сярод публічных асобаў у анархісцкіх поглядах прызнаецца Сяргей Міхалок – лідар рок-гурта “Ляпис Трубецкой”, што, безумоўна, уплывае на працягванне грамадскай увагі да анархізму (Хартыя’97, 29.09.2011).

## V. Агульны агляд структуры сучаснага анархісцкага руху ў Беларусі

Перыяд канца 2000-х гадоў разглядаецца намі як чарговы пераломны момант у гісторыі Беларусі, які праяўляецца ў мацнейшым за апошнія дзесяцігоддзі палітычным (падзеі 19 снежня 2010 года і іх наступствы: судовыя працэсы, узмацненне жорсткасці рэжыму) і эканамічным крызісе (дэвальвацыя беларускага рубля, рост цэнаў і г. д.). Важнасць і своеасаблівасць гэтага перыяду заключаецца таксама ў павышэнні цікавасці да грамадска-палітычнай дзейнасці розных слаёў насельніцтва, а галоўнае – у павелічэнні ініцыятыўнасці, грамадзянскай актыўнасці і актаў салідарнасці сярод беларусаў (бунт у Брузгах, акцыі “Стоп-бензін”, ініцыятыва “Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі”, дапамога затрыманым актывістам і палітвязням). Ва ўсёй разнастайнасці апазіцыйных сілаў, пачынаючы ад 2010 года, важнае месца ў медыях і грамадска-палітычным жыцці краіны пачало займаць другое пакаленне анархістаў.

Несумненна, пад уплывам анархізму актыўна развіваецца контркультурнае асяроддзе (Аксютина, 2002; Охара, 2003), але можна заўважыць, што эвалюцыя сучаснага беларускага анархізму, паступова адыходзячы ад мірнай субкультурнай і перформанснай актыўнасці, кіруецца ў бок пашырэння больш радыкальнай грамадска-палітычнай дзейнасці. Варта прыгадаць колькі прыкладаў: у 1996 годзе ў Менску быў праведзены першы музычны фэст “Раздавім фашысцкую гадзіну”, пад эгідай “Незалежнага аб’яднаньня гарадзенскіх анархістаў” сталі метадычна праводзіцца захопы пустых дамоў і паддашшаў, дзе арганізоўваліся канцэрты і іншыя мастацкія акцыі, у 2001 годзе ў Менску адбыўся фестываль “Рок-гільятына”. Тым не менш, са скепсісам трэба паставіцца да аптымістычнага сцверджання 2008 года: *“Так ці інакш, анархісты нават у сучаснай Беларусі застаюцца палітычным актoрам, а часам нават франтмэнамі навінаў (Сацыяльны марш). Іх статус у апазіцыі адносна вялікі”* – а таксама – *“што анархісты за 15 гадоў ператварыліся ў сталую субкультуру”* (Ушкін, 2008: 16). Паводле нашага меркавання, адсутнасць шырокага грамадскага руху, тэарэтыч-

ных дыскусіяў, "субкультурнае гета" і пераход анархістаў да палітызаваных форм дзейнасці адлюстроўваюць відавочную слабасць беларускага анархізму.

На сённяшні дзень назва ФАБ у акцыях анархістаў адсутнічае, але афіцыйна Федэрацыя не знікла. Больш таго, дзейнасць, фундамент якой быў закладзены ў 1990-я гады першым пакаленнем сучасных беларускіх анархістаў, працягваюць, развіваюць і радыкалізуюць новыя пакаленні (Мартыненка і інш., 2008). Акрамя незалежных лакальных афініці-груп (з англ. affinity – роднасць), то бок груп сяброў, якія без прыналежнасці да фармальных арганізацый аб'ядноўваюцца вакол сацыяльнай актыўнасці, асноўнай анархісцкай арганізацыяй у Беларусі з'яўляецца анарха-камуністычная падпольна-аўтаномная сетка "Революционное Действие" (да 2010 года "Автономное действие Беларусь", а раней "Беларусский анархический фронт"). У сваім маніфесце РД зазначае: *"У аснове нашых перакананняў ляжаць этычныя прынцыпы сацыяльнай справядлівасці і асабістай свабоды. Аднак арганізацыя сучаснай грамадскай сістэмы ў корані несправядлівая (...) Галоўным вінавайцам і абаронцам такога парадку мы прызнаем Дзяржаву (...) Мы хацім пабудаваць сапраўднае сацыялістычнае грамадства, у якім усе матэрыяльныя даброты будуць належаць да працоўных, дзе больш не будзе прыватнай маёмасці, дзяржавы, іерархіі, прымусу, рэпрэсій, турмаў, і эксплуатацыі чалавека чалавекам..."* (РД, 02.12.2006). Да напрамкаў актыўнасці РД належаць агітацыйна-прапагандысцкая (Nesidinadivane, 21.01.2010) і выдавецкая дзейнасць,[3] акцыі сацыяльнага напрамку, экалагічныя, антыміліцэйскія, антыфашыстоўскія, антымілітарныя, а таксама акцыі салідарнасці.

Да найбольш распаўсюджаных і папулярных ініцыятываў беларускіх анархістаў адносіцца экалагічная дзейнасць. У 2008 годзе ўтварылася экалагічная ініцыятыва "Антиатомное Сопротивление", якая аб'ядноўвае большасць беларускіх анархістаў у барацьбе супраць будовы астравецкай АЭС (Антиатомное, 2008). Сярод іншых анархісцкіх групаў можна вылучыць: калектыў "Black Feather Collective" і інфармацыйны партал http://belarus.indymedia.org/, што выказваюцца за свабоднае і бесперашкоднае распаўсюджанне інфармацыі, а таксама за доступ да крыніц, якія не залежаць ад дзяржаўнай цэнзуры і прапаганды.

Важным і актуальным напрамкам дзейнасці застаецца праца беларускага Анархісцкага чорнага крыжа (АЧК), які займаецца дапамогай рэпрэсаваным і асуджаным актывістам, а таксама іх сем'ям. Сярод ініцыятываў з 2000-х гадоў можна вылучыць акцыі "Ежа замест бомбаў" (Food non Bombs) (ЕВБ, 2011), якія праходзяць па ўсёй краіне, адкрыты адукацыйны семінар "Беспартшкола", а таксама сталую інтэрнэт-актыўнасць. У Менску дзейнічае анархісцкі кааператыў "Rebel Studies Library", дзе

[3] Аналітычна-інфармацыйная вэб-старонка http://revbel.org/, брашуры "Строить сопротивление", "Милитант-анархизм – теория и практика" і іншыя.

адбываюцца кінапаказы, дыскусіі, а таксама знаходзіцца бібліятэка (RSL, 2013). Цікавай падзеяй у асяроддзі беларускіх анархістаў стаў праект па выданні навукова-асветніцкага часопіса на беларускай і расейскай мовах "Volnasc" (*Volnasc,* 2013).

Каб зразумець метады дзейнасці беларускіх анархістаў, варта ўзгадаць два асноўныя аспекты дактрыны класічнага анархізму: *негатыўны* і *пазітыўны. Негатыўны* аспект тычыцца разнастайнасці дзеянняў, якія накіраваныя на разбурэнне, знішчэнне альбо адмаўленне існуючага грамадска-палітычнага ладу і гаспадарчых адносінаў. Ён выражаецца ў формах пратэстаў, дэманстрацый, фізічных канфрантацый з сілавымі дзяржаўнымі структурамі, палітычнымі апанентамі і г. д.[4]

*Пазітыўны* аспект сваёй мэтай ставіць стварэнне альтэрнатыўных форм грамадскіх адносін з выкарыстаннем прамой дэмакратыі (Górski, 2007), а таксама грамадскіх структур новага тыпу. На гэтым аспекце будуецца канструктыўная праграма анархістаў, якую ва ўмовах глабалізацыі, крызісных праяваў у неаліберальнай ідэалогіі,[5] а таксама на лакальным беларускім узроўні можна разглядаць як альтэрнатыву для праграм беларускай апазіцыі.

У сваю чаргу, адсутнасць моцных пратэстных рухаў, свабодных прафсаюзаў, а таксама прававых інструментаў для ўвядзення партыцыпацыйнай дэмакратыі не дазваляе анархістам мірна развіваць і распаўсюджваць сваю пазітыўную праграму сярод насельніцтва. Больш таго, адсутнасць сур'ёзных ідэолагаў і прапагандыстаў, выдавецтваў, сацыяльных цэнтраў, а таксама інтэлектуальнай падтрымкі з боку сучаснай беларускай інтэлігенцыі, на падставе якіх мог бы будавацца шырокі грамадскі рух, уплываюць на пошук іншых сродкаў барацьбы.

Мы згаджаемся са словамі сацыёлага А. Жыневіча: *"Тут няма наогул ніякай падтрымкі нават негвалтоўных анархісцкіх ініцыятываў з боку даволі кансерватыўнага насельніцтва. (...) Адначасова няма ніякай магчымасці для публічнага палітычнага самавыяўлення. Пры адсутнасці якога б там ні было дыялогу ўлады і грамадства самым рашуча настроеным актывістам адстойванне сваіх поглядаў здаецца магчымым толькі шляхам канфрантацыі"* (Жыневіч, 2011).

На нашу думку, пералічаныя прычыны ў спалучэнні з перайманнем еўрапейскага пратэстнага вопыту паўплывалі на відавочную радыкалізацыю метадаў дзейнасці беларускіх анархістаў. У выніку частка сучаснага пакалення анархістаў адмовілася ад мірных форм дзейнасці (хэпэнінгі, пікеты і г.д.) і пачала выкарыстоўваць больш радыкальныя сродкі. Сярод такіх акцыяў варта назваць: антымілітарысцкае шэсце пад Генеральным штабам Рэспублікі Беларусь 19 верасня

4 Найбольш яскравы прыклад так званага паўстанчага анархізму можна назіраць у сучаснай Грэцыі.

5 Пра гэта сведчаць масавыя падзеі 2011 года ў Амерыцы *(Occupy Wall Street),* Еўропе (Рух "Абураныя" ў Іспаніі, *Movimiento 15-M, Indignados;* Пакаленне роспачы ў Партугаліі, *Geração à Rasca*), а таксама Азіі і Афрыкі (Арабская вясна).

2009 года, напад на казіно "Шангры Ла" 5 снежня 2009 года, напад на будынак Федэрацыі прафсаюзаў 30 красавіка 2010 года, падпал дзвярэй філіяла "Беларусбанка" 31 траўня 2010 года, падпал апорнага пункта міліцыі ў Салігорску 9 сакавіка 2010 года, напад на пасольства Расіі ў Менску ў ноч на 31 жніўня 2010 года, атака кактэйлямі Молатава будынку КДБ у Бабруйску ў ноч на 17 кастрычніка 2010 года (АЧК, 10.04.2011). Усе пералічаныя акцыі мелі наступствам "справу беларускіх анархістаў".

## VI. "Справа беларускіх анархістаў"

"Справа беларускіх анархістаў" была ініцыявана пасля атакі кактэйлямі Молатава пасольства Расійскай Федэрацыі ў Менску ўначы 31 жніўня 2010 года. Акцыя невядомай радыкальнай групы "Друзья свободы" стала кульмінацыяй *"інфармацыйнай вайны"* паміж Расійскай Федэрацыяй і Рэспублікай Беларусь, а магчымасць міжнароднага скандалу і ціск з боку расійскай улады каталізавалі расследаванне гэтай справы. Пасляператрусу на кватэрах і затрымання 7 актывістаў у Менску 3 верасня 2010 года адбылася чарговая акцыя групы "Друзья Свободы", падчас якой анархісты атакавалі кактэйлямі Молатава браму ізалятара часовага ўтрымання на Акрэсціна. Цягам двух месяцаў у некалькіх гарадах Беларусі прайшлі допыты больш за 50 чалавек, некаторыя з іх правялі ў следчых ізалятарах ад 3 да 14 дзён, актывісты Дзмітры Дубоўскі і Дзяніс Быстрык былі змушаныя пакінуць краіну (Дубовский, 2011). У выніку па справе абвінавацілі Ігара Аліневіча, Мікалая Дзядка, Аляксандра Францкевіча, Максіма Веткіна і Яўгена Сілівончыка ("Вясна", 01.06.2011).

2010 год у Беларусі прайшоў пад знакам судовых палітычных працэсаў. "Справу беларускіх анархістаў", якая, натуральна, выклікала грамадскі рэзананс, пачалі асвятляць і каментаваць у медыях. Знаны блогер Будзімір (Зміцер Галко) трапна заўважыў: *"Улада нечакана адкрыла для сябе анархістаў. Падазраваных у тэарэтычным і практычным анархізме зраўналі ў правах з традыцыйнымі public enemy, чырвона-чорны сьцяг зь бел-чырвона-белым. З гэтага часу быць анархістам у Беларусі – усё роўна – што быць апазыцыянэрам, з усімі вынікаючымі наступствамі..."* (Будзімір, 2010).

Недальнабачнай аказалась думка Уладзіміра Някляева: *"Ну нейкія «сябры свабоды» за тое, што іх актывістаў у Хімках арыштавалі, прыбеглі да расійскай амбасады, кінулі. Я ўпэўнены, што гэта правакацыя беларускіх спецслужбаў..."* ("Эхо Москвы", 2010). У Еўропе і Расіі, а нават у Мексіцы прайшлі акцыі салідарнасці (АЧК, 2011; Черепаха-луноход, 2011). Аднак найбольш радыкальная з іх адбылася ў ноч на 17 кастрычніка 2010 года ў Беларусі, калі кактэйлямі Молатава быў атакаваны аддзел КДБ у Бабруйску. Гэты эпізод атрымаў назву "бабруйскай справы", па якой былі арыштаваныя Я. Васьковіч, А. Пракапенка і П. Сырамолатаў.

Суд па "бабруйскай справе" праходзіў 5–18 траўня 2011 года. У сваім

апошнім слове Васьковіч заявіў, што ён абараняў беларускія каштоўнасці і не шкадуе аб сваім учынку. Пракапенка і Сырамолатаў пакаяліся і папрасілі аб змякчэнні прысуду. Усе абвінавачаныя прызналіся ва ўдзеле ў акцыі і ў выніку асуджаныя па ч. 2 арт. 339 КК *("злоснае хуліганства")* і ч. 3 арт. 218 КК *("пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйным памеры")* атрымалі па 7 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму (Радыё Свабода, 18.05.2011).

18 траўня 2011 года пачалося пасяджэнне, на якім разглядалася крымінальная справа па абвінавачванні менскіх анархістаў па наступных артыкулах: ч. 2 арт.339 КК РБ *("хуліганства, здзейсненае групай асобаў")* і ч. 2 і ч. 3 арт. 218 КК *("пашкоджанне маёмасці агульнанебяспечным спосабам і ў асабліва буйным памеры")* ч. 2 арт. 349 *("несанкцыяваны доступ да кампутарнай інфармацыі"),* ч. 2 арт. 351 *("кампутарны сабатаж, спалучаны з несанкцыяваным доступам да кампутарнай сістэмы"),* арт. 354 КК РБ *("распрацоўка, выкарыстанне альбо распаўсюджванне шкодных праграм")* ("Вясна", 01.06.2011). Падчас працэсу АЧК зняў невялікую стужку "Не признающие законов", у якой прадставіў сваю ацэнку сітуацыі (TorIsYourFriend, 26.05.2010). Самі затрыманыя анархісты не прызналіся вінаватымі, аднак 27 траўня 2011 года І. Аліневіч быў пакараны 8 гадамі пазбаўлення волі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй аўтамабіля,[6] М. Дзядок – 4,5 гадамі пазбаўлення волі ўзмоцненага рэжыму, А. Францкевіч – 3 гадамі пазбаўлення волі ўзмоцненага рэжыму. Анархісты, якія супрацоўнічалі са следствам і прызналіся вінаватымі: М. Веткін і Я. Сілівончык адпаведна – 4 і 1,5 гады абмежавання волі.

Вынесеныя прысуды сталі першымі сур'ёзнымі пакараннямі анархістаў у гісторыі незалежнай Беларусі і, безумоўна, нанеслі моцны ўдар па анархісцкаму асяроддзю. Можна згадзіцца з меркаваннем А. Жыневіча, што *"Анархісцкі рух у Беларусі аказаўся не гатовым да падобных рэпрэсій з-за сваёй нешматлікасці і адноснай аўтаномнасці, дзякуючы якой мог заставацца незалежным рухам. (...) Быць анархістам у Беларусі толькі падаецца зручным: на самой справе гэта патрабуе вялікай рашучасці і пастаяннага напружання розуму"* (Жыневіч, 2011).

Варта звярнуць увагу, што "справа беларускіх анархістаў", а таксама "бабруйская справа" з'яўляюцца яскравымі прыкладамі палітычных працэсаў, у якіх важную ролю адыграла дзеючая ўлада. Падчас выбараў Прэзідэнта Беларусі 19 снежня 2010 года анархісты прымалі актыўны ўдзел у масавых акцыях пратэсту (Albert, 2010; Революционное Действие, 21.12.2010; OurBelarus, 26.06.2011). У лістоўцы "Предвыборная программа анархистов" яны выказаліся за народнае самаўпраўленне, альтэрнатыўную эканоміку, свабоду ад прымусу, а таксама прадставілі свае адносіны да маёмасці і нацыянальнага пытання. Менавіта тады аб анархістах нагадаў А. Лукашэнка: *"...20 анархістаў з Расіі*

[6] Гэты прысуд аднадумцы з Расіі акрэслілі *"дыяментам у кароне беларускага правасуддзя"* (Детюк, 2011).

*прыехала, і іншыя былі, мы іх там выявілі, з некалькіх дзяржаваў людзі былі..."* (СТВ, 2010).[7] 14 сакавіка 2011 года па тэлеканале БТ было паказана журналісцкае расследаванне Андрэя Крывашэева "Анархия. Прямое действие". У ролі "экспертаў" ад анархізму выступілі загадчык кафедры міжнародных адносін Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Беларусі, доктар палітычных навук Сяргей Кізіма (паводле якога *"анархізм як інтэлектуальная балбатня"* не нясе пагрозы), кіраўнік аддзелу следчага ўпраўлення ГУВД Менскага гарвыканкама Аляксандр Іваноў і галоўны саветнік Дзяржаўнага сакратарыяту Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь Ігар Паддубскі (Поддубский, 2009: 72–77; 2010а: 44–49; 2010б: 120–125).

Па словах "экспертаў", за мірныя акцыі *"ў Беларусі не пераследуюць"*, нават акцыя каля Генштаба – не больш за *"банальнае хуліганства"*. Праблема ў тым, што *"мода на радыкальны анархізм"* прыйшла ў Беларусь з Заходняй Еўропы і з'яўляецца *"прамым гвалтам у дачыненні да дзяржавы"*. Калі б не аператыўная праца КДБ, то анархісты ў будучыні маглі б *"спаліць школы і цэрквы, каб запалохаць грамадства"*. Стужка заканчваецца сцверджаннем, што *"Беларусь спынілася за крок ад катастрофы, калі ўтопія баявога анархізму магла перарасці ў тэрор і вулічныя баі..."* (Белтелерадиокомпания, 2011).

У адказ АЧК зняў 20-хвілінную стужку "Анархия. Прямое действие. Неангажированная версия" (РД, 16.03.2011; TorIsYourFriend, 18.08.2011), а ў інтэрнэце з'явілася рэцэнзія на стужку. Блогер Isto4nik_zarazi ў сваім аналізе сцвярджаў, што дата паказу была выбрана спецыяльна перад судамі, каб сфармаваць *"пэўнае грамадскае меркаванне"*, а таксама правесці *"прафілактычную работу"* перад Днём барацьбы з палітычнымі рэпрэсіямі. У блогу падкрэслівалася, што стужка з'яўляецца працягам дзяржаўнага прапагандысцкага серыялу, папярэднія серыі якога называліся: "Молодой фронт. Kidnapping", "Психология девиации", "Плошча. Железом по стеклу". Аўтар дадаваў, што пра ідэалогію анархістаў нічога канкрэтнага не сказалі, а таксама адзначаў плюс стужкі: асвятленне малавядомага эпізоду па "бабруйскай справе" (Isto4nik_zarazi, 2011).

Чарговы факт увагі да анархістаў быў звязаны з тэрактам у менскім метро 11 красавіка 2011 года, калі старшыня КДБ Беларусі Вадзім Зайцаў адзначыў, што службы разглядаюць тры версіі здарэння, адна з якіх датычыла анархістаў: *"...ёсць прадстаўнікі радыкальных моладзевых экстрэмісцкіх арганізацыяў. Цяпер заканчваецца крымінальная справа па анархістах. Мы не выключаем, што ў адплату, у першую чаргу, у дачыненні да КДБ маглі быць здзейснены падобныя дзеянні"* (Интерфакс, 12.04.2011).

Гэтую версію пракаментавалі некаторыя грамадскія дзеячы і журналісты.: *"... Я не веру ў версію, што выбух арганізавалі маладыя анархісты.*

[7] Раней прэзідэнт Беларусі, адзначаючы высокі ўзровень арганізацыі саміту АБСЕ ў Астане, казаў: *"Нідзе ніхто не топчацца, ніякіх затораў, усё прадумана, ніякіх анархістаў, антыглабалістаў. Ніхто не перашкаджае працаваць"* (Белта, 2010).

*Гэта проста смешна. Анархісты ў Беларусі – гэта дзіцячы садок, а не тэрарысты. Яны надакучылі нашай рэдакцыі са сваімі дурнымі лістамі і смешнымі акцыямі пратэсту (...) Уся гэта версія з анархістамі – прапагандысцкая лухта"* (Шеремет, 2011), а экс-кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч сказаў: *"У Беларусі ніхто не заяўляў, таму я, напрыклад, не вельмі веру ў тое, што гэта звязана з анархісцкімі рухамі..."* ("Эхо Москвы", 2011). У сваю чаргу, анархісты ў адкрытай заяве рашуча асудзілі тэракт і падкрэслілі, што *"мэтаю атакаў беларускіх анархістаў, нават па дадзеных следства, з'яўляюцца зусім іншыя аб'екты, беларускія анархісты шануюць чалавечае жыццё і не выкарыстоўваюць выбухоўку"* (Streetsmedia, 2011).

Важным момантам, які сведчыць аб палітычным характары працэсаў, з'яўляецца факт, што "справай беларускіх анархістаў" з самага пачатку зацікавіўся праваабарончы цэнтр "Вясна", які ў сваім аглядзе адзначыў шэраг нарматыўна-прававых парушэнняў, псіхалагічны ціск, жорсткае і бесчалавечнае абыходжанне падчас правядзення следства ("Вясна", 01.06.2011). І. Аліневіч быў гвалтоўна выкрадзены ў Маскве прадстаўнікамі неўстаноўленых спецслужбаў і перавезены ў следчы ізалятар КДБ (РД, 01.12.2010). Акрамя праваабаронцаў барацьбу за М. Дзядка пачалі Студэнцкае прадстаўніцтва Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (у якім ён навучаўся) і моладзевая ініцыятыва "StudAlliance" (ЕГУ, 2011).

Першым грамадска-палітычным дзеячам, які публічна падкрэсліў палітычны характар справы, стаў Аляксандр Фядута: *"Калі праваабарончыя арганізацыі не залічаць анархістаў да вязняў сумлення, а інтэрпрэтуюць іх учынкі як хуліганства – значыць, яны ўсталі на бок беларускага суду. Суду няpraведнага, у чым я перакананы..."* (Федута, 2011). У выніку грамадскай кампаніі ў верасні 2011 года ў інтэрнэце з'явілася петыцыя "У абарону непрызнаных беларускіх палітвязняў", аўтары якой заяўлялі: *"Тое, што да гэтага Дзядок, Францкевіч і Аліневіч былі невядомыя шырокай грамадскасці як грамадскія актывісты, не павінна ўплываць на ўзровень іх падтрымкі. Таму мы лічым падобнае размежаванне на «сапраўдных» палітвязняў і ўсіх астатніх няправільным"* (Petitiononline.com, 2011).

Петыцыю падпісалі А. Фядута, эколаг Уладзімір Валодзін, кіраўнік "Свабоднага тэатра" Мікалай Халезін, журналістка Ірына Халіп, старшыня і першы намеснік БПЗ А. Новікаў і Ю. Глушакоў, экс-кандыдат у прэзідэнты А. Міхалевіч, журналіст А. Пачобут і іншыя. Пастуупова адбылася хваля салідарнасці беларускіх апазіцыйных палітыкаў з анархістамі, што прывяло да прызнання анархістаў палітвязнямі па схеме 11+3 (асуджаныя па "бабрускай справе") (Naviny.by, 05.10.2011).

Анатоль Лябедзька сцвярджаў: *"Што датычыцца Ігара і яго калег, то гэта справа з палітычнай падаплёкай. Уладзе трэба было прадэманстраваць паспяховую барацьбу з «мясцовым тэрарызмам». У варунках адсутнасці незалежнай судовай сістэмы гэта зрабіць нескладана..."*

(Radiobemba, 2011), а Віталь Рымашэўскі дадаваў: *“Мы заклікаем усе палітычныя сілы і міжнародныя арганізацыі ўключыць у спіс рэпрэсаваных па палітычных матывах Яўгена Васьковіча, Ігара Аліневіча, Аляксандра Францкевіча, Міколу Дзядка, Арцёма Пракопенку і Паўла Сырамолатава...”.*

Сяргей Марцэлеў сказаў: *“Я месяц правеў у адной камеры з Ігарам Аліневічам. Гэта мужны і прынцыповы чалавек, абвінавачванні супраць яго пабудаваныя на хлуслівых даносах, таму хачу далучыцца да петыцыі ў яго абарону”. “Анархісты – палітвязні, без іх вызвалення дыялог з Лукашэнкам немагчымы. Гэта з’яўляецца пазіцыяй і Партыі БНФ, і усіх адэкватных людзей”,* – адзначаў першы намеснік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў. Па словах былога палітзняволенага Мікіты Ліхавіда, *“яны асуджаны па палітычных прычынах. Асабіста для мяне, яны – палітвязні, таму іх вызвалення трэба патрабаваць разам з удзельнікамі справы 19 снежня, і па справе Лобава-Дашкевіча... ”.*

5 кастрычніка 2011 года праваабарончы цэнтр “Вясна” і Беларускі хельсінкскі камітэт афіцыйна прызналі анархістаў палітвязнямі (“Вясна”, 05.10.2011). Што тычыцца ўлады, то, нягледзячы на пастаяннае падкрэсліванне крымінальнага характару “справы беларускіх анархістаў”, асуджаным ужо некалькі разоў прапанавалі падпісаць прашэнне аб памілаванні (АЧК, 12.09.2011; Ярашэвіч, 2011). Гэта дае падставы меркаваць, што ўлада трактуе анархістаў на роўні з іншымі палітзняволенымі.

## VI. Высновы

Анархісцкі рух у Беларусі не належыць да вельмі шырокіх грамадска-палітычных плыняў. Пасля ўздыму актыўнасці анархістаў у першай чвэрці ХХ стагоддзя, звязаны з рэвалюцыямі 1905 і 1917 гадоў, гэты рух практычна знік з палітычнай сцэны Беларусі. Сучасны беларускі анархісцкі рух адрадзіўся на хвалі распаду СССР. Першае пакаленне сучасных беларускіх анархістаў знаходзілася пад уплывам анарха-сындыкалісцкіх поглядаў і імкнулася ўплываць на рабочы рух, а ў Гомелі з’явілася першая структура гэтага тыпу – “Федерацая анархістаў Беларусі”. Наступным этапам разам з паўстаннем групы “Чырвоны Жонд”, “Свабоднага тэатра”, праекта “Navinki Home Video” стала арт-актыўнасць: акцыі-хэпэнінгі, кінематаграфічныя стужкі, у тым ліку накіраваныя супраць палітыкі А. Лукашэнкі.

Побач з эканамічным і артыстычным накірункам дзейнасці на станаўленне анархізму ў Беларусі моцна ўплывала развіццё моладзевых субкультур, культуры DIY і музычнай сцэны *punk.* На пачатку 2000-х гадоў з’явіліся першыя скінхэды-анархісты, развіваўся рух “Антыфа”. На працягу ўсяго часу анархісты займаліся агітацыйнай і выдавецкай дзейнасцю: друкаваўся самвыдат, брашуры, лістоўкі, кульмінацыяй у гэтым абшары стала эпоха газеты “Навінкі”. Да іншых напрамкаў актыўнасці анархістаў можна таксама аднесці экалагічную, антымілітарную дзейнасць. Беларускім анархістам удалося ўсталяваць кантакты з замежнымі партнёрамі, што выражалася ў акцы-

ях салідарнасці і ўдзеле асобаў з Беларусі ў міжнародных акцыях пратэсту. Трэцяе пакаленне беларускіх анархістаў, знаходзячыся ў сітуацыі палітызацыі "старых" анархістаў (утварэнне Беларускай партыі "Зялёных") і шукаючы новых метадаў і механізмаў для сваёй дзейнасці, пераймала замежны вопыт анархістаў-аўтаномаў і мілітант-анархістаў.

У выніку паўстала арганізацыя "Революционное Действие". Усе тры пакаленні сучасных беларускіх анархістаў цягам 20 гадоў імкнуліся ўплываць на грамадска-палітычныя працэсы ў краіне. Нягледзячы на часовы ўздым і папулярнасць напрыканцы 1990-х гадоў, анархістам не ўдалося стварыць моцнага і масавага грамадска-палітычнага руху.

Аднак, грамадзянская актыўнасць насельніцтва ў 2010–2011 гадах сведчыць, што грамадска-палітычнае аблічча Беларусі ўсё больш выходзіць па-за схему "ўлада – традыцыйная апазіцыя", гэта пацвярджае, між іншым, пастаянная актыўнасць анархісцкага руху. Працэс радыкалізацыі метадаў дзейнасці анархістаў з'явіўся з аднаго боку адказам на сацыяльна-эканамічную палітыку, якую праводзіць кіраўніцтва Беларусі, а з іншага – адказам на рэпрэсіўную рэакцыю ўлады на разнастайныя формы мірнай грамадска-палітычнай актыўнасці насельніцтва. Вынікам радыкалізацыі антыдзяржаўных актывістаў сталі прысуды па "справе беларускіх анархістаў" і "бабрускай справе". Акалічнасці абедзьвух спраў, паводле нашага меркавання, трэба разглядаць як неад'емную частку грамадска-палітычных працэсаў, якія адбываюцца ў сучаснай Беларусі і адлюстроўваюць агульную сітуацыю ў краіне.

На нашу думку, "справа беларускіх анархістаў", "бабруйская справа" і іх наступствы з'яўляюцца ўнікальнымі прыкладамі ў грамадска-палітычнай гісторыі Беларусі, якія вылучаецца салідарнасцю палітычнай апазіцыі з прыхільнікамі антыдзяржаўных ідэй (Олиневич, 2013; Радыё Свабода, 10.12.2013). Магчыма, што наданне зняволеным анархістам статусу палітвязняў і тым самым упісанне анархістаў у палітычны дыскурс Беларусі можа стаць крокам да далейшага збліжэння грамадзянскай і палітычнай супольнасці, а таксама развіцця працэсу ўтварэння новых грамадскіх інстытутаў.

**Літаратура**

1. "А без президентов СЛАБО?! Группа анархистов вышла на Октябрьскую площадь", *Революционное Действие,* URL (доступ 21.12.2010): http://belarus.avtonom.org/?p=16170.
2. Агофонов, Артем (2010). "Яраслаў Раманчук адказаў на пытанні чытачоў «Свабоды»", *Сайт сторонников Объединенной Гражданской партии,* URL (доступ 10.10.2011): http://old.ucpb.org/index.php?option=com_content&view=article&id=62268:------qq&catid=97&Itemid=275.
3. АД-Минск (2007). "Антифашизм в Беларуси – борьба продолжается!", URL (доступ 04.09.2007): http://revbel.org/2007/09/antifashizm-v-belarusi-bor-ba-prodolzh/.

4. “Акции прямого действия анархистов 2009-2010 гг.”, *Анархический Чёрный Крест – Беларусь,* URL (доступ 10.10.2011): http://abc-belarus.org/?p=102.
5. Аксютина, Ольга (2002). “Власть и контркультура в 1980-е – 1990-е годы. Панк как этика и эстетика противостояния в СССР, России и Беларуси ” у Аймермахер, Карл, Бордюгов, Геннадий и И. Грабовский, Инго (ред.), *Культура и власть в условиях коммуникационной революции XX века. Форум немецких и российских исследователей.* Москва: АИРО-XX.
6. “Александр Францкевич отказался писать прошение о помиловании”, *Анархический Чёрный Крест – Беларусь,* URL (доступ 15.10.2011): http://abc-belarus.org/?p=567.
7. *Альманах. Сборник по истории анархического движения в России,* (1909). Париж, Т. 1.
8. *Антиатомное сопротивление – Беларусь,* URL (доступ 14.10.2011): http://anr.noblogs.org/post/2008/12/31/antinuclear_resistance/.
9. АЧК – Беларусь (2011). “Вы – лучшие! Спасибо от АЧК-Беларусь”, *Анархический Чёрный Крест Belarus Indymedia,* URL (доступ 27.05.2011): http://belarus.indymedia.org/24146
10. Барысёнак, Юры (1989). “Бакунін у Беларусі”, *Полымя,* № 4: 221.
11. Будзімір (2010). “Чырвона-чорны сьцяг зраўнавалі ў правах зь бел-чырвона-белым”, *Радыё Свабода,* URL (доступ 08.09.2010): http://www.svaboda.org/content/article/2151690.html.
12. “Будут ли преследовать оппозицию после терракта в Минске?”, *Эхо Москвы,* URL (доступ 14.04.2011): http://echo.msk.ru/programs/razvorot/765773-echo/.
13. Волковинский, Валерий (1991). *Махно и его крах.* Москва: Издательство ВЗПИ.
14. Высоцкі, Сяргей (2007). “Будучы лёс нашай моладзі”, *NASHAZIAMLIA.ORG,* URL (доступ 18.10.2011): http://nashaziamlia.org/2007/12/21/1089.
15. Генкин, Иосиф (1919). *Группа Безначалие в 1905-08 гг.: Очерки из героической эпохи в жизни русского анархизма.* Минск.
16. Глушаков, Юрий (2005), “Идеи П.А. Кропоткина и их последователи в Белоруссии: О судьбах и деятельности анархистов в 1920 – 30-е гг.” у Ермаков, Владимир, Талеров, Петр и Гарявин, Алексей (ред.), *Пётр Алексеевич Кропоткин и проблемы моделирования историко-культурного развития цивилизации: материалы международной научной конференции.* СПб: Соларт.
17. Горев, Борис (1930). *Анархизм в России. От Бакунина До Махно.* Москва: Молодая Гвардия;
18. Дамье, Вадим (2006). *Забытый Интернационал. Международное анархо-синдикалистское движение между двумя мировыми войнами,* т. 1–2. Москва: Новое литературное обозрение 2006–2007.
19. Детюк, Л. (2011), “Приговоры анархистам. Приговор режиму”, *Союз Революционных Социалистов,* URL (доступ 30.05.2011): http://revsoc.org/archives/6397.
20. Дубовик, Анатолий (2001). “Очерк истории анархического движения в Украине. 1960-1990-е годы.”, *Россиские социалисты и анархисты после Октября 1917 года,* URL (доступ 13.08.2010): http://socialist.memo.ru/forum/index.php?showtopic=732.
21. Дубовский, Дмитрий (2011). “Год в бегах: Откровения белорусского анархиста”, *Революционное Действие,* URL (доступ 04.10.2011): http://revbel.org/2011/10/god-v-begah-otkroveniya-belorusskogo-a/.
22. Дудко, Воля (2008). “Ня ўдзельнічаць у мітынгах ты ня можаш, а зь іншага боку ўсьведамляеш, што такое хаджэньне табе ніякай карысьці не прынясе”, *GENERATION.BY,* URL (доступ 10.10.11): http://generation.by/news2309.html.
23. “Д/ф «Анархия. Прямое действие» абстракция на фоне горящих «мостов» системы”, *Революционное Действие,* URL (доступ 15.03.2011): http://revbel.org/2011/03/df-anarhiya-pryamoe-dejstvie-abstrak/.

24. *Еда Вместо Бомб в Беларуси,* URL (доступ 04.08.2011): http://fnbminsk.noblogs.org.
25. Ермаков, Владимир (1996). *Российский анархизм и анархисты (вторая половина XIX – конец XX вв.).* СПб: Издательская координационная группа "НЕСТОР".
26. Жыневiч, А. (2011), "Справа беларускiх анархiстаў", *Le Monde Diplomatique у Беларусi,* URL (доступ 03.09.2011): http://monde-diplomatique.by/index.php?option=com_content&view=article&id=145:2011-09-03-22-15-38&catid=10:2011-08-15-03-46-42&Itemid=24.
27. "За падпал бабруйскага КДБ анархiсты атрымалi па 7 гадоў строгага рэжыму", *Радыё Свабода,* URL (доступ 18.05.2011): http://www.svaboda.org/content/article/24178641.html.
28. "Завтра в 8 вечера на нашем канале выйдет документальный фильм «Анархия. Прямое действие»", *БЕЛТЕЛЕРАДИОКОМПАНИЯ,* URL (доступ 15.03.2011): http://www.tvr.by/rus/society.asp?id=44926.
29. "ЗАКЛЮЧЕНИЕ (по уголовному делу Игоря Олиневича, Николая Дедка, Александра Францкевича, Максима Веткина, Евгения Силивончика – т.н. «дело над анархистами») Республиканского правозащитного общественного объединения «Белорусский Хельсинкский Комитет»", *Праваабаронча цэнтр "Вясна",* URL (доступ 05.10.2011): http://spring96.org/ru/news/46143.
30. "Интервью с Mister X (Oi/Streetpunk, Гродно, Беларусь)", *SKINHEADS.CLAN.SU,* URL (доступ 30.03.2013): http://skinheads.clan.su/interview_misterx.htm.
31. "Информация», *REBELS-LIBRARY.ORG,* URL (доступ 15.10.2013): http://rebels-library.org/news/.
32. "Iгар Алiневiч – першы ляўрэат прэмii Аляхновiча за кнiгу «Еду в Магадан»", *Радыё Свабода,* URL (доступ 10.12.2013): http://www.svaboda.org/contentlive/premija-alachnovic/25196011.html.
33. "Кароткi аналiтычны агляд па «справе беларускiх анархiстаў»", *Праваабарончы цэнтр "Вясна",* URL (доступ 01.06.2011): http://spring96.org/be/news/43721.
34. "КГБ: Версии теракта в Минске – попытка дестабилизировать обстановку, месть анархистов, действия психа", *INTERFAX.BY,* URL (доступ 12.04.2011): http://www.interfax.by/news/belarus/90716.
35. Канавальчык, Паўлюк (2000). *Кароткi курс гiсторыi анархiзму.* Менск: Падручнiк рэвалюцыянэра.
36. Канавальчык, Паўлюк (2002). *Anarchy in BY. Анархiстычны рух ў Беларусi.* Менск: Падручнiк рэвалюцыянэра.
37. Коллектив БАЦ (2008). "Хроника белорусского анархистского движения 1992–2007", *Зялены Край,* вясна: 20–22.
38. Комин, Владимир (1969). *Анархизм в России,* Калинин; Ярославский, Емельян (1939). *Анархизм в России: как история разрешила спор между анархистами и коммунистами в русской революции.* ОГИЗ: Государственное издательство политической литературы.
39. Константинов, Михаил, ред. (1934). *Политическая каторга и ссылка. Биографический справочник членов о-ва политкаторжан и ссыльнопоселенцев.* Москва: Издательство всесоюзного о-ва политкаторжан и ссыльнопоселенцев.
40. Кривенький, Валерий, сост. (1998). *Анархисты: документы и материалы 1883-1935,* Т. 1: 1883-1916 гг. Москва: РОССПЭН.
41. Ланевский, Александр (2013). "Места памяти анархистов", у Корнилов, Сергей, Рябов, Петр, Сидоров, Игорь и Сидоров, Святослав, (ред.), *Прямухинские чтения 2012. Анархизм: От теории к движению, от движения к обществу,* Москва: Типография "Футурис".

42. Ланевский, Александр (2012). “Анархизм в Польше: история и современность. Краткий очерк” у Корнилов, Сергей, Корнилова, Алла, Рябов, Петр, Сидоров, Игорь и Сидоров, Святослав, (ред.), *Прямухинские чтения – 2010. Анархизми мировая культура,* Москва: Типография “Футурис” 2013.
43. Ластовский, Алексей (2008). “Идеи и практики молодежной контркультуры скинхедов в Беларуси”. *Палітычная сфера,* №10: 17–25.
44. “Лукашенко отмечает высокий уровень организации саммита ОБСЕ в Астане”, *BELTA.BY,* URL (доступ 01.12.2010): http://www.belta.by/ru/all_news/president/Lukashenko-otmechaet-vysokij-uroven-organizatsii-sammita-OBSE-v-Astane_i_533716.html.
45. Майзель, Лейба (1934). *1905-1907 гг. на Беларусі: Хроніка падзей,* Мінск: Партвыд-ва.
46. “Малады Фронт адказвае на пытанні”, *Малады Фронт,* URL (доступ 01.09.2011): http://mfront.net/content.php?content.2572; http://nn.by/?c=ar&i=37488.
47. Мартыненка, Вольга, Зайцава, Тацяна, Валадзін, Уладзь, Касцюкоў, Аляксей, Мялюк, Мікола, Серабракоў, Зьміцер і Канавальчык, Паўлюк, рэд. (2008). *Беларускі сацыяльны форум (матэрыялы, секцыі, вынікі).* Масква: Рассельгазакадэмія.
48. “Международный Мотофестиваль Минск - Анархия - 2011”, MEN’S.BY, URL (доступ 15.12.2011): http://mens.by/reporting/festivals/1640-motofestival-anarchy-minsk.
49. Микола (2006). “Белорусский анархизм в начале XX века”, *Свобода или смерть,* № 3 (январь-апрель).
50. “Насильственный вывоз анархиста Игоря Олиневича из Москвы в Минск”, *Революционное Действие,* URL (доступ 01.12.2010): http://revbel.org/2010/12/nasilstvenny-j-vy-voz-anarhista-igor/.
51. “Наши цели и принципы”, *Революционное Действие,* URL (доступ 02.12.2006): http://revbel.org/2006/12/nashi-tseli-i-printsipy/.
52. *Национальное Наступление,* URL (доступ 30.03.2013): http://nationaloffensive.wordpress.com/2009/09/17/an/.
53. НГАБ у Гродна, Ф. 2, 366, 369, 588.
54. Новікаў, Алег (2010). “Справа анархістаў”, *Новы Час,* URL (доступ 17.09.2010): http://novychas.info/palityka/sprava_anarh_sta/.
55. Олиневич, Игорь (2013). *Еду в Магадан.* Радикальная теория и практика.
56. “От субкультуры к ...? (Обращение к Федерации Анархистов Беларуси: пора что-то менять)” (2008). *Зялены Край,* вясна: 17
57. “Оппозиционеры и правозащитники согласовали список политзаключенных – получилось 11+3», *NAVINY.BY,* URL (доступ 05.10.2011): http://naviny.by/rubrics/society/2011/10/05/ic_news_116_377822/.
58. Охара, Крейг, (2003). *Философия панка: больше чем шум.* Москва: НОТА-Р.
59. Пашук, Владимир (2008). “Убить идею невозможно (интервью)”, *Зялёны Край,* вясна: 9–10.
60. “Першая задача трэцяга тысячагодзьдзя”, *Беларуская Партыя Свабоды,* URL (доступ 18.10.2011): http://bps-belarus.narod.ru/Interview.htm.
61. “Петиция в защиту белорусских непризнанных политзаключенных”, *PETITIONONLINE.COM,* URL (доступ 01.10.2011): http://www.petitiononline.com/6polit/petition.html.
62. Печанко, Сямён (2011). “У 2002-м у Гродне на Дзень Волі таксама ўскладалі кветкі”, *Наша Ніва,* URL (доступ 25.03.2011): http://nn.by/?c=ar&i=52251#!nn.
63. Пілецкі, Алесь (2010). “Чарнобыльскі шлях – 2010 падзяліў апазіцыю”, *Наша Ніва,* URL (доступ 20.04.2011): http://nn.by/?c=ar&i=37488.
64. Поддубский, Игорь (2009). “Победить радикализм. Молодежные экстремистские политизированные неформальные формирования в Беларуси”, *Беларуская думка,* № 4: 72-77.

65. Поддубский, Игорь (2009). "Политический радикализм и экстремизм молодежи в контексте национальной безопасности Республики Беларусь", *Проблемы управления,* № 2: 120-125.
66. Поддубский, Игорь (2010). "Молодежь и политика. Некоторые аспекты деятельности радикальных формирований", *Беларуская думка,* № 7: 44-49.
67. "Правозащитники признали Олиневича, Дедка и Францкевича политическими заключенными», URL (доступ 25.09.2011): http://spring96.org/ru/news/46143.
68. "Предвыборная программа (проект)", Беларуская партыя "Зялёныя", URL (доступ 25.09.2011): http://belgreens.org/2010/05/588.
69. "Предстоящие выборы президента Беларуси", *Эхо Москвы,* URL (доступ 03.09.2010): // http://www.echo.msk.ru/programs/razvorot/707492-echo/.
70. "Пресс-конференция Александра Лукашенко 20 декабря. Полная версия", *Столичные новости,* URL (доступ 21.12.2010): http://www.ctv.by/news/~news=48567.
71. *Прямухинские Чтения 2001–2013,* URL (доступ 10.10.2011): http://bakunin-fund.hut2.ru/reader.utf.html.
72. Романчук, Ярослав (2011). "Главный враг природы и государства", *LJ,* URL (доступ 14.11.2011): http://romanchuk-jaroslav.blog.tut.by/2011/03/14/glavnyiy-vrag-lyudey-i-prirodyi/.
73. Рублев Дмитрий (2010). *Диктатура интеллектуалов? Проблема "интеллигенция и революция" в российской анархистской публицистике конца начала веков.* Москва: МГУП.
74. Рублев, Дмитрий (2008). "Российские анархисты. Сегодня, здесь, сейчас", *RABKOR.RU,* URL (доступ 08.11.2011): http://www.rabkor.ru/?area=articleItem&id=544.
75. Рябов, Петр (2007). *Философия классического анархизма,* Москва: Вузовская книга.
76. Савченко, Виктор (2006). *Анархисты-террористы в Одессе 1903–1913,* Одесса: Optimum.
77. Савченко, Виктор (2010). *100 знаменитых революционера и анархиста.* Харьков: Фолио.
78. *Сайт беларускіх аўтаномных нацыяналістаў,* URL (доступ 30.03.2013): http://autanomns.wordpress.com.
79. Севярынец, Павал (2002). *Пакаленьне Маладога Фронту. Гісторыя моладзі, народжанай у 1970-85 гг., Kamunikat: Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка,* URL (доступ 12.05.2012): http://kamunikat.org/halounaja.html?pubid=20061.
80. "Свободный театр (брал интервью Ерш)". *A-party-Я,* №2: 13–17.
81. "Сергей Михалок: «Я не считаю Лукашенко президентом»", *CHARTER97.ORG,* URL (доступ 30.09.2011): http://charter97.org/ru/news/2011/9/29/43089/.
82. Слiўкін, Валеры (2006). "Лідскае піва. Піўзавод Пупко", *Лідскі Летапісец,* № 1(33): 19–20.
83. "Сопротивление", URL (доступ 30.03.2013): http://www.soprotivlenie.su/my_soprotivlenie.html.
84. "Социальный марш: анархисты во главе шествия", *Революционное Действие,* URL (доступ 04.11.2007): http://revbel.org/2007/11/sotsial-ny-j-marsh-anarhisty-vo-glave-she/.
85. "Студенческое сообщество ЕГУ требует освобождения Николая Дедка", *Европейский Гуманитарный Университет,* URL (доступ 01.10.2011): http://students.ehu.lt/news/studiencieskoie-soobshhiestvo-ehu-triebuiet-osvobozdieniia-nikolaia-diedka.
86. Темушев, Виктор (2010). "Биография", *История. Историческая география,* URL (доступ 10.10.11): http://www.hist-geo.net/index.php?p=146&more=1&c=1&tb=1&pb=1.
87. Тарасов, Александр (1997). *Левые в России: от умеренных до экстремистов.* Москва: Институт экспериментальной социологии.

88. Тов. Хорхе, (2008). "15 лет анархистскому движению в Беларуси. Годы борьбы и творчества", *Зялены Край,* вясна: 7–8.
89. Тов. Микола (2008). "Тусовка и организация", *Зялены Край,* вясна: 18–19.
90. *Тэатр "Крылы Халопа",* URL (доступ 10.10.2013): http://www.teatrkh.com/?lang=ru.
91. Унабомбер (2001), "Маніфест", *ARCHE,* № 2 (16), URL (доступ 07.10.2011): http://arche.bymedia.net/2001-2/unabo201.html.
92. Ушкін, Лелик (2008). "Ад гуртка да субкультуры", *Зялёны Край,* вясна: 16.
93. Федута, Александр (2011), "Суд да дело", *LJ,* URL (доступ 27.05.2011): http://feduta.livejournal.com/669357.html.
94. "Чарнобыльскі шлях – 2006", *Революционное Действие,* URL (доступ 20.05.2010): http://revbel.org/2007/01/charnoby-l-ski-shlyah-2006/.
95. "Чарнобыльскі шлях – 2007", *Революционное Действие,* URL (доступ 20.05.2010): http://revbel.org/2007/04/charnoby-l-ski-shlyah-2007/.
96. "Чарнобыльскі шлях - 2008 / Chernobyl March", *YOUTUBE.COM,* URL (доступ 27.08.2008): http://www.youtube.com/watch?v=sq81hn807xM&feature=related .
97. Черепаха-луноход (2011). "Мексиканские анархисты подорвали два банка в солидарность с политическими заключёнными по всему миру", *Indymedia Belarus,* URL (доступ 30.05.2011): http://belarus.indymedia.org/24201.
98. "Чернобыльский шлях: альтернатива ЕСТЬ!", *Революционное Действие,* URL (доступ 20.05.2010): http://revbel.org/2009/04/chernoby-l-skij-shlyah-al-ternativa-est.
99. Чернявка, Ирина (2006). *Стас Почобут: "На этой площади появилась новая оппозиция",* (доступ 14.08.2010.): http://euramost.org/?artc=6806.
100. Чоп, Володимир (2002). *Махновський рух в Україні 1917-1921 рр.: проблеми ідеології, суспільного та військового устрою.* Автореферат дисс. на здобуття ст. к.і.н., Запоріжжя: ЗНТУ.
101. Шеремет, Павел (2011), "Убийственная ложь", *Белорусский партизан, Белорусский партизан,* URL (доступ 12.04.2011): http://www.belaruspartisan.org/bp-forte/?page=100&backPage=6&news=81774&newsPage=0.
102. Шубин, Александр (1998). *Анархистский социальный эксперимент. Украина и Испания. 1917–1939 гг.* Москва: ИВИ РАН.
103. Щедренок, Татьяна (1998). "Будьте реалистами, требуйте невозможного!", *NEWSVM.COM,* URL (доступ 14.11.2011): http://www.newsvm.com/wp_archive/news/30/---8735/.
104. Яковлев, Яков (1922). *Русский анархизм в великой русской революции,* Издание Великих Труженников Америки.
105. Янкоўскі, Усевалад (2010). "Нябачная вайна між нэанацыстамі і антыфашыстамі ў Беларусі", *Радыё Свабода* URL (доступ 10.06.2010): http://www.svaboda.org/content/article/24852524.html.
106. Ярашэвіч, Аляксандр (2011). "Дзядка змушаюць да напісання прашэння аб памілаванні», *Радыё Рацыя,* URL (доступ 30.08.2011): http://new.racyja.com/news/dzyadka-zmushayuts-da-napisannya-prashennya-ab-pamilavanni.
107. Albert (2010). "Из лысой резины сделана власть! (репортаж из эпицентра событий 19 декабря в Минске)", *Автономное Действие,* URL (доступ 26.12.2010): http://avtonom.org/node/14489.
108. Antonow, Radosław (2004). *Pod czarnym sztandarem. Ruch anarchistyczny w Polsce po 1980 roku.* Wrocław: Wydawnictwo Uniwersyteu Wrocławskiego.
109. Belarus DIY Football League, URL (доступ 30.10.2013): http://vk.com/belarusdiyfootball.
110. Górski, Rafał (2007). *Bez państwa: demokracja uczestnicząca w działaniu.* Kraków: Korporacja ha!art.
111. Grinberg, Daniel (1994). *Ruch anarchistyczny w Europie Zachodniej 1870–1914.* Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN.

112. Isto4nik_zarazi (2011), “Не очень страшное кино”, *LJ,* URL (доступ 15.03.2011): http://isto4nik-zarazi.livejournal.com/101302.html.
113. Kamiński, Antoni (2013), *Michaił Bakunin. Życie i myśl,* t. 1–2. Wrocław: Wydawnictwo Uniwersytetu Ekonomicznego we Wrocławiu.
114. Kozak, Tania (2011). “Podcast 1: Волшебный кролик By Tania Kozak”, URL (доступ 07.09.2011): http://www.mixcloud.com/kozaktatiana/podcast-1/.
115. Kulczycki, Ludwik (1902). *Anarchizm współczesny.* Lwów.
116. Kulczycki, Ludwik (1907). *Anarchizm w obecnym ruchu politycznym w Rosji.* Warszawa.
117. Laskowski, Piotr (2006). *Szkice z dziejów anarchizmu.* Warszawa: Warszawskie Wydawnictwo Literacki.
118. Łaniewski, Aleksander (2011). “«Dążność do opanowania ruchu». Anarchiści lat 80. w świetle dokumentów z archiwów IPN”, у Krasucki, Eryk, Przyborowski Michał i Skrycki, Radosław, (red.), *Studia z dziejów polskiego anarchizmu.* Szczecin: Szczecińskie Towarzystwo Naukowe: Instytut Historii i Stosunków Międzynarodowych Uniwersytetu Szczecińskiego.
119. Malenowicz, Paweł (2013). *Ruch anarchistyczny w Europie wobec przemian globalizacyjnych przełomu XX i XXI wieku.* Warszawa: Difin.
120. Nesidinadivane (2010). “Видеообращение минских анархистов – 2009”, *YOUTUBE.COM,* URL (доступ 21.01.2010): http://www.youtube.com/watch?v=-tbrNeekQy4.
121. OurBelarus (2010). “26_ПУТЬ_К_ЦИКу_начало движения (Иконы, ГАИ, Анархисты).flv”, *YOUTUBE.COM,* URL (доступ 26.12.2010): http://www.youtube.com/watch?v=V451FVDZCqk.
122. Radiobemba (2011). “Петиция в защиту белорусских анархистов”, *Indymedia Belarus,* URL (доступ 25.09.2011): http://belarus.indymedia.org/24697
123. Rappaport, Herman, red. (1981). *Anarchizm i anarchiści na ziemiach polskich do 1914 roku.* Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe.
124. Serezha ZdorovetsVEVO (2010). “Гудбай, Батька!”, *YOUTUBE.COM,* URL (доступ 28.12.2010):
1 часть: http://www.youtube.com/watch?v=A6lc5DH1MPs.
2 часть: http://www.youtube.com/watch?v=OD7b-gwlGFM.
125. Siskazhopa (2011). “Александрия Шкловская”, *DAILYMOTION.COM,* URL (доступ 19.09.2011):
1 часть: http://www.dailymotion.com/video/xl6if0_aleksandryja-szklouskaja-part-1_shortfilms?start=1.
2часть: https://www.dailymotion.com/video/xl6jnk_aleksandryja-szklouskaja-part-2_shortfilms#from=embediframe.
126. Streetsmedia (2011). “Анархисты решительно осуждают теракт в Минске”, *LJ,* URL (доступ 13.04.2011): http://streetsmedia.livejournal.com/223064.html.
127. TorIsYourFriend (2011). “Непризнающие вины”, *RUTUBE.RU,* URL (доступ 17.08.2011): http://rutube.ru/tracks/4469719.html?v=dbe02e8c53b9cf62012f41ebc27aa7a5.
128. TorIsYourFriend (2011). “Анархия. Прямое действие. Неангажированная версия”, *YOUTUBE.COM,* URL (доступ 18.08.2011):
1 часть: https://www.youtube.com/watch?v=W_T4v5EexYo
2 часть: https://www.youtube.com/watch?v=ZHPXB8zWF8Q.
129. TrueRowdy (2010). “Autonomous nationalists Ukraine 2009 - Автономний спротив 2009”, *YOUTUBE.COM,* URL (доступ 12.02.2010): http://www.youtube.com/watch?v=xOC_9z0YRYs&feature=player_embedded.
130. Valerkpunk, (2011). “Анархисты на народном сходе”, *YOUTUBE.COM,* URL (доступ 11.11.2011): http://www.youtube.com/watch?v=37JknXyQZgY.
131. *VOLNASC,* URL (доступ 01.06.2013): http://volnasc.org/be/.

©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 20, 2013

Дзмітрый Ісаёнак,
Таццяна Чыжова

# Эвалюцыя беларускай мадэлі прыватызацыі з 1990 па 2013 год: перадумовы, канцэпцыі, зацікаўленыя суб'екты, вынікі, сацыяльныя наступствы

Нягледзячы на распаўсюджанае меркаванне пра Беларусь як пра своеасаблівы "запаведнік сацыялізму", недаступны для рынкавых пераўтварэнняў, варта адзначыць, што прыватызацыі па-беларуску ў 2015 годзе споўніцца чвэрць стагоддзя. За гэты час асобныя сектары эканомікі накшталт рознічнага гандлю збольшага перайшлі ў прыватныя рукі. Тым не менш, у адрозненне ад многіх нашых суседзяў, у якіх пераразмеркаванне ўласнасці ўжо стала пытаннем мінулага, для Беларусі гэтая праблема была вострапалітычнай усе гады незалежнасці і застаецца такой да гэтага часу.

Уся гісторыя беларускай прыватызацыі – гэта гісторыя пошуку кампрамісу паміж тэндэнцыямі сучаснай сусветнай рынкавай эканомікі і ідэяй дзяржаўнага рэгулявання з мэтай сацыяльнай абароны насельніцтва (кажучы інакш – паміж прыватным прысвойваннем прыбытку і размеркаваннем як пры сацыялізме). З 2011 па 2013 год мы сталі сведкамі як спробаў паскорыць рынкавыя пераўтварэнні з дапамогай правядзення даволі маштабнай праграмы прыватызацыі, так і адваротных тэндэнцый, накіраваных на нацыяналізацыю прыватных прадпрыемстваў. На сёння Беларусь па-ранейшаму знаходзіцца перад выбарам шляху: рынкавыя рэформы і прыватызацыя па еўрапейскай мадэлі або далейшыя пошукі самабытнай дарогі да сацыяльна арыентаванага рынку.

Тэма прыватызацыі ў Беларусі так ці інакш асвятляецца мясцовымі экспертамі і журналістамі. Сярод вядучых аўтараў у гэтай вобласці трэба адзначыць Таццяну Манёнак, чые рэгулярныя агляды і каментары па найбольш актуальных і вострых пытаннях прыватызацыі публікуюцца ў газеце "Белорусы и рынок". Што тычыцца абагульняючых прац па гісторыі беларускай прыватызацыі, то сярод іх варта вылучыць дзве манаграфіі, якія выйшлі ў 2002 годзе (гл. Драчев, 2002; Титович і Сычев, 2002). У іх зроблена спроба апісаць эвалюцыю беларускай мадэлі прыватызацыі (каапératывы,

арэнда, чэкавая прыватызацыя, продажы на аўкцыёнах і па конкурсах) да 2000-х. За перыяд канца 1990-х – пачатку 2000-х аўтары абапіраліся на даволі разнастайны эмпірычны матэрыял па Гомельскай вобласці. На жаль такой самай падрабязнай інфармацыі па рэспубліцы ў цэлым у манаграфіях не стае, і апісанне завяршаецца на пачатку "нулявых".

## I. На шляху да незалежнасці

Адным з каталізатараў, які запусціў працэс адраджэння рынкавых адносін у СССР, стала кааперацыя. Савецкая кааперацыя вяла сваю традыцыю ад 20-х гадоў ХХ стагоддзя, калі ў перыяд НЭП кіраўніцтва СССР стымулявала развіццё гэтай формы калектыўнай уласнасці, паколькі бачыла ў ёй спосаб *"пераходу да новага парадку шляхам магчыма больш простым, лёгкім і даступным для селяніна"* (Ленин, 1982: 370). Аднак у наступныя дзесяцігоддзі роля кааперацыі ў савецкай эканоміцы няўхільна зніжалася, і да 80-х гадоў ХХ стагоддзя яна існавала збольшага ў форме "спажывецкай кааперацыі" – аб'яднання спажыўцоў для супольнага задавальнення сваіх патрэб. На іншыя формы кааперацыі накладаліся істотныя абмежаванні. Для арганізацыі кааператыва трэба было атрымаць дазвол мясцовых Саветаў (Блохин і Иванова, 1989: 4). Большая частка работнікаў павінна была працаваць на ўмовах "другаснай занятасці" – у вольны ад асноўнай працы час; кааператыў мог аказваць паслугі толькі насельніцтву, але не прадпрыемствам. Усё гэта, вядома, абмяжоўвала распаўсюджванне кааператываў (Блохин і Иванова, 1989: 5–6).

Сітуацыя змянілася з пачаткам Перабудовы. Пра тое, што патэнцыял кааператыўнага руху недаацэнены, генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Гарбачоў заяўляў яшчэ на гістарычным студзеньскім пленуме ЦК КПСС 1987 года. З часоў так званай "касыгінскай рэформы" сцверджанне аб неабходнасці павелічэння матэрыяльных стымулаў для павышэння прадукцыйнасці працы і надання прадпрыемствам большай самастойнасці было ледзь не агульнапрынятым у савецкім кіраўніцтве. Кааператыўны рух даваў магчымасць ідэалагічна бяспечна ўвесці ў сацыялістычную эканоміку асобныя рынкавыя элементы. Лічылася, што кааператыў з'яўляецца не капіталістычным прадпрыемствам, а *"...спецыфічнай формай грамадскай арганізацыі, асноўным відам дзейнасці якой з'яўляецца камерцыйная дзейнасць"* (Методические рекомендации, 1989: 7), акрамя таго можна было ідэйна апеляваць да "ленінскай традыцыі". Прыняты ў першай палове 1988 года закон "Аб кааперацыі ў СССР" (Закон № 8998-XI, 1988) зняў усе асноўныя абмежаванні, што накладаліся савецкім заканадаўствам на дзейнасць кааператываў, спарадзіўшы тым самым адну з самых супярэчлівых з'яў апошніх гадоў існавання СССР (гл. Блохин і Иванова, 1989; Вахитов, 2007).

Яшчэ адным вектарам, згодна з якім у савецкую эканоміку ўкараняліся элементы рынку і закладаліся асновы для адраджэння інстытута прыват-

най уласнасці на сродкі вытворчасці, сталі адносіны арэнды. Нарматыўную базу для ўкаранення арэнды заклаў указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР прыняты на пачатку 1989-га года (Указ №10277-XI, 1989).

Указ адпавядаў той жа самай логіцы ўвядзення асобных рынкавых элементаў пры вонкавым захаванні сацыялістычнай традыцыі – перададзенае ў арэнду прадпрыемства і абсталяванне заставалася ў дзяржаўнай уласнасці, але выробленая на гэтым абсталяванні прадукцыя ўжо належала арэнднаму калектыву, які, пры выкананні ўстаноўленых дамовай абавязкаў па дзяржзаказе, распараджаўся гэтай прадукцыяй і даходам ад яе рэалізацыі самастойна. Умовы заключэння арэндных дамоў вар'іраваліся, але ў цэлым меркавалася, што калектывы, выплаціўшы праз арэндную плату кошт абсталявання, з часам стануць яго ўласнікамі.

З аднаго боку, арэндны і кааператыўны рухі знайшлі падтрымку пэўных пластоў насельніцтва і забяспечвалі значны рост прадукцыйнасці працы і заработнай платы ў асобных сектарах эканомікі. Да прыкладу, пры сярэднім заробку па краіне 234 рублі ў месяц, у 1989 годзе ў маскоўскіх кааператывах сярэдняя заработная плата складала каля 700 рублёў (Блохин і Иванова, 1989: 22). З іншага, "палавіністы" падыход савецкага кіраўніцтва імгненна спарадзіў серыю самых вострых праблем.

Па сутнасці, суб'ектам права ўласнасці абвяшчаўся абстрактны калектыў пераменнага складу – прымаючы рашэнні і ўдзел у размеркаванні прыбытку на прадпрыемстве, работнік губляў гэтыя перавагі ў выпадку змены месца працы. Разумеючы гэта, калектывы вялі гаспадарку па прынцыпе "пасля нас хоць патоп", раздзімаючы сацыяльныя выдаткі, а не развіваючы вытворчасць. Звычайнай сталася і практыка звальнення па рашэнні працоўнага калектыву інжынерна-тэхнічнага і дапаможнага персаналу, паколькі *"... з пераходам да калектыўнай уласнасці працаўнікі прадпрыемства імкнуцца да максімізацыі не прыбытку наогул, а прыбытку ў разліку на аднаго занятага"* (Никончик, 1991: 15).

Акрамя гэтага арэндаваць асобныя прадпрыемствы, або нават цэхі і змены сталі не іх калектывы, а бурліва растучыя кааператывы, што ставіла пад пытанне "народны" і сацыялістычны характар арэнды.

Усе гэтыя няўдачы частковага "рынкавага сацыялізму" заваёўвалі ўсё больш прыхільнікаў таго меркавання, што альтэрнатывай адміністратыўна-планавай эканоміцы павінна стаць паглыбленне рынкавых пераўтварэнняў.

Ужо ў чэрвені 1990-га года быў прыняты Закон "Аб уласнасці ў СССР", які, нягледзячы на некаторыя супярэчнасці, дапускаў і рабіў роўнымі паводле праў дзяржаўную, калектыўную ўласнасць і (у тым ліку ў форме акцыянерных таварыстваў) уласнасць грамадзян (Закон №1305-1, 1990).

Гэта ў сваю чаргу адкрывала юрыдычную магчымасць для прыватызацыі прадпрыемстваў. І праз год, у ліпені 1991-га, быў прыняты Закон СССР "Аб асноўных пачатках раздзяржаўлення і прыватызацыі прад-

прыемстваў" (Закон №2278-I, 1991). У 1991 годзе былі таксама прынятыя заканадаўчыя акты аб прыватызацыі ў саюзных рэспубліках і першыя рэспубліканскія прыватызацыйныя праграмы. Прыярытэт падчас прыватызацыі па-савецку аддаваўся перадачы дзяржаўных прадпрыемстваў ва ўласнасць арэндных калектываў, утвораных раней.

У Беларускую ССР рынкавыя ініцыятывы цэнтра даходзілі з некаторым спазненнем. Аднак, насуперак устойліваму меркаванню пра Беларусь як "запаведнік сацыялізму", мясцовыя ўлады перашкаджалі ўкараненню арэнды і кааператываў не больш чым у іншых рэспубліках, і колькасць іх паступова расла. У 1991-м годзе ў рэспубліцы налічвалася каля 6 000 кааператываў, у якіх было занята каля 150 000 працаўнікоў. Каля 6% работнікаў па краіне працавалі на арэндных прадпрыемствах.

У снежні 1990-га года быў утвораны Камітэт па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў БССР, галоўнай мэтай якога было раздзяржаўленне гэтай маёмасці. Уступіла ў дзеянне першая праграма прыватызацыі, і за 1991 год у рэспубліцы было прыватызавана 19 прадпрыемстваў рэспубліканскага ўзроўню і 42 прадпрыемствы камунальнай уласнасці з агульнай колькасцю работнікаў каля 23 000 чалавек (Жерносек, 2010: 8–9). У асноўным гаворка ішла аб выкупе прадпрыемстваў калектывамі ці арандатарамі. У наступным 1992 годзе спіс прыватызаванай маёмасці папоўніўся яшчэ 189 прадпрыемствамі з агульнай колькасцю работнікаў у 47 000 чалавек. Аднак, варта адзначыць, што Праграма прыватызацыі закранула ў асноўным прадпрыемствы рэспубліканскага і камунальнага падпарадкавання.

Зусім інакш ішла справа з буйнымі прадпрыемствамі. Пасляваенная індустрыялізацыя 1960–1970-х ператварыла Беларусь у "зборачны цэх" Савецкага Саюза – месца канцэнтрацыі гіганцкіх высокатэхналагічных прадпрыемстваў саюзнага значэння, якія знаходзіліся ў падпарадкаванні саюзных, а не рэспубліканскіх міністэрстваў. Адпаведна, прыватызацыя буйной і самай працаздольнай часткі беларускай прамысловасці пагражала прайсці без удзелу мясцовай наменклатуры. Гэтыя абставіны выклікалі непрыхаваны непакой беларускіх чыноўнікаў, які вырваўся навонкі падчас абмеркавання новых умоў саюзнай дамовы ў 1991-м годзе. Вельмі характэрным у гэтым сэнсе можна лічыць меркаванне члена Камісіі па прамысловасці Вярхоўнага Савета БССР Уладзіміра Новіка: *"Такім чынам, новыя ведамствы ўжо не ўтрымліваюць указанні на прыналежнасць да СССР, а па сутнасці ўяўляюць сабой нейкае падабенства транснацыянальных кампаній. Канцэнтрацыя велізарных капіталаў у Маскве прывядзе да фінансавай алігархіі цэнтра, якая прыйдзе на змену дыктатуры ЦК КПСС ... Сёння, напрыклад, так званыя саюзныя прадпрыемствы ў Беларусі ахопліваюць 70% вытворчых фондаў і 52% вытворчага персаналу, якія даюць 54% таварнай прадукцыі і 60% прыбытку"* (Новик, 1991: 7).

Не дзіўна, што з пачаткам рэалізацыі першых прыватызацыйных пра-

грам у 1991 годзе беларуская наменклатура пачала блакаваць раздзяржаўленне прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання. Барацьба гэтая абвастралася па меры набліжэння канца савецкай дзяржавы.

У жніўні 1991 года была прынята пастанова Савета Міністраў, згодна з якой, працоўныя дамовы, заключаныя з дырэктарамі прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання без узгаднення з беларускім урадам аб'яўляліся несапраўднымі (Постановление №323, 1991). У пачатку верасня ўрадавым органам была пастаўлена задача *"прапрацаваць у адпаведных саюзных органах пытанне аб механізме перадачы да 1 студзеня 1992 г. ва ўласнасць рэспублікі прадпрыемстваў і арганізацый саюзнага падпарадкавання"* (Постановление №343, 1991). Гэты матыў знайшоў адлюстраванне і ў прынятай напрыканцы верасня пастанове "Аб раздзяржаўленні эканомікі і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці Рэспублікі Беларусь у 1991 годзе" (Постановление №360, 1991), у якой гаворка ідзе найперш пра недапушчальнасць раздзяржаўлення саюзных прадпрыемстваў без згоды беларускага боку.

Фіналам гэтай барацьбы за саюзную ўласнасць стала пастанова "Аб парадку прыняцця ва ўласнасць Рэспублікі Беларусь прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый і ўстаноў саюзнага падпарадкавання" (Постановление №385, 1991), прынятае беларускім урадам 14 кастрычніка 1991 года – незадоўга да фактычнага распаду СССР. Пастанова абавязала міністэрствы і ведамствы разам з Камітэтам па кіраванні маёмасцю да 1 студзеня 1992 года прыняць усе саюзныя прадпрыемствы ў рэспубліканскую ўласнасць.

Але, нягледзячы на тое, што дэ факта прадпрыемствы саюзнага падпарадкавання без асаблівых эксцэсаў перайшлі пад юрысдыкцыю Рэспублікі Беларусь на пачатку 1992 года, юрыдычна такое становішча рэчаў было замацавана толькі пагадненнем аб узаемным прызнанні правоў і рэгуляванні адносін уласнасці, падпісаным кіраўнікамі былых саюзных рэспублік 9 кастрычніка 1992 года (Соглашение, 1992).

Барацьба вакол саюзнай уласнасці і, як яе вынік, – дваістая эканамічная палітыка мясцовай наменклатуры (на макраўзроўні яна актыўна супрацьдзейнічала працэсам, якім дапамагала на мікраўзроўні), наклалі спецыфічны адбітак на фармаванне беларускага капіталізму. Станаўленне беларускага капіталу адбывалася не шляхам прыватызацыі колькі-небудзь значных прадпрыемстваў, а шляхам своеасаблівага дзяржаўна-прыватнага партнёрства, калі вакол буйных дзяржаўных прадпрыемстваў фармавалася сетка невялікіх прыватных пасрэдніцкіх або вытворчых фірм: арэндных калектываў, кааператываў, прыватных малых прадпрыемстваў. Да прыкладу, толькі пры сталічным заводзе МАЗ у 1992-м годзе, па паведамленнях прэсы, дзейнічала каля 40 малых прадпрыемстваў рознай скіраванасці (Жук, 1992: 14–15) – лічба, параўнальная з вынікамі ўсёй прыватызацыі камунальнай уласнасці за 1991 год (згаданыя вышэй 42 прадпрыемствы).

## II. Рамантыка і практыка беларускага капіталізму

Атрымаўшы дзяржаўны суверэнітэт і права цалкам распараджацца маёмасцю, якая знаходзіцца на яе тэрыторыі, Рэспубліка Беларусь атрымала магчымасць рэалізоўваць цалкам аўтэнтычную палітыку ў сферы раздзяржаўлення. Пачынаць можна было практычна з чыстага аркуша – за папярэдні 1991 год у рэспубліцы было прыватызавана толькі 19 прадпрыемстваў рэспубліканскага падпарадкавання і 42 – камунальнай уласнасці. У краіне яшчэ не быў прыняты Закон аб прыватызацыі, і праграма раздзяржаўлення ўласнасці на 1992 год рэгулявалася пастановамі ўрада і часовымі нарматыўнымі актамі (Постановление №486, 1991).

Прыярытэтнай формай раздзяржаўлення, згодна з праграмай, абвяшчалася стварэнне калектыўных (народных) прадпрыемстваў – для невялікіх аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці (перш за ўсё, камунальнага падпарадкавання), арэнда працоўным калектывам з наступным выкупам – для сярэдніх, і стварэнне акцыянерных таварыстваў з наступным продажам акцый – для буйных дзяржаўных прадпрыемстваў і аб'яднанняў. Асноўным спосабам выкупу калектывамі акцый прадпрыемства станавіўся выкуп з растэрміноўкай.

Пры такім падыходзе магчымасці ўдзелу ў прыватызацыі замежнага інвестара зводзіліся да мінімуму. Аднак для першых гадоў рэформаў у Беларусі, ва ўсялякім выпадку ў рыторыцы, была характэрна арыентацыя на "народны" характар пераўтварэнняў. Канчатковай мэтай рынкавых рэформаў лічылася павышэнне зацікаўленасці работніка ў выніках сваёй працы і сам працэс акцыянавання трактаваўся ў зусім рамантычным духу: *"Мяркуецца, што 40% жыхароў нашай рэспублікі стануць уладальнікамі акцый (для параўнання, у ЗША валодаюць акцыямі 12%, у ФРГ – 16% насельніцтва) ... У нашых умовах можа атрымацца нейкі варыянт «прамысловай калектывізацыі»"* (Тихонов, 1992: 15–16).

Наступныя праграмы прыватызацыі меркавалі раздзяржаўленне 10% усіх фондаў, якія падпадаюць пад прыватызацыю ў 1993 годзе, і яшчэ 20% – у 1994-м. У якасці прыярытэтных для рэфармавання напрамкаў вылучаліся: лёгкая, харчовая, дрэваапрацоўчая, цэлюлозна-папяровая прамысловасць. Нягледзячы на тое, што прыярытэт у спосабах прыватызацыі заставаўся за арэндай з наступным выкупам, упершыню ў абарот уводзіліся такія формы раздзяржаўлення, як продаж па конкурсе або з аўкцыёну.

У 1993 годзе быў прыняты Закон "Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь" (Закон №2103-XII, 1993), у якім асноўнымі прынцыпамі абвяшчаліся: спалучэнне выплатнага ("возмездного") і бязвыплатнага спосабаў прыватызацыі, права кожнага грамадзяніна на частку бязвыплатнай дзяржаўнай уласнасці, прадастаўленне сацыяльных гарантый членам працоўных калектываў, паступовасць і паэтапнасць працэсу прыватызацыі. У тым жа годзе быў прыняты За-

кон “Аб імянных прыватызацыйных чэках Рэспублікі Беларусь” (Закон №2468-XII, 1993).

Фармат менавіта чэкавай прыватызацыі, відавочна, быў абраны ў адпаведнасці ўсходнееўрапейскім і постсавецкім тэндэнцыям таго часу з абапіраннем на досвед (часта негатыўны) дзяржаў, якія сталі на гэты шлях раней. Беларускі прыватызацыйны чэк даваў яго ўладальніку права на долю ў прыватызаванай дзяржаўнай уласнасці і выражаў яе памер, які залежаў ад узросту і працоўнага стажу атрымальніка, наяўнасць ашчадных укладаў да 1991 года ды іншых падобных дэталяў. У адрозненне ад расійскага “ваўчара”, беларускія прыватызацыйныя чэкі былі імяннымі – выдаваліся на імя пэўнага атрымальніка і патрабавалі ў выпадку перапродажу пэўнай юрыдычнай працэдуры, што павінна было прадухіліць іх масавую скупку ў сацыяльна праблемных грамадзян па заніжаных коштах. Акрамя таго беларускія прыватызацыйныя чэкі былі двух відаў: чэкі “Жыллё”, прызначаныя для мэтавай прыватызацыі жылля, і чэкі “Маёмасць” – для ўдзелу ў прыватызацыі прадпрыемстваў.

Вынікі чэкавай прыватызацыі бачыліся па-ранейшаму ў духу рамантыкі “народнага капіталізму”. Згодна з законам, мэтай бязвыплатнай чэкавай прыватызацыі было *“забеспячэнне сацыяльнай роўнасці ў працэсе прыватызацыі на этапе пераходу да рынкавай эканомікі”* (Закон №2103-XII, 1993).

Меркавалася, што ў працэсе прыватызацыі ў рукі новых уласнікаў пяройдзе дзве траціны дзяржаўнай маёмасці. Усе падпадаючыя пад прыватызацыю фонды падлягалі падзелу на дзве роўныя долі і прыватызаваліся выплатна *(“возмездно”)* – за грошы і бязвыплатна – за чэкі, у прапорцыі 50 на 50. Права пераважнага і ільготнага (мінус 20% ад грашовага кошту акцый) набыцця акцый атрымлівалі працоўныя калектывы.

У якасці пасярэдніка, які павінен быў дапамагчы грамадзянам арыентавацца ў нюансах фондавага рынку і асабістых інвестыцый, па задуме выступалі Спецыялізаваныя інвестыцыйныя фонды (СІФ) (Пастанову №53, 1994). Схема працы СІФ была простай: фонды скуплялі ў грамадзян прыватызацыйныя чэкі “Маёмасць” у абмен на ўласныя акцыі, а затым у абмен на гэтыя чэкі набывалі акцыі прадпрыемстваў. Усяго з 1994 года ліцэнзіі на працу ў якасці СІФ набылі 47 прадпрыемстваў, самаму буйному з якіх – Першаму рэспубліканскаму інвестыцыйнаму фонду даверылі свае чэкі больш за 60 тысяч грамадзян.

Аднак на практыцы хутка сталі відавочнымі шматлікія супярэчнасці такой формы прыватызацыі. Інвестыцыйныя фонды, згодна з беларускім заканадаўствам, не маглі набываць больш за 10% акцый прадпрыемства падчас яго прыватызацыі і інвеставаць больш за 5% сваёй маёмасці ў каштоўныя паперы аднаго эмітэнта. У выніку СІФы практычна адмовіліся ад кіравання пакетамі акцый і масава перайшлі да паўлегальнай скупкі ў насельніцтва акцый і чэкаў па заніжаных коштах пад заказ. Прычым заказчыкам магло выступаць кіраўніцтва прыватызаваных прадпрыемстваў,

якое не падзяляла ідэалаў “народнага капіталізму” і старалася кансалідаваць у сваіх руках кантрольны пакет. Хваля скаргаў і скандалаў з удзелам СІФ нарастала, іх дзейнасць прыпынялася прэзідэнтам Беларусі. У 32 з 47 СІФаў былі прыпыненыя ліцэнзіі, што не магло станоўча адбіцца на развіцці фондавага рынку і выніках чэкавай прыватызацыі.

Акрамя таго хутка выявіліся разыходжанні паміж колькасцю выдадзеных насельніцтву чэкаў і хуткасцю раздзяржаўлення прадпрыемстваў. Аналітыкі адзначалі, што *“ў 1994-м годзе налічана 22,4 працэнта чэкаў ад агульнага аб'ёму меркаванай іх выдачы, а раздзяржаўлена ўсяго 5,6% маёмасці, якая падлягае рэфармаванню, замест 20% акрэсленых праграмай ... за студзень гэтага года налічана яшчэ 3,3 адсоткі чэкаў, але не раздзяржаўлена ніводнае прадпрыемства”* (Шевченко, 1995: 1). Магчымасць выгадна ўкласці атрыманы чэк была невялікая, і замест чаканага ажыятажу і росту кошту прыватызацыйных чэкаў у рэальнасці назіралася зніжэнне кошту і падзенне цікавасці насельніцтва да гэтай задумы. Пры тым, што выдачу ўсіх прыватызацыйных чэкаў планавалася завяршыць да 1997 года, на першую палову 1995 года за сваёй доляй па прыватызаваную маёмасць звярнулася толькі каля 30% ад тых, хто меў права на атрыманне чэкаў (Таманин, 1995: 1).

Адной з перашкод на шляху прасоўвання чэкавай прыватызацыі беларускія ўлады бачылі празмернае развіццё адносін арэнды, якая стала з канца 80-х самым папулярным спосабам раздзяржаўлення прадпрыемстваў. З набыццём незалежнасці арэнда калектывамі прадпрыемстваў ва ўласніка-дзяржавы стала безумоўным лідарам у сектары камунальнай уласнасці. Да прыкладу, з 1993 па 1997 год змянілі форму ўласнасці 173 прадпрыемствы гандлю, з іх 114 – шляхам выкупу арэндаванай маёмасці.Хаця прыярытэтным напрамкам у беларускай прыватызацыі было абрана набыццё прадпрыемстваў працоўнымі калектывамі, пэўныя надзеі ўлада ўскладала і на айчынны капітал, што пачынаў нараджацца. Аднак з прычыны слабасці і няразвітасці апошні не хацеў і часта не мог укладваць сродкі ў буйныя прадпрыемствы.

З пачатку 90-х спецыялісты адзначалі, што *“нашыя бізнесмены ў асноўным праяўляюць цікавасць да аб'ектаў камунальнай уласнасці – крамаў, атэлье, сталовых і г.д. То бок, дзе можна праводзіць хуткія аперацыі, і, адпаведна, рабіць «хуткія» грошы. Таму працэс інвеставання ў буйныя прадпрыемствы ідзе вельмі павольна”* (Ажгирей, 1993: 3). Але да сярэдзіны 90-х склалася сітуацыя, калі прыватызацыя ў гэтым сектары была заблакаваная шырокім распаўсюджваннем арэндных прадпрыемстваў – далёка не ўсе з іх імкнуліся да выкупу арэндаванай маёмасці, але прыватызаваць такое прадпрыемства без згоды яго калектыву было немагчыма. У завяршэнне арэндныя прадпрыемствы Беларусі дэманстравалі ўсе заганы арэндных прадпрыемстваў позняга СССР: арыентацыя на ўкладанні ў сацыяльны сектар замест развіцця вытворчасці, нізкі ўзровень менеджменту і г.д.

Да другой паловы 90-х беларуская ўлада прыйшла да ідэі, што ўвесь гэты вузел праблем можна проста рассекчы. Прыярытэтным спосабам прыватызацыі да 1997 года быў абраны продаж прадпрыемстваў па конкурсе ці на аўкцыёне. У пачатку 1998 года прэзідэнт падпісаў знакаміты дэкрэт № 3 (Декрет №3, 1998), які, у мэтах прадухілення спекулятыўных пагадненняў, фактычна ўсталяваў бестэрміновы мараторый на адчужэнне акцый, набытых у працэсе чэкавай прыватызацыі. Гэтая мера прывяла да паралічу дзейнасці інвестыцыйных фондаў, заняпаду фондавага рынку і пазбавіла на нявызначаны тэрмін уладальнікаў акцый права імі распараджацца.

Акрамя таго быў прыняты шэраг заканадаўчых змен, накіраваных на зніжэнне долі арэнды з наступным выкупам у працэсе раздзяржаўлення. Па заканчэнні тэрміну арэндных дамоў калектывам прапаноўвалася альбо ў адпаведнасці з заканадаўствам аб раздзяржаўленні пераўтварыцца ў адкрытае акцыянернае таварыства, альбо цалкам выкупіць арэндаваную маёмасць, альбо вярнуць яе дзяржаве. Такая палітыка прывяла да даволі хуткага і амаль поўнага знікнення арэнды як формы раздзяржаўлення.

Нягледзячы на шэраг праблем і няўдач у справе пераходу ўласнасці ў прыватныя рукі, на мікраўзроўні гэты працэс ішоў значна энергічней. У адрозненне ад чэкаў "Маёмасць", чэкі "Жыллё" карысталіся попытам як сродак недарагой прыватызацыі асабістага жылля грамадзян, якая ішла без затрымак. Праца па прыватызацыі камунальнай уласнасці, сферы гандлю і паслуг, тым не менш, працягвалася, і была без асаблівага інфармацыйнага суправаджэння ў цэлым завершаная на пачатку 2000-х.

Тым не менш, з 1997-га прыватызацыйныя працэсы сталі згасаць. Дзяржава адмовілася ад маштабных прыватызацыйных кампаній, і раздзяржаўленне больш-менш буйных прадпрыемстваў на працягу бліжэйшага дзесяцігоддзя ажыццяўлялася хутчэй у парадку выключэння.

## III. У пошуках новага фармату

Сітуацыя пачала істотна мяняцца ў 2007–2008 гадах. Цяжка меркаваць, прычынай таму была эвалюцыя ў поглядах беларускага кіраўніцтва або ўзмацненне праблем беларускай эканомікі ды неабходнасць знешніх крэдытаў, у тым ліку па лініі МВФ. Так ці інакш, з 2007 года пачынаецца даволі маштабная лібералізацыя заканадаўства, накіраваная на больш актыўнае раздзяржаўленне беларускай эканомікі.

Перш за ўсё новаўвядзенні закранулі сектар "малой прыватызацыі". У лютым 2007 года ўказам прэзідэнта дапускаецца продаж аб'ектаў дзяржаўнай маёмасці, якая не выкарыстоўваецца, недзяржаўным юрыдычным асобам на аўкцыёнах, у тым ліку з устанаўленнем пачатковай цаны роўнай адной "базавай велічыні" (дзяржаўная разліковая адзінка, роўная на 2008 год каля 15 EUR) (Указ №108, 2007). Таксама, у мэтах скарачэння стратных прадпрыемстваў, прадугледжваецца магчымасць продажу такіх прадпрыемстваў з калектывамі менш за 100 чалавек на аўк-

цыёнах з пачатковай цаной у 20% ад ацэначнага кошту аб'екта, з растэрміноўкай плацяжу і шэрагам падатковых ільгот (Указ №113, 2008).

Нягледзячы на тое, што гэтыя новаўвядзенні спрашчалі продаж толькі эканамічна малазначных аб'ектаў, яны набылі папулярнасць у малога і сярэдняга бізнесу. У 2009 годзе было прададзена 205 аб'ектаў рэспубліканскай уласнасці і 984 – камунальнай. Прычым у абодвух выпадках большую частку з прададзенага склалі аб'екты малой прыватызацыі па мінімальных цэнах (Пятаков, 2010: 8).

У красавіку 2008 года дэкрэтам прэзідэнта (Декрет №7, 2008) быў дадзены старт паэтапнаму скасаванню маратория на адчужэнне набытых акцый. Зняццё абмежаванняў адбывалася ў тры этапы і цалкам было рэалізавана ў 2011 годзе, што крыху ажывіла аперацыі з акцыямі на другасным рынку.

У ліпені таго ж года Савет Міністраў зацвярджае план прыватызацыі на 2008–2010 гады, які павінен стаць першым этапам пачатку масавага раздзяржаўлення прадпрыемстваў (Постановление №1021, 2008). На гэтым этапе прадугледжвалася пераўтварэнне дзяржаўных унітарных прадпрыемстваў у адкрытыя акцыянерныя таварыствы (як правіла, са стопрацэнтнай доляй дзяржавы), акцыі якіх меркавалася выставіць для продажу на аўкцыёнах. У першы год такім спосабам статус акцыянерных таварыстваў набылі 197 дзяржаўных прадпрыемстваў, усяго ж праграма ўключала ў сябе пераўтварэнне 503 прадпрыемстваў і наступны продаж акцый 147 акцыянерных таварыстваў.

Акрамя гэтага, з 2007 па 2010 год, быў зроблены і шэраг іншых крокаў у напрамку лібералізацыі эканомікі. У прыватнасці, указ прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №667 "Об изъятии и предоставлении земельных участков", які ўступіў у сілу з 1 студзеня 2008 года, уводзіў прынцып адначасовага продажу нерухомасці і права на арэнду зямлі пад ёй як адзінага прадмета аўкцыёну (Указ №667, 2007). Закон аб "Аб аб'ектах, якія знаходзяцца толькі ва ўласнасці дзяржавы, і відах дзейнасці, на ажыццяўленне якіх распаўсюджваецца выключнае права дзяржавы" (Закон №169-З, 2010) істотна скараціў пералік так званых "стратэгічных" прадпрыемстваў, якія могуць знаходзіцца выключна ў руках дзяржавы. Было скасавана існаваўшае з 1997 года права "залатой акцыі".

Пры гэтым канцэптуальна новая хваля лібералізацыі ў эканоміцы істотна адрознівалася і ад лібералізацыі пачатку дзевяностых, і нават ад сітуацыі на момант увядзення маратория на адчужэнне акцый у 1997 годзе. Мэтай рэформаў на гэты раз абвяшчалася не пераўтварэнне беларусаў у нацыю акцыянераў і павышэнне зацікаўленасці ў выніках працы, а прыцягненне інвестыцый у беларускую эканоміку, якая перажывала стагнацыю.

Згодна са змяненнямі, унесенымі ў прыватызацыйнае заканадаўства ў ліпні 2010 года (Закон №172-З, 2010), прыярытэтнымі прызнаваліся "выплатныя" *("возмездные")* спосабы раздзяржаўлення. Ліквідавалася раней папулярная арэнда з наступным выкупам прадпрыемства працоўным калектывам, спынялася практыка

ільготнага продажу акцый калектывам і дазваляўся наўпросты продаж прадпрыемстваў па-за конкурсамі і аўкцыёнамі па ўказанні Прэзідэнта і Савета Міністраў. Каментуючы гэтую змену вектара, прадстаўнікі ўлады неаднаразова тлумачылі адмову ад утопіі "народнага капіталізму" яго несумяшчальнасцю з патрабаваннямі моманту і рэальнай рынкавай практыкай: *"Скасаванне нормы аб ільготным продажы работнікам прадпрыемстваў звязана з тым, што стварэнне новых акцыянерных таварыстваў ажыццяўляецца, у першую чаргу, з мэтай прыцягнення інвестыцый. Як вынікае з практыкі, работнікамі прадпрыемства набываецца не больш за 1% статутнага фонду акцыянерных таварыстваў ... Наяўнасць «мінарытарных» акцыянераў не спрыяе прыцягненню інвестыцый у акцыянернае таварыства. Больш за тое, у многіх выпадках стратэгічныя інвестары гатовыя ўдзельнічаць у статутным фондзе акцыянернага таварыства, як мінімум, на парытэтнай аснове з дзяржавай, што становіцца немагчымым пры наяўнасці «мінарытарных» акцыянераў. Больш мэтазгодна да прыцягнення інвестара забяспечыць захаванне 100-працэнтнай долі дзяржавы ў статутным фондзе акцыянерных таварыстваў"* (Драпеза, 2010: 13).

Сама па сабе гэтая змена курсу не спарадзіла ні пратэстаў, ні нават прыкметнай дыскусіі ў беларускім грамадстве, аднак гісторыю з чэкавай прыватызацыяй па-беларуску яна канчаткова перавяла ў шэраг казусаў: нягледзячы на тое, што чэкавая прыватызацыя прайшла, а канцэпцыя змянілася, і з'яўлення новых прывабных аб'ектаў не чакаецца, каля 35% чэкаў "Маёмасць" па-ранейшаму не былі выкарыстаныя, а ў шматлікіх выпадках нават не былі атрыманыя насельніцтвам на рукі. Адпаведна, раней або пазней, гутарка пойдзе або аб выкупе гэтых чэкаў у насельніцтва, або аб прызнанні таго факту, што частка насельніцтва так і не займела магчымасці атрымаць сваю долю савецкага грамадскага здабытку. Пакуль што беларускія ўлады, імкнучыся адцягнуць гэты момант, у 2012 годзе ў чарговы раз працягнулі тэрмін дзеяння чэкаў "Маёмасць" да 30 чэрвеня 2016 года (Постановление №1111, 2012). Варта адзначыць, што апошняя індэксацыя намінальнай вартасці прыватызацыйнага чэка "Маёмасць" адбылася ў 2005 годзе і склала 4400 рублёў за чэк (што на той час адпавядала двум далярам ЗША). На дадзены момант кошт чэка застаўся ранейшым, адпаведна, яго вартасць у даляравым эквіваленце няўхільна зніжаецца.

У развіццё ідэі маштабнай выплатнай *("возмездной")* прыватызацыі Савет Міністраў прыняў на пачатку 2011 года даволі амбітны План прыватызацыі на 2011–2013 гады (Постановление №348, 2011), згодна з якім толькі ў першы год меркавалася выставіць на аўкцыёны 181 прадпрыемства з агульнай колькасцю супрацоўнікаў каля 52 тысяч чалавек, размешчаных практычна ва ўсіх рэгіёнах рэспублікі. У наступныя два гады меркавалася давесці колькасць прыватызаваных прадпрыемстваў да 240.

Рэалізацыя Плана прыватызацыі суправаджалася нечакана моцнай і

даволі нязграбнай піар-кампаніяй у дзяржаўных СМІ, але ж гэтая кампанія забяспечыла і нязвыклы для Беларусі узровень адкрытасці інфармацыі. У 2012 годзе аўтары артыкула правялі даследаванне на тэму "Прыватызацыя ў Беларусі за 2011 год: вынікі аўкцыёнаў, вядучыя суб'екты, сацыяльныя наступствы". У межах даследавання, на дадзеныя якога мы і будзем абапірацца далей, была прааналізаваная інфармацыя аб выстаўленых у 2011 годзе для прыватызацыі прадпрыемствах, ход правядзення і вынікі прыватызацыйных аўкцыёнаў (гл. Исаёнок і інш., 2012; Исаёнок, 2012a; Исаёнок 2012b).

Хоць практычна ўсе згаданыя ў Плане прыватызацыі прадпрыемствы сапраўды выстаўляліся на адкрытыя аўкцыёны, сам падыход беларускага ўраду да фармавання спісаў прадпрыемстваў, якія падпадаюць пад раздзяржаўленне, апынуўся даволі спецыфічным. Аснову Плана прыватызацыі склалі невялікія і сярэднія прадпрыемствы з колькасцю супрацоўнікаў да 500 чалавек, размешчаныя на перыферыі. Гэта прадпрыемствы са старэючымі калектывамі і нізкім, ці нават адмоўным узроўнем рэнтабельнасці. Пры гэтым нават стратныя прадпрыемствы забяспечвалі работнікам дэкліраваную па краіне сярэднюю заработную плату. Высокапрыбытковыя прадпрыемствы, якія перш за ўсё цікавяць замежнага інвестара, у спісе прысутнічалі мінімальна і, як правіла, не прадугледжвалі продажу кантрольных пакетаў акцый. Продаж такіх прадпрыемстваў быў абвешчаны магчымым у выключна індывідуальным парадку: у абыход аўкцыёнаў і конкурсаў, з санкцыі вышэйшага кіраўніцтва краіны.

Такім чынам, ужо пры публікацыі Плана, было зразумела, што анансаваная радыкальная рэформа адносін уласнасці ў Беларусі на самой справе не выйшла за межы сфармаванай яшчэ на мяжы 1980–1990-х гадоў двухузроўневай мадэлі. Першы ўзровень тут – развіваныя і падтрыманыя дзяржавай буйныя і прыбытковыя прадпрыемствы. Гэта так званае "фамільнае срэбра" – прадпрыемствы, што прадаюцца са згоды вышэйшага кіраўніцтва – у большасці сваёй тыя самыя прадпрыемствы "саюзнага падпарадкавання", раздзяржаўленню якіх ў апошнія гады СССР супрацьстаяла беларуская наменклатура. Прадпрыемствы першага ўзроўню служаць эканамічнай базай беларускай дзяржавы і прыватызуюцца толькі ў парадку выключэння. На другім жа ўзроўні дзейнічаюць іншыя правілы, развіваюцца рынкавыя адносіны, фармуецца нацыянальны капітал і прыватызацыя не толькі магчымая, але часам нават чаканая.

Аднак на гэтым другім, больш ліберальным узроўні, звязаная з меншымі сацыяльнымі рызыкамі прыватызацыя ў сферы гандлю і паслуг у цэлым завяршылася. На парадку дня стаіць пытанне аб раздзяржаўленні невялікіх і сярэдніх прадпрыемстваў прамысловасці, будаўніцтва, транспарту. Яны не маюць вялікага значэння для эканомікі краіны, але забяспечваюць працоўныя месцы ў правінцыі і робяць свой унёсак у падтрыманне сацыяльнай стабільнасці. Гатоўнасць беларускай улады прыступіць да рэфармавання гэтых

прадпрыемстваў выглядала досыць радыкальным крокам.

Вынік рэалізацыі Плана прыватызацыі на 2011 год апынуўся далёкім ад меркаванага. За год на аўкцыёнах было прададзена толькі 36 з 181 прадпрыемстваў. З усяго багацця прадстаўленых для раздзяржаўлення галін (гандаль, бытавое абслугоўванне і сельская гаспадарка былі прадстаўлены мінімальна) найвялікшым попытам у інвестара карысталіся прадпрыемствы лёгкай, мэблевай і лясной прамысловасці. Пры тым, што вялікая частка ўдала прададзеных актываў куплялася на першым альбо другім аўкцыёне, астатнія прадпрыемствы не атрымалася рэалізаваць, нягледзячы на шматразовыя спробы выставіць іх на таргі. Таксама варта адзначыць нізкую канкурэнтнасць нешматлікіх аўкцыёнаў – у палове выпадкаў прадаваныя прадпрыемствы аддаваліся адзінаму прэтэндэнту на ўмовах павышэння пачатковай цаны на 5%. Прэцэдэнты сур'ёзнага павышэння цаны пакета акцый у выніку барацьбы некалькіх пакупнікоў насілі адзінкавы характар.

Партрэт інвестара, які ўдзельнічае ў беларускай прыватызацыі можна акрэсліць наступным чынам. Перш за ўсё гэта кампаніі з Беларусі (26 з 36 набытых пакетаў) альбо блізкага замежжа, у першую чаргу – Расіі. Прычым, калі беларусы лідзіруюць па колькасці набытых прадпрыемстваў, то расійцы паказваюць лідарства ў фінансавым памеры заключаных здзелак. Гэта досыць старыя кампаніі з добрым досведам працы на беларускім рынку ў сваёй галіне, якія набываюць прадпрыемствы з мэтай пашырэння ўжо існуючай вытворчасці і ўключэння іх у свой тэхналагічны цыкл.

У значнай ступені такі стан рэчаў тлумачыцца дадатковымі патрабаваннямі, якімі дзяржава абумовіла магчымасць продажу шматлікіх прадпрыемстваў: мараторый на скарачэнне колькасці працоўных месцаў для шэрагу буйных прадпрыемстваў на працягу 2–5 гадоў, захаванне галіновай прыналежнасці або дадатковае ільготнае крэдытаванне прадпрыемства – такі спіс вядучых умоў набыцця пакета акцый. Па сутнасці, дзяржава, разумеючы сацыяльныя і палітычныя наступствы рэструктурызацыі прапанаваных для прыватызацыі нізкаэфектыўных прадпрыемстваў, агаварыла сацыяльныя гарантыі для працоўных калектываў і замарозіла галіновую структуру гэтага сектара прамысловасці. Інвестар, гатовы пайсці на такія ўмовы, знайшоўся ў досыць вузкім сегменце галін: найперш у лёгкай, мэблевай і лясной прамысловасці ды камунікацыях, дзе прыватны сектар актыўна фармаваўся яшчэ на пачатку 1990-х. Аднак бізнес не гатовы ісці ў малазнаёмыя для яго галіны, улічваючы рызыкі звязаныя з абмежаваннямі па змене профілю і скарачэнні персаналу. Такім чынам, План прыватызацыі дэ факта не столькі прыцягнуў у беларускую прамысловасць дадатковы прыватны (беларускі або замежны) капітал, колькі паспрыяў узбуйненню ўжо наяўных на беларускім рынку гульцоў.

## IV. Новы цыкл прыватызацыі

Рэалізацыя прыватызацыйнага эксперыменту ў 2011 годзе суправаджалася шматлікімі скандальнымі за-

явамі: чыноўнікі Камітэта па маёмасці бачылі за непаспяховасцю аўкцыёнаў інтрыгі дырэктарскага корпуса, занепакоенага стратай сваіх пасадаў. У дадатак план раскрытыкаваў і Аляксандр Лукашэнка. Выступаючы на нарадзе па пытаннях прыватызацыі 30 сакавіка 2012, прэзідэнт запатрабаваў адмовіцца ад якіх-колечы загадзя агучаных спісаў прадпрыемстваў, што падлягаюць раздзяржаўленню, і распрацаваць адзіны дакумент, які рэгламентуе парадак прыватызацыі ў краіне (Президент, 2012).

Больш за тое, у 2012 годзе ў сферы адносін уласнасці пачаліся працэсы, якія дазволілі журналістам загаварыць ледзь не аб вяртанні да сацыялізму. У прыватнасці, па ўказанні прэзідэнта была праведзена фактычная нацыяналізацыя кандытарскіх акцыянерных таварыстваў “Камунарка”, ”Спартак” і “Чырвоны харчавік”. Пры ўсёй антырынкавай накіраванасці гэтых рашэнняў, яны, тым не менш, уяўляюць сабой даволі цікавую старонку ў гісторыі прыватызацыі па-беларуску. Гэтыя прадпрыемствы былі акцыяваныя яшчэ ў 1990-я гады, у адпаведнасці з тагачасным “бязвыплатным” падыходам да прыватызацыі, і значная колькасць іх акцый была размеркаваная сярод працоўных калектываў. Скарыстаўшыся адменай мараторыя на адчужэнне акцый з 1 студзеня 2011 года, буйныя акцыянеры (Марат Новікаў на “Спартаку” і “Камунарцы”, Ігар Анішчанка на “Чырвоным харчавіку”) разгарнулі масіраваную скупку акцый у супрацоўнікаў і пенсіянераў і сканцэнтравалі ў сваіх руках кантрольны пакет (Белорусские новости, 2011).

Такі спосаб атрымання кантролю над акцыянернымі таварыствамі ні ў якой ступені не супярэчыў беларускаму заканадаўству, аднак быў успрыняты кіраўніцтвам краіны як недапушчальны. У перспектыве ён адкрываў магчымасць набыцця бізнесам пэўнай катэгорыі прадпрыемстваў (прадпрыемствы, акцыянаваныя ў 1990-я гады, з заўважнай доляй мінарытарных акцыянераў з ліку сённяшніх і былых супрацоўнікаў) без якіх-колечы бонусаў для дзяржавы, і фактычна дэманстраваў банкруцтва ідэі чэкавай “народнай” прыватызацыі.

У мэтах недапушчэння такога кшталту практык у сакавіку 2011 года прэзідэнт падпісаў загад, у адпаведнасці з якім аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам атрымалі пераважнае права набыцця акцый некаторых акцыянерных таварыстваў.[1] Прасцей кажучы, акцыянер такога прадпрыемства, жадаючы прадаць свой пакет, стаў абавязаны папярэдзіць пра гэта выканкам, які атрымліваў права пры жаданні выкупіць гэтыя акцыі па тым самым кошце. Прычым асобныя пункты ўказа пачыналі дзейнічаць заднім чыслом, з 1 студзеня 2011 года.

Такім чынам, Мінгарвыканкам атрымаў магчымасць ініцыяваць судовае разбіральніцтва з мэтайануляваць здзелкі па акцыях “Спартака” і “Камунаркі”, заключаныя паміж 1 студзеня і 14 сакавіка 2011 года, і забяспечыць дзяржаве магчымасць

[1] Акцыі “стратэгічных” паводле спісу прадпрыемстваў, якія перапрацоўваюць сельскагаспадарчую прадукцыю, набытыя грамадзянамі ў дзяржавы на ільготных умовах або ў абмен на чэкі "Маёмасць": Указ №107, 2011.

выкупіць гэтыя акцыі ў адпаведнасці з пераважным правам. Аналагічныя прэтэнзіі Бабруйскі гарвыканкам высунуў па акцыях “Чырвонага харчавіка”. Абедзве судовыя позвы былі задаволеныя.

Акрамя гэтага ў жніўні 2012 года Вышэйшы гаспадарчы суд выявіў парушэнні, дапушчаныя ў працэсе прыватызацыі “Спартака” і “Камунаркі”, у выніку якіх дзяржава пазбавілася часткі сваіх акцый. Зліквідаванне гэтых парушэнняў фактычна аддало кантрольны пакет абодвух прадпрыемстваў у рукі дзяржавы (Белта, 2012b).

12 кастрычніка 2012 года падчас наведвання фабрыкі “Камунарка” Аляксандр Лукашэнка агучыў рашэнне распусціць назіральныя саветы і замяніць дырэктараў на абодвух прадпрыемствах (Белта, 2012a).

15 лістапада 2012 года, не без ціску з боку дзяржавы, сход акцыянераў ААТ “Чырвоны харчавік” пагадзіўся павялічыць статутны фонд на суму прадстаўленай у 2012 годзе дзяржпадтрымкі з давядзеннем долі дзяржавы ў статутным фондзе таварыства да 50% + 1 акцыя. (Tut.by, 2012). Такім жа чынам у пачатку 2013 года дзяржава завалодала 21% акцый ААТ “Прамень” (абутковыя прадпрыемствы “Сівельга”, “Отыка” і “Прамень”).

Апошняй дзяржаўнай ініцыятывай, накіраванай на захаванне статус-кво акцыянерных таварыстваў з прыкметнай доляй мінарытарных акцыянераў з ліку працоўных калектываў стаў разгледжаны Палатай прадстаўнікоў у першым чытанні 26 чэрвеня 2013 года праект закона “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці і пераўтварэнні дзяржаўных унітарных прадпрыемстваў у адкрытыя акцыянерныя таварыствы»”. Згодна з праектам, прадстаўнік дзяржавы ў тых акцыянерных таварыствах, дзе дзяржава валодае менш чым 50% акцый, набывае права галасаваць на сходзе акцыянераў галасамі мінарытарных акцыянераў. Акрамя таго праект нясе ў сабе рысы скасаванай раней “залатой акцыі” – магчымасць прызначэння прадстаўніка дзяржавы ў тыя акцыянерныя таварыствы, у якіх дзяржава не валодае доляй, з правам прыпыняць рашэнні сходу акцыянераў па шэрагу пытанняў. Аднак, якім у выніку стане гэты дакумент, пакажа будучыня.

## Заключэнне

З пачатку 1990-х гадоў раздзяржаўленне ўласнасці ў Беларусі развівалася, абапіраючыся на ідэі паступовага, ашчаднага ў дачыненні да насельніцтва ўваходжання ў рынак, са значнымі гарантыямі працоўным калектывам з боку дзяржавы. Гэтая палітыка развівалася як бы знізу ўверх – паступова пераходзячы ад прыватызацыі дробных гандлёвых кропак і стварэння кааператываў да раздзяржаўлення больш значных прадпрыемстваў.

Працэс гэты ішоў даволі асцярожна і суправаджаўся працяглымі паўзамі і адкатамі ў бок узмацнення ўплыву дзяржавы. Цягам такой супярэчлівай практыкі ідэалагічны складнік (“народны капіталізм”, “калектывы-ўласнікі”) паступова дэвальваваў у вачах беларускага кіраўніцтва. На

першы план выйшла “прыватызацыя для прыцягнення буйнога інвестара ў сітуацыі вострай неабходнасці” ў выпадку з прадпрыемствамі, якія можна выгадна прадаць, і “прыватызацыя з мэтай зняць з дзяржавы расходы па падтрымцы нізкарэнтабельных прадпрыемстваў” для ўсяго астатняга.

У выніку, галоўнай асаблівасцю прыватызацыі прамысловай вытворчасці па-беларуску з’яўляецца тое, што яна не стала тым, чым была прыватызацыя для ўкраінскай і расійскай мадэляў эканомікі. Беларуская прамысловая прыватызацыя не была і наўрад ці ўжо стане лакаматывам рынкавых рэформаў, фармавання класу ўласнікаў і буйнога нацыянальнага капіталу. Прыватны сектар і нацыянальны капітал сфармаваўся і актыўна расце галоўным чынам у шэрагу непрамысловых галін (гандаль, аперацыі з нерухомасцю, будаўніцтва і г.д.), а значэнне прамысловай вытворчасці для эканомікі паступова зніжаецца. Пры гэтым, нават у выпадку радыкальнай прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў, маштаб негатыўных сацыяльна-палітычных наступстваў будзе несупастаўляльны з аналагічнымі наступствамі расійскай і ўкраінскай прыватызацыі. З улікам гэтага, існуюць усе падставы меркаваць, што нават чарговае прыпыненне прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў у бліжэйшыя некалькі гадоў не стане крытычнай праблемай для росту прыватнага беларускага капіталу.

**Літаратура**


1. Ажгирей, А.М. (1993) “Процесс пошел. Но куда?”, *Деловой вестник,* 10.
2. *Белорусские новости* (2011). “«Коммунарка» выкупает простые акции у акционеров для продажи инвестору”. 14.07.2011, URL (доступ з 12.06.2013) http://naviny.by/rubrics/economic/2011/07/14/ic_news_113_372254
3. *Белта* (2012a). “Лукашенко распорядился ликвидировать наблюдательные советы на «Спартаке» и «Коммунарке»”. 12.10.2012, URL (доступ з 17.06.2013) http://www.belta.by/ru/all_news/president/Lukashenko-rasporjadilsja-likvidirovat-nabljudatelnye-sovety-na-Spartake-i-Kommunarke_i_611582.html
4. *Белта* (2012b). “«Спартак» и «Коммунарка» отозвали жалобы на решения хозсуда по искам Госкомимущества”. 17.10.2012, URL (доступ з 17.06.2013) http://www.belta.by/ru/all_news/economics/Spartak-i-Kommunarka-otozvali-zhaloby-na-reshenija-xozsuda-po-iskam-Goskomimuschestva_i_612052.html
5. Блохин, А. А., Иванова, Е. А. (1989) *Кооперативный сектор экономики,* Москва: Знание.
6. Вахитов, К.И. (2007) *История потребительской кооперации России,* Москва: Издательско-торговая корпорация “Дашков и К°”.
7. Декрет Президента Республики Беларусь №3 (1998) от 20 марта 1998 г. “О разгосударствлении и приватизации государственной собственности в Республике Беларусь”, URL (доступ з 17.04.2013) http://www.levonevski.net/pravo/razdel1/num2/1d2331.html
8. Декрет Президента Республики Беларусь №7 (2008) от 14 апреля 2008 г. “О внесении изменений и дополнений в Декрет Президента Республики Беларусь от 20 марта 1998 г. № 3”, URL (доступ з 17.04.2013) http://laws.newsby.org/documents/dekretp/dek00014.htm

9. Драпеза, Г. (2010) "Комментарий к принятому закону о приватизации государственного имущества", *Управление и распоряжение государственным имуществом,* №3: 12–14.
10. Драчев, В.К. (2002) Приватизация в Беларуси. Гомель: ГГУ.
11. Жерносек, Н. (2010) "Приватизации государственной собственности 20 лет", *Управление и распоряжение государственным имуществом,* №4(17): 8-16.
12. Жук, В. (1992) "Малые предприятия на МАЗ – подпорка для автогиганта?", *Деловой вестник,* 9-10.
13. Закон Республики Беларусь №169-З (2010) от 15 июля 2010 г. "Об объектах, находящихся только в собственности государства, и видах деятельности, на осуществление которых распространяется исключительное право государства", URL (доступ з 29.04.2013) http://www.pravo.by/main.aspx?guid=3871&p0=H11000169&p2
14. Закон Республики Беларусь №172-З (2010) от 16 июля 2010 г. "О внесении изменений и дополнений в некоторые законы Республики Беларусь и признании утратившими силу некоторых законодательных актов Республики Беларусь и их отдельных положений по вопросам приватизации государственного имущества", URL (доступ з 29.04.2013) http://www.pravo.by/main.aspx?guid=3871&p0=H11000172&p2
15. Закон Республики Беларусь №2103-XII (1993) от 19 января 1993 г. "О разгосударствлении и приватизации государственной собственности в Республике Беларусь", URL (доступ з 23.02.2013) http://pravo.levonevsky.org/bazaby/zakon/zakb1332.htm
16. Закон Республики Беларусь №2468-XII (1993) от 6 июля 1993 г. "Об именных приватизационных чеках Республики Беларусь", URL (доступ з 23.02.2013) http://pravo.levonevsky.org/bazaby/zakon/zakb1275.htm
17. Закон СССР № 8998-XI (1988) от 26 мая 1988 г. "О кооперации в СССР", URL (доступ з 17.06.2014) http://www.consultant.ru/document/cons_doc_LAW_1361
18. Закон СССР №1305-1 (1990) от 6 марта 1990 г. "О собственности в СССР", URL (доступ з 23.02.2013) http://www.lawmix.ru/docs_cccp/1126
19. Закон СССР №2278-I (1991) от 1 июля 1991 г. "Об основных началах разгосударствления и приватизации предприятий", URL (доступ з 23.02.2013) http://base.consultant.ru/cons/cgi/online.cgi?req=doc;base=ESU;n=7795
20. Закон СССР "О кооперации в СССР и организационно-правовые основы деятельности кооперативов" (1989), у Морозова А. К. (распрац.) *Методические рекомендации в помощь изучающим Закон СССР «О кооперации в СССР»,* Москва: Центросоюз СССР.
21. Исаёнок Д., Чижова Т., Михеева Л. (2012) Приватизация в Беларуси за 2011 год: результаты аукционов, ведущие субъекты, социальные последствия, Мінск, URL (доступ з 19.12.2013) http://palityka.org/wp-content/uploads/2014/06/priv_fin_2011.pdf
22. Исаёнок, Д. (2012a) "Приватизация выбирает тишину", *Наше мнение.* 03.04.2012, URL (доступ за 06.04.2012) http://nmnby.eu/news/express/4790.html
23. Исаёнок, Д. (2012b) "Номенклатура не спешит в собственники", *Наше мнение.* 18.04.2012 URL (доступ за 20.04.2012) http://nmnby.eu/news/express/4801.html
24. Ленин, В.И. "О кооперации" (1982), у В. И. Ленин, *Полное собрание сочинений,* издание 5-е, т. 45, Москва: Издательство политической литературы.
25. Никончик, В. (1991) "Коллективная собственность: заработают ли стимулы?", *Деловой вестник,* 7.
26. Новик, В.В. (1991) "Белорусский рынок и союзный договор. Как будем жить дальше?", *Деловой вестник,* 2.

27. Постановление Совета Министров Белорусской ССР №323 (1991) от 20 августа 1991 г. “О порядке согласования кандидатуры руководителя государственного союзного предприятия, расположенного на территории Белорусской ССР при найме (назначении) его на должность”, URL (доступ з 15.01.2013) http://pravo.levonevsky.org/bazaby/org507/sbor21/texw0580.htm
28. Постановление Совета Министров Республики Беларусь № 1111 (2012) от 3 декабря 2012 года "О сроках обращения именных приватизационных чеков "Имущество", URL (доступ з 19.06.2013) http://www.levonevski.net/pravo/norm2013/num02/d02678.html
29. Постановление Совета Министров Республики Беларусь № 348 (2011) от 21 марта 2011 года “Об утверждении плана приватизации объектов приватизации, находящихся в собственности Республики Беларусь, на 2011–2013 годы и плана преобразования республиканских унитарных предприятий в открытые акционерные общества на 2011–2013 годы”, URL (доступ за 06.04.2012) http://pda.government.by/upload/docs/file18bd198ce0971bd1.pdf
30. Постановление Совета Министров Республики Беларусь №1021 (2008) от 14 июля 2008 г. “Об утверждении плана приватизации объектов, находящихся в республиканской собственности, на 2008–2010 годы и перечня открытых акционерных обществ, созданных в процессе приватизации государственной собственности, акции которых, принадлежащие Республике Беларусь, подлежат продаже, на 2008–2010 годы”, URL (доступ з 23.06.2013) pravo.by/main.aspx?guid=3871&p0=c20801021&p2
31. Постановление Совета Министров Республики Беларусь №343 (1991) от 4 сентября 1991 г. “О мерах по выполнению Закона БССР «О придании статуса конституционного закона Декларации Верховного Совета Белорусской Советской Социалистической Республики о государственном суверенитете Белорусской Советской Социалистической Республики» и постановления Верховного Совета Белорусской ССР «Об обеспечении политической и экономической самостоятельности Белорусской ССР»”, URL (доступ з 17.02.2013) http://laws.newsby.org/documents/sovetm/pos20/sovmin20327.htm
32. Постановление Совета Министров Республики Беларусь №360 (1991) от 23 сентября 1991 г. “О разгосударствлении экономики и приватизации государственной собственности Республики Беларусь в 1991 году”, URL (доступ з 17.02.2013) http://pravo.levonevsky.org/bazaby11/republic63/text865.htm
33. Постановление Совета Министров Республики Беларусь №385 (1991) от 14 октября 1991 г. “О порядке принятия в собственность Республики Беларусь предприятий, объединений, организаций и учреждений союзного подчинения”, URL (доступ з 17.02.2013) http://pravo.levonevsky.org/bazaby/org507/sbor21/texw0521.htm
34. Постановление Совета Министров Республики Беларусь №486 (1991) от 23 декабря 1991 г. “О Программе разгосударствления экономики и приватизации государственной собственности Республики Беларусь на 1992 год”, URL (доступ з 17.02.2013) http://www.levonevski.net/pravo/temy/tema22/glav/docm0513.html
35. Постановление Совета Министров Республики Беларусь №53 (1994) от 1 февраля 1994 г. “Об утверждении Положения о специализированных инвестиционных фондах, аккумулирующих именные приватизационные чеки «Имущество»”, URL (доступ з 17.02.2013) http://laws.newsby.org/documents/sovetm/pos19/sovmin19232.htm
36. *Президент Республики Беларусь* (2012) “30 марта Глава государства Александр Лукашенко провел совещание по вопросам приватизации”. 30.03.2012, URL (доступ

з 17.03.2013) http://president.gov.by/ru/news_ru/view/30-marta-glava-gosudarstva-aleksandr-lukashenko-provel-soveschanie-po-voprosam-privatizatsii-72/

37. Пятаков, С.А. (2010) “О деятельности в сфере имущественных отношений в 2009-м году”, *Управление и распоряжение государственным имуществом,* 1: 4-9.
38. *Соглашение о взаимном признании прав и регулировании отношений собственности от 9 октября 1992 года* (1992), URL (доступ з 07.05.2013) http://spravka-jurist.com/base/part-eq/tx_xswkwy.htm
39. Таманин, Владимир (1995) “Сроки определены”, *Приватизация,* 6, 24.04.1995.
40. Титович, А.А., Сычев, А.Н. (2002) Разгосударствление и приватизация в Беларуси: опыт, проблемы, перспективы. Минск: Респ. унитар. предприятие "Изд. центр БГУ".
41. Тихонов, Р. (1992) “Фондовая биржа без рынка ценных бумаг?”, *Деловой вестник,* 2.
42. Указ Президента Республики Беларусь № 107 (2011) от 14 марта 2011 г. "О внесении изменений и дополнения в Указ Президента Республики Беларусь от 16 ноября 2006 г. № 677", URL (доступ з 05.06.2013) http://www.pravo.by/main.aspx?guid=3871&p0=P31100107
43. Указ Президента Республики Беларусь №108 (2007) от 27 февраля 2007 “О некоторых мерах по вовлечению в хозяйственный оборот неиспользуемого государственного имущества”, URL (доступ з 17.06.2013) http://laws.newsby.org/documents/ukazp/pos00/ukaz00948.htm
44. Указ Президента Республики Беларусь №113 (2008) от 25 февраля 2008 г. “О порядке и условиях продажи юридическим лицам предприятий как имущественных комплексов убыточных государственных организаций”, URL (доступ з 05.06.2013) http://pravo.by/main.aspx?guid=3871&p0=P30800113
45. Указ Президента Республики Беларусь №667 (2007) от 27 декабря 2007 года *“Об изъятии и предоставлении земельных участков”,* URL (доступ з 05.06.2013) http://www.levonevski.net/pravo/norm2013/num25/d25443.html
46. Указ Президиума Верховного Совета СССР №10277-XI (1989) от 7 апреля 1989 г. “Об аренде и арендных отношениях в СССР”, URL (доступ з 17.06.2013) http://base.consultant.ru/cons/cgi/online.cgi?req=doc;base=ESU;n=3465
47. Шевченко, З. (1995) “Получим ли свою долю? Темпы чековой приватизации затухают”, *Человек и собственность,* 2(15).
48. *Tut.by* (2012). “Государство получит контроль и над «Красным пищевиком»”. 26.11.2012, URL (доступ з 18.06.2014) http://news.tut.by/economics/322327.html

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 20, 2013

# Краёвая партыя Літвы і Беларусі[1] (асноўная праграма)

*Ухваленая і зацверджаная ў Вільні 17 і 18 чэрвеня 1907 года*

Адметнае гістарычнае развіццё нашага роднага краю, Літвы і Беларусі, яго адметныя эканамічныя, этнаграфічныя і культурныя ўмовы вымагаюць адмысловага разгляду ў працы над агульным пераўтварэннем палітычных і грамадскіх адносінаў.

Наш край нацыянальна разнастайны, і пазіцыя палякаў тут адрозніваецца ад этнаграфічна аднастайных раёнаў, таму тым большую мы нясем адказнасць за выбар правільнай палітыкі.

Наша становішча ўскладняецца яшчэ тым, што ў дадзены перыяд росквіту нацыяналізмаў хапае і ў нас, сярод нацыянальнасцяў, якія жывуць у нашым краі – не выключэнне тут і наша нацыянальнасць – як асобных людзей, так і групаў, якія стаяць на абмежаваным нацыянальным грунце. Іх палітыка, часта агрэсіўная, стымулюецца не толькі фактычнымі нацыянальнымі антаганізмамі, але і знешнімі ўплывамі.

Таму першы грамадзянскі і палітычны абавязак для нас, палякаў Літвы і Беларусі, гэта глыбокае і шчырае разуменне фактычных стасункаў, з якімі нам дадзена жыць, і прыстасаванне нашай палітычнай і грамадскай дзейнасці да гэтых стасункаў.

Нам павінна быць чужой абмежаваная, нацыяналістычная альбо эгаістычна-саслоўная палітыка. Нам варта прызнаць неабходнасць і карысць мірнага сужыцця нацыянальнасцяў, якія жывуць у нашым краі, іх узгодненай супольнай працы для агульнага дабра, ажыццяўляемай ва ўмовах узаемнай павагі і даверу, з прызнаннем адносных нацыянальных і культурных адметнасцяў, а таксама паўнаты правоў на ўласнае самастойнае развіццё. Да гэтага павінна далучыцца супольная праца ўсіх для эканамічнага, культурнага і грамадскага прагрэсу краю і яго жыхароў.

Каб гэтыя прынцыпы і абавязкі ўвайшлі ў краёвую палітыку і дзейнасць, каб яны былі замацаваныя ва ўсіх жыццёвых праявах, неабходна арганізаваць людзей, прыхільных гэтым прынцыпам, у партыю, якая б узяла ў свае далоні адпаведную руплівую працу і публічную адказнасць за яе.

Таму мы вырашылі стварыць **Краёвую партыю Літвы і Беларусі**[2] на наступных прынцыпах:

[1] Перакладзена паводле: [Skirmunt, Roman] (1907). “Stronnictwo Krajowe Litwy i Białejrusi. Program podstawowy”, *Głos Polski,* 23.06.(06.07.)1907. Усе вылучэнні ў тэксце падаюцца ў адпаведнасці з арыгіналам. Пераклад – Аляксея Ластоўскага. Каментары – Аляксандра Пашкевіча.

[2] Стварэнне і дзейнасць Краёвай партыі Літвы і Беларусі праходзіла, галоўным чынам, у 1905-1908 гадах. Партыя стаяла на правых пазіцыях, выступала за аўтаномію і ед-

1. Галоўнай задачай нашай палітыкі і першым абавязкам дзейнасці нашай партыі мы лічым працу ўнутры краю і для яго дабра, абапёртую на сумленнай і справядлівай ацэнцы і прызнанні яго сапраўдных патрэбаў і ўмоў.

2. Усе нацыянальнасці нашага краю павінны карыстацца роўнымі правамі ва ўсіх сферах палітычнага і грамадзянскага жыцця і мець магчымасць свабоднага развіцця сваёй нацыянальнай культуры.

Шчыра і цалкам мы прызнаем значэнне для краю і выяўленую жыватворнасць літоўскай нацыі, яе права на поўнае і ўласнае культурнае развіццё.

У роўнай меры мы будзем шанаваць і праяўленыя беларусамі тэндэнцыі да самастойнага нацыянальнага і культурнага развіцця.

Кіруючыся прынцыпамі поўнай справядлівасці да іншых, адначасова мы будзем імкнуцца да атрымання паўнаты палітычных і грамадзянскіх правоў для нас саміх і да здабыцця ўмоў для далейшага развіцця нашай уласнай культуры.

Мы разумеем і цалкам прызнаем карысць і патрэбу паразумення з расійцамі, якія імкнуцца дзейнічаць разам з намі дзеля агульнай карысці для краю і на прынцыпах агульнага раўнапраўя.

Урэшце, патрабаванні раўнапраўя з боку габрэяў мы прызнаем слушнымі.

3. Мы імкнёмся, каб на глебе прыняцця прынцыпаў нашай партыі паўставалі асобныя нацыянальныя фракцыі, натхнёныя духам супольнай працы дзеля краю, з якімі б наша партыя магла знайсці паразуменне і стварыць саюз.

4. Падтрымка хрысціянскага духу і свабоднае развіццё хрысціянскай адукацыі з'яўляюцца неабходнымі ўмовамі ўдасканалення грамадства. Усе законы, якія абмяжоўваюць свабоду веравызнання альбо выступаюць супраць рэлігійнай талерантнасці, мы лічым шкоднымі.

5. Мы з'яўляемся рашучымі прыхільнікамі канстытуцыйнай манархіі і, стоячы на грунце расійскай дзяржаўнасці, мы будзем імкнуцца да гарантавання грамадзянскіх правоў заканадаўчым шляхам і да атрымання шырокага самакіравання для вырашэння спраў, цесна звязаных з мясцовымі патрэбамі.

6. Асаблівую ўвагу мы імкнёмся надаць справе асветы, як справе першачарговай вагі. Перадусім варта даць магчымасць кожнаму атрымоўваць пачатковую адукацыю на роднай мове, апроч таго варта даць магчымасць накіроўваць прыватныя ахвяраванні на справу асветы.

7. Па аграрным пытанні мы імкнёмся спрыяць павелічэнню памераў уладанняў вяскоўцаў і да эканамічнага прагрэсу гаспадарак шляхам натуральнай эвалюцыі і пры моцнай падтрымцы з боку дзяржавы, без парушэння прынцыпу маёмасных правоў.

Пры несумненнай сталай прапанове зямельнай маёмасці і ўмелым ды сумленным выкарыстанні дзяржаўных крэдытаў мы атрымаем дастатковыя абшары для задавальнення патрэбаў мясцовага насельніцтва на даступных для яго ўмовах. Гэтая зямля павінна перайсці ва ўласнасць мясцовага вясковага насельніцтва

насць зямель былога Вялікага Княства Літоўскага. Аўтар дакумента Раман Скірмунт (1868—1939) – уплывовы прадстаўнік "краёвага" і беларускага нацыянальнага руху.

без магчымасці каланізацыі незанятых надзелаў жыхарамі з іншых частак дзяржавы.

Сервітуты[3] павінны быць ліквідаваныя з улікам правоў і патрэбаў абодвух зацікаўленых бакоў. Павінна паступова праводзіцца камасацыя[4] сялянскіх земляў.

Церазпалосіца (szachownica) павінна быць ліквідаванай, хоць бы гэта і запатрабуе пэўных ахвяраў з боку буйных землеўласнікаў.

8. Мы з'яўляемся прыхільнікамі здаровага і правільна зразуметага прагрэсу; мы разумеем грамадскую дэмакратызацыю як працу ўсіх над культурным і эканамічным паляпшэннем становішча бедных і працоўных класаў; таму мы будзем стала падтрымліваць развіццё адпаведнага шырокага рабочага заканадаўства і абавязковую дапамогу з боку маёмасных класаў.

Мы таксама імкнёмся падтрымліваць усялякія грамадскія ініцыятывы і ўсялякія праявы самадапамогі, а з хадою краёвага і грамадскага жыцця, а таксама атрыманага досведу і ўказанняў будзем стала крочыць сінхронна з прагрэсам і патрэбамі краю, а нашу праграму будзем дапаўняць і ўдасканальваць.

*Падпісалі:*

**Эдвард Вайніловіч (Edward Woyniłłowicz),**

**Юльян Талочка (Juljan Tołłoczko),**

**Гіпаліт Корвін-Мілеўскі (Hipolit Korwin-Milewski),**

**Канстанцін Скірмунт (Konstanty Skirmunt),**

**Міхал Валовіч (Michał Wołłowicz),**

**Казімеж Здзяхоўскі (Kazimierz Zdziechowski),**

**Міхал Мэйштовіч (Michał Meysztowicz),**

**Станіслаў Ваньковіч (Stanisław Wańkowicz),**

**Аляксандр Хамінскі (Aleksander Chomiński),**

**Марцін Адляніцкі-Пачобут (Marcin Odlanicki Poczobutt),**

**Эдмунд Барткевіч (Edmund Bortkiewicz),**

**доктар Тадэвуш Дэмбоўскі (Dr. Tadeusz Dembowski),**

**Эдвард Бельскі (Edward Bielski),**

**Казімір Шафнагель (Kazimierz Szafnagel),**

**Дзмітрый Карыбут-Дашкевіч (Dymitr Korybut-Daszkiewicz),**

**Фелікс Броэль-Плятэр (Feliks Broel-Plater),**

**Адам Замойскі (Adam Zamoyski),**

**Чэслаў Янкоўскі (Czesław Jankowski),**

**Я. Келчэўскі (J. Kiełłczewski),**[5]

**Павел Коньча (Paweł Kończa),**

**Караль Незабытоўскі (Karoł Niezabytowski),**

**Караль Сальмановіч (Karol Salmonowicz),**

**Ян Урсын-Нямцэвіч (Jan Ursyn-Niemcewicz).**

---

3 Сервітут – абмежаванае права карыстання зямлёй, якое забяспечвае іншаму землекарыстальніку магчымасць карыстання ёю з пэўнымі абмежаваннямі, вызначанымі законам або дамовай. На тэрыторыі Беларусі сервітутнае права датычыла перш за ўсё сумеснага выкарыстання сялянамі і памешчыкамі лясоў, лугоў і пашаў.

4 Камасацыя – ліквідацыя цераспалосіцы, звядзенне раздробленых зямельных участкаў аднаго гаспадара ў адзін суцэльны кавалак.

5 Магчыма, маецца на ўвазе Ян Келчэўскі-Скарбэк (Jan Kiełłczewski-Skarbek) – нар. 26 красавіка 1887, выхадзец з Мінскай губерні, хоць на момант падпісання праграмы яму мусіла споўніцца толькі 20 гадоў.

©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 20, 2013

# Праграма Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі[1]

З поўнай палітычнай бяздзейнасці нас нечакана паклікалі да парламенцкага жыцця разам з усім вялізным абшарам Расійскай дзяржавы, у параўнанні з якім мы толькі невялічкая частка. Аднак у нас цалкам іншая мінуўшчына, іншы ўнутраны лад, іншыя ў нас нацыянальнасці і пераважна іншая рэлігія. Усе гэтыя нашы адметнасці доўгія гады не прызнаваліся і пераследаваліся. Падавалася, што ў выніку паміж намі мусіць паўстаць адзінства, наступіць сардэчнае збліжэнне, і што мы павінны адзін аднаго падтрымліваць, не зважаючы на саслоўі і нацыянальнасці, каб у новым жыцці, якое перад намі адкрываецца, мы стварылі адзіную сілу, з якой нават агромністая дзяржава мусіць лічыцца. На жаль, мы назіраем адсутнасць узаемнай лучнасці пасля доўгага сну! Апошнім часам варожыя ўсім нам сілы вядуць не да еднасці, а гвалтоўна зараз раздзьмухваюць саслоўныя і нацыянальныя адрозненні, адрозненні ў палітычных поглядах, таму нашыя сілы, і так не вельмі вялікія, яшчэ больш разбіваюцца. Як вынік нам пагражае небяспека, што замест стварэння адзінай магутнай партыі перад выбарамі і для працы; партыі, якая магла б змагацца за тое, што нам патрэбна для нашага развіцця і дабрабыту, мы будзем падзеленыя на розныя групоўкі, і ўслед за тым – бяссільнымі перад агромністай Расіяй і безабаронна падпарадкаваныя жорсткім правілам, нам чужым і пад нашы патрэбы не прыстасаваным.

Каб гэтага пазбегнуць, мы абавязкова мусім згуртавацца і знайсці супольную глебу, на якой як мага большая частка нацыянальнасцяў і індывідаў, што жывуць у нашым краі, могуць паразумецца. Каб у еднасці і любові адзін аднаго не крыўдзіць, а падтрымліваць, разам бараніцца, працаваць і здабыць сабе трывалыя падставы для справядлівага інтэлектуальнага, матэрыяльнага і нацыянальнага развіцця.

Практычна ўсе палякі і літоўцы і большая частка беларусаў, што жывуць у нашым краі, з'яўляюцца каталікамі. Таму і вера, апроч супольнай

[1] [Ropp, Edward von] (1906). Program Stronnictwa Konstytucyjno-Katolickiego na Litwę i Białoruś. Wilno: Drukarnia Edmunda Nowickiego. Усе вылучэнні ў тэксце падаюцца ў адпаведнасці з арыгіналам. Пераклад – Аляксея Ластоўскага. Каментары – Аляксандра Пашкевіча. Дзейнасць Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі прыпадае на 1905-1907 гады, партыя мела кансерватыўную праграму, выступала за аўтаномію і еднасць зямель былога Вялікага Княства Літоўскага. Аўтар дакумента і заснавальнік партыі – Эдвард фон Роп (1851-1939): каталіцкі святар, біскуп цірaспальскі (1902-1903), віленскі (1903-1917), арцыбіскуп магілёўскі (1917-1926).

гістарычнай мінуўшчыны, з'яўляецца нашым наймацнейшым і найбольш паспяховым злучнікам. Калі звярнуцца да нядаўняй мінуўшчыны, нельга не заўважыць, што менавіта ўлюбёная значнай большасцю нашага насельніцтва каталіцкая вера была галоўнай прычынай уціску і праследу. У нас адбіралі нашы касцёлы, зачынялі кляштары, ліквідавалі ордэны, абмяжоўвалі духавенства, забаранялі каталіцкую асвету і школы – і нават моўны прыгнёт слабеў, калі не ішоў побач з праследам веры. Гэта пацвярджаецца і тым фактам, што лютэранам і кальвіністам дазвалялі навучацца па-літоўску і па-латышску, габрэям – пагабрэйску, і толькі каталікам ва ўсім адмаўлялі. Таму і на будучыню адсюль вынікае неабходнасць злучэння на грунце гэтай да гэтага часу праследаванай рэлігіі, якую мы разам абаранялі так шмат гадоў.

Маніфестам 17 кастрычніка[2] нам былі дадзеныя новыя **правы,** на ўсё наша грамадства накладзеныя новыя **абавязкі.** Мы, каталікі, можам на хрысціянскім грунце іх акрэсліць як абавязак узаемнай любові і захавання правоў усіх грамадскіх саслоўяў, што патрабуе высвятлення патрэбаў, датычных нас усіх. Наш абавязак – абарона гэтых правоў і патрэбаў шляхам, пракладзеным для нас новымі правамі, то бок перадусім праз разумнае ўжыванне права выбіраць выбаршчыкаў і дэпутатаў у будучую Дзяржаўную думу.

Калі ў святле ўзаемнай любові і захавання правоў асобных слаёў насельніцтва мы разгледзім нашы стасункі, то пераканаемся, што на каталіцкім грунце мы можам не толькі дамагацца выпраўлення крыўдаў, нанесеных Касцёлу і школе, але можам таксама і вызначыць **усе** нашы патрэбы і шукаць іх задавальнення. Больш таго, мы можам аб'яднаць усе нашы саслоўі і нацыянальнасці ў супольнай дзейнасці і барацьбе, можам нават знайсці – бо стаім на грунце праўды і справядлівасці – паплечнікаў сярод цвяроза мыслячых людзей, хоць і чужых нам нацыянальна і рэлігійна. Такім спосабам мы створым сілу, якая істотна паўплывае на лёс і далейшы накірунак унутранага развіцця Дзяржавы. Наш народ, які будзе ахвотна выбіраць дэпутатамі добрых католікаў, павінен ведаць, што знойдзе ў іх надзейных і сапраўды годных прадстаўнікоў, гатовых абараняць усе яго правы і патрэбы. Каталіцкія прадстаўнікі павінны не тэарэтычна, а практычна змагацца за сапраўдныя і неадкладныя патрэбы нашага краю – і разам з тым справядліва ставіцца да агульнадзяржаўных пытанняў, паколькі галоўнай рысай Каталіцкай партыі мусіць быць бесстаронняе справядлівае абыходжанне з усімі – незалежна ад нацыянальнасці, веры і становішча.

* * *

[2] Маніфест ад 17 кастрычніка 1905 года ўпершыню ў гісторыі Расійскай імперыі ўводзіў падзел заканадаўчай улады паміж імператарам і прадстаўнічым органам – Дзяржаўнай думай. Яго выданне азначала лібералізацыю грамадскіх адносін у Расійскай імперыі і давала большыя магчымасці для дзейнасці ўсім катэгорыям насельніцтва Расіі, у тым ліку і нацыянальным ды рэлігійным меншасцям.

Нам трэба коратка выказаць, што мы жадаем, чаго дамагаемся, і што мы будзем абараняць у пытаннях кіравання і стаўлення да Касцёла, у галіне адукацыі, сельскагаспадарчых стасункаў, фабрычнай і заводскай працы, і, нарэшце, у пытаннях агульнадзяржаўных устаноў, якія забяспечваюць нашы патрэбы.

Калі пачаць з найбольш далікатных і пякучых сёння пытанняў, то мы сцвярджаем, што:

### 1. У справах адукацыі

Канстытуцыйна-каталіцкая партыя будзе дамагацца:

a) бясплатнай народнай школы на роднай мове з абавязковым навучаннем рэлігіі, з улікам дзяржаўнай мовы, з настаўнікамі нашай нацыянальнасці і веры, з падзелам хрысціянскіх ад нехрысціянскіх школ і з годным становішчам нашых святароў у сістэме адукацыі;

b) ліквідацыі ўсялякіх перашкодаў пры стварэнні школ прыватнымі асобамі, паветамі, гарадамі, свецкімі таварыствамі і ордэнамі, з уласнымі настаўнікамі – дзяржаве пакідаецца толькі права кантролю вынікаў школьнага навучання пад наглядам абраных прадстаўнікоў мясцовага насельніцтва;

c) лучнасці паміж рознымі катэгорыямі школ з правам для кожнага, хто мае адпаведныя веды, паступіць у любую і перайсці ў адпаведнасці з узроўнем уласных ведаў у школу наступнага ўзроўню (напрыклад, павятовая школа, гарадская школа, гімназія альбо рэальная школа, універсітэт ці політэхнічная акадэмія);

d) павелічэння колькасці сярэдніх і вышэйшых школаў адпаведна патрэбам насельніцтва, магчыма, з мясцовай мовай выкладання, з прызнаннем веравызнання навучэнцаў, з наглядам з боку грамадства і духоўнай улады, каб там штучна не разбураліся прынцыпы веры і маральнасці, каб таксама не выхоўвалася рэлігійная і племянная нянавісць;

e) аддаць усе ніжэйшыя і сярэднія школы пад кіраўніцтва мясцовага самакіравання;

f) стварыць па меры патрэбаў прафесійныя школы па ўсіх накірунках, залежныя ад таго ж самакіравання.

* * *

### 2. Аграрныя справы

Канстытуцыйна-каталіцкая партыя – пры захаванні падставовых правоў уласнасці – будзе намагацца:

a) усялякіх ільготаў пры набыцці невялікіх надзелаў зямлі без завышаных коштаў, з шырокім і лёгкім выкарыстаннем дзяржаўнай фінансавай дапамогі на максімальна выгодных умовах для пакупнікоў;

**Заўвага:** Гэтыя ільготы для дробных вясковых уласнікаў павінны найперш выкарыстоўвацца да асобаў, што аднačасова згаджаецца на камасацыю шнуравой уласнасці[3] і стварэнне фальваркавых гаспадарак, ці раскаланізаванне (rozkolonizowanie).[4]

[3] Маецца на ўвазе звядзенне ў адзін зямельны ўчастак мноства вузкіх палосак (шнуроў), якія належалі аднаму гаспадару.

[4] Раскаланізаванне – падзел вялікіх населеных пунктаў на аднадамовыя гаспадаркі, хутарызацыя.

b) вырашэння спраў паміж дробнымі і буйнымі ўласнікамі праз змешаныя арбітражныя суды, з роўнай колькасцю абраных сялян і буйных уласнікаў;

c) рэгулявання правоў і абавязкаў арандатараў з мэтай паляпшэння прыязных стасункаў арандатараў да ўласнікаў;

d) аховы лясоў ад знішчальнага гаспадарання;

e) захавання забяспечаных законам інтарэсаў мясцовага насельніцтва пры выкарыстанні лясоў, у тым ліку выкупу пры патрэбе мясцовым прадстаўніцтвам лясных абшараў, неабходных для мясцовага народа (ludu);

f) каб пасяленне вяскоўцаў на дзяржаўных, урадавых, удзельных[5] і ранейшых царкоўных землях, а пры патрэбе нават і на прыватных землях, калі тое засведчана мясцовым прадстаўніцтвам, знаходзіла максімальную дзяржаўную падтрымку;

g) каб правы, датычныя найму працаўнікоў, ці вясковых парабкаў, іх жытла, становішча, аплаты, колькасці гадзін працы ўзімку і ўлетку, платы за працу звыш тэрміну, дакладных тэрмінаў вызвалення ад працы, выплат у выходныя і святочныя дні, былі разгледжаныя і прыстасаваныя да мясцовых патрэбаў.

**Заўвага.** Нагляд над належным выкананнем гэтых правоў павінен ажыццяўляцца інспектарамі, абранымі абодвума бакамі.

h) дзяржаўнай пенсіі для вясковых працаўнікоў пры старасці і няздольнасці да працы.

**3. Фабрычныя і заводскія справы**

У галіне фабрычных і заводскіх спраў Канстытуцыйна-каталіцкая партыя будзе намагацца:

a) свабоды стварэння звязаў і арганізацыі сходаў, з адначаснай абаронай ад усялякага гвалту;

b) права на забастоўкі з абаронай асабістай вольнасці і абавязковым арбітражным разглядам прычын забастоўкі праз суды, супольна абраныя рабочымі і працадаўцамі;

c) інспекцыі рабочых стасункаў асобамі, абранымі абодвума бакамі, у аднолькавай колькасці ад рабочых і ад працадаўцаў;

d) па магчымасці ўводзіць 8-гадзінную працу і абмяжоўваць начную працу;

e) абароны працуючых жанчын ад эксплуатацыі, празмернай працы і ўсялякай амаральнасці;

f) абароны працаўнікоў, задзейнічаных на небяспечных і шкодных для здароўя працах;

g) апекі над працай непаўналетніх і забароны працы для дзяцей да 14 гадоў;

h) пенсіі за кошт працадаўцы для рабочых пры хваробе, калецтве і наступствах пры шкоднай для здароўя працы;

i) дзяржаўнай пенсіі для рабочых усіх прадпрыемстваў пры старасці і няздольнасці да працы;

k) крымінальнай адказнасці за невыкананне альбо тэндэнцыйнае тлумачэнне заканадаўства, датычнага абароны рабочых;

l) прававой і грашовай дапамогі дзяржавы для вяртання ранейшых

[5] Удзельныя землі – у Расіі канца XVIII – пачатку XX стагоддзя землі, якія належалі імператарскай сям'і і кіраваліся адмысловым Дэпартаментам удзелаў. З 1863 года пачалі выдзяляцца ва ўласнасць мясцовым, так званым удзельным сялянам.

і ўсталявання ўсялякіх новых прафесійных звязаў (пры стварэнні школаў, прытулкаў, дамоў удоваў і сірот і г. д.).

* * *

**4. Рэлігійныя стасункі**

У справе кіравання і касцёльных стасункаў канстытуцыйна-каталіцкая партыя будзе намагацца:

a) выпраўлення ўсіх крыўдаў, нанесеных у нашым краі Касцёлу, і ў тым ліку аднаўлення ліквідаваных дыяцэзій, вяртання забраных альбо зачыненых касцёлаў – а там, дзе гэта немагчыма, поўнай кампенсацыі за нанесеныя крыўды;

b) вяртання забраных зямельных надзелаў касцёлаў, якія былі ліквідаваныя пасля падпісання канкардату, альбо кампенсацыі за іх. Вяртання да свабоднага распараджэння біскупскай уладай фінансамі, якія нібы знаходзяцца ў адміністраванні Калегіі;[6]

c) ліквідацыі гэтай Калегіі;

d) вольнай падрыхтоўкі ксяндзоў, неабмежаванай колькасці клірыкаў у семінарыях, самастойнасці біскупскай улады пры прызначэнні ксяндзоў на пасады;

e) вызвалення каталіцкага насельніцтва ад падаткаў на карысць праваслаўнага духавенства;

f) матэрыяльнага забеспячэння духавенства, незалежна ад нестабільных касцёльных даходаў;

g) свабодных стасункаў са Сталіцай свету,[7] адбору біскупаў паводле касцёльнага права, арганізацыі кансісторый[8] без свецкіх чыноўнікаў на аснове правоў Касцёла;

h) свабоды стварэння ўсялякіх рэлігійных таварystваў, ордэнаў, брацтваў і г.д. паводле агульных прынцыпаў законаў пра звязы;

i) вольнага рэлігійнага навучання, поўнай і сапраўднай свабоды веравызнання, свабоды рэлігійных перадшлюбных дамоваў і іх правамоцнасці;

k) свабоды біскупскай улады ў стварэнні парафій, у будаўніцтве парафіяльных і філіяльных касцёлаў, у скліканні дыяцэзійных і правінцыйных сінодаў, а таксама выраўноўванне календароў;[9]

---

[6] Маецца на ўвазе Рымска-каталіцкая духоўная калегія, заснаваная імператарам Аляксандрам І у 1801 годзе без узгаднення з Папам Рымскім для кіравання справамі Рыма-каталіцкага касцёла ў Расіі. У склад гэтай установы ўваходзілі прадстаўнікі як касцёльнай іерархіі, так і свецкіх уладаў. Калегія з'яўлялася найвышэйшай адміністрацыйнай і судовай інстанцыяй Рыма-каталіцкага касцёла ў Расійскай імперыі, і праз яе расійскія ўлады фактычна трымалі яго пад сваім кантролем, у тым ліку і фінансавым.

[7] Маецца на ўвазе Ватыкан як сталіца каталіцкага свету.

[8] Кансісторыя – орган царкоўна-адміністрацыйнага кіравання, які дзейнічаў у Расійскай імперыі пры каталіцкіх біскупах.

[9] Маецца на ўвазе праблема, якая існавала ў сувязі з афіцыйным ужываннем у Расіі юліянскага календара, а ў літургічнай практыцы Каталіцкага касцёла – грыгарыянскага. Пасля паўстання 1863—1864 гадоў расійскія ўлады запатрабавалі ад каталіцкіх ксяндзоў весці метрычныя кнігі на рускай мове і ўжываць паралельна з датаваннем паводле грыгарыянскага календара датаванне юліянскае, што выклікала з боку католікоў незадавальненне і супраціў.

l) правамоцнасці дэкрэтаў духоўных судоў у справах шлюбу, шлюбнай амаральнасці і парушэнняў святарамі сваіх абавязкаў і агульнай маралі і звычаяў.

* * *

**5. Агульнадзяржаўныя справы**

Канстытуцыйна-каталіцкая партыя з мэтай замацавання і забеспячэння ўсіх згаданых сваіх пастулатаў, паводле прызнанай Маніфестам 17 кастрычніка роўнасці перад законам усіх грамадзян, будзе намагацца, каб усе існуючыя службовыя, грамадзянскія і палітычныя адрозненні нацыянальных і рэлігійных правоў былі зараз жа ліквідаваныя, а да арганічных законаў дзяржавы далучаны:

a) сапраўдная свабода веравызнання і навучання, прыватных і публічных набажэнстваў, паколькі гэта не супярэчыць крымінальнаму праву;

b) свабода слова і друку, ліквідацыя папярэдняй цэнзуры і ўсталяванне выразных нормаў крымінальнай адказнасці;

c) недатыкальнасць асобы і жытла для любой улады, апроч судовай, з дакладнымі тэрмінамі вызвалення альбо аддачы пад суд; недатыкальнасць прыватнай карэспандэнцыі; усталяванне агульных судоў без выключэнняў і адміністрацыйна-прафесійная абарона падчас следства;

d) усталяванне ўсесаслоўных грамад з самакіраваннем і поўнае асабістае ды маёмаснае вызваленне вяскоўцаў ад прыгнятальнай апекі дзяржавы і ад усялякіх жорсткіх правіл;

e) свабода палітычных сходаў пад апекай абраных грамадствам наглядчыкаў парадку і абарона – калі тое патрабуецца кіраўнікам сходу – ад умяшання чужых элементаў, якія перашкаджаюць вядзенню сходу;

f) свабода стварэння свецкіх і ордэнскіх звязаў і таварыстваў без папярэдніх дазволаў, так, каб для атрымання статуса юрыдычнай асобы было дастаткова афіцыйнай рэгістрацыі.

У сілу такога арганічнага дзяржаўнага права:

1) усе нацыянальнасці, што жывуць у дзяржаве, павінны мець роўныя грамадзянскія і палітычныя правы, у тым ліку поўнае права ўжываць сваю мову ў публічным жыцці, права стварэння школаў, таварыстваў і інстытутаў для падтрымання і развіцця сваёй мовы, літаратуры і ўласнай культуры.

**Заўвага.** Партыя прызнае, што руская мова, як дзяржаўная, застаецца мовай цэнтральнай адміністрацыі, арміі і флоту, і можа ўжывацца нароўні з мясцовымі мовамі;

2) вызначэнне мовы мясцовай адміністрацыі павінна залежыць ад рашэння мясцовага самакіравання;

3) жыхару кожнай мясцовасці павінна быць нададзеная магчымасць атрымання пачатковай і сярэдняй адукацыі на ўласнай мове, наколькі гэта паспяхова можна зрабіць у мясцовых умовах. Экзамены, якія даюць права на дзяржаўную службу, павінны адбывацца толькі на рускай мове, але для рэшты прадметаў павінна быць дазволена здаваць экзамены на родных мовах;

4) пры адбыцці вайсковай павіннасці палкі павінны стварацца з людзей, якія паходзяць з адной мясцовасці, пры магчымасці – аднакан-

фесійныя, са справядлівым размеркаваннем святароў для вайскоўцаў усіх канфесій;

5) вайсковая служба павінна адбывацца на месцы – патрэбы ж аддаленых мясцовасцяў павінны задавальняцца ўсімі часткамі дзяржавы, прапарцыйна колькасці жыхароў;

6) Дзяржава павінна развіваць як мага шырэйшае мясцовае самакіраванне, пры гэтым межы тэрыторый самакіравання ці правінцыйных акругаў павінны вызначацца з улікам волі насельніцтва, паводле нацыянальных, эканамічных і рэлігійна-маральных межаў, супольных звычаяў і грамадскіх патрэбаў;

7) Дзяржава на чале з канстытуцыйным Імператарам павінна кіравацца сходам (парламентам), абраным па прынцыпу агульнага, роўнага, непасрэднага, таемнага і абавязковага галасавання, якое б гарантавала правы меншасці;

8) паколькі кіраванне дзяржавай мусіць быць у руках прадстаўнічага органа, то вышэйшая выканаўчая ўлада, а менавіта міністры, павінны быць адказнымі перад гэтым прадстаўнічым органам, а ніжэйшая выканаўчая ўлада – перад звычайнымі судамі;

9) усе інстытуты мясцовага самакіравання павінны быць абраныя агульным, роўным, непасрэдным, таемным і абавязковым галасаваннем на падставе прапарцыйнага прадстаўніцтва, для абароны меншасці;

10) ад усесаслоўнага самакіравання паветаў павінны залежаць мясцовыя чыноўнікі, а менавіта: старшыні, пісары і г.д., а таксама народныя настаўнікі. Навучанне рэлігіі можа весціся толькі настаўнікамі, прызнанымі адпаведнымі духоўнымі ўладамі;

11) прадстаўнікамі мясцовай адміністрацыі павінны быць асобы, якія жывуць на тэрыторыі самакіравання, належаць да веравызнання і нацыянальнасці, якія там пераважаюць ці маюць вялікае значэнне;

12) мясцовае самакіраванне павінна мець у сваім распараджэнні асвету, ахову здароўя, паліцыю, дарогі, інспекцыю фабрычнай і сельскагаспадарчай працы, аграрныя справы – адным словам, усё кіраванне; за выключэннем арміі, флоту, агульнадзяржаўных шляхоў, пошты і тэлеграфа;

13) з дзяржаўных даходаў павінна быць прызначаная па закону адпаведная частка для вырашэння спраў мясцовага самакіравання, і праз агульнае права павінна быць вызначана права самакіравання на мясцовыя падаткі;

14) прадстаўнікі цэнтральнай дзяржаўнай улады павінны мець толькі права нагляду за правамернасцю дзейнасці самакіравання. У спрэчных выпадках рашэнне павінна залежаць ад судоў;

15) цэнтральнае заканадаўчае прадстаўніцтва павінна ўрэгуляваць аўтаномію Польскага Каралеўства і іншыя мясцовыя аўтаноміі ў межах, якія, як згадвалася, адпавядаюць волі большасці жыхароў;

16) судовыя органы павінны быць цалкам незалежнымі, тут не мусіць быць перасоўванняў, павышэнняў і ўзнагародаў, яны павінны быць самадастатковымі, з добрымі заробкамі, складацца з людзей, якія ведаюць мовы і звычаі асобных акругаў. Ніжэйшая ступень судовых органаў павінна выбірацца;

17) дзяржаўнае фінансаванне павінна быць абапёртае на прамыя падаткі на даходы, з улікам сітуацыі і ільготамі для бедных класаў, з прагрэсіўнай нагрузкай для большых даходаў, спадчыннай маёмасці і мёртвых капіталаў. Адначасова ўскосныя падаткі на прадметы першай неабходнасці мусяць быць ліквідаваныя;

18) мыты павінны разлічвацца такім чынам, каб дапамагаць мясцоваму развіццю сельскай гаспадаркі і вытворчасці, якія маюць перспектывы ў асобных мясцовасцях;

19) капіталы ашчадных кас павінны накіроўвацца на развіццё танных дробных крэдытаў, а перадусім на стварэнне касаў, што ставяць мэтай вызваленне дробнай зямельнай уласнасці ад ліхвярскай эксплуатацыі, на дапамогу меліярацыі і прафесійным таварыствам.

* * *

## 6. Арганізацыя і актуальная дзейнасць

**А.** У Вільні ствараецца Цэнтральны камітэт, складзены з 7 асобаў, сярод іх прынамсі адзін святар са згоды біскупа. Камітэт абіраецца на адзін год дэлегатамі мясцовых (lokalnych) камітэтаў, перад склікannем штогадовага цэнтральнага сходу (wiec) і стала займаецца справамі Партыі;

У абсяг яго дзейнасці ўваходзіць:

1) склікanne і арганізацыя агульных сходаў;

2) падтрыманне адносін з мясцовымі камітэтамі, кіраўніцтва ў перадвыбарчых кампаніях, парады адносна неабходнай на месцы дзейнасці, прававая інфармацыя і абарона ў прэсе;

3) арганізацыя ці ўхваленне ўжо створаных мясцовых камітэтаў;

4) стварэнне спіса кандыдатаў у дэпутаты Дзяржаўнай думы;

5) у выпадку патрэбы, вызначэнне кандыдатаў у дэпутаты мясцовага самакіравання вышэйшых катэгорый, – то бок павятовых і губернскіх;

6) кіраванне партыйнай касай;

7) публікацыя ў выданнях Партыі патрэбных адозваў, справаздачаў, абвяржэнняў і г.д.;

**В.** У розных мясцінах, прынамсі ў кожным павеце, ствараюцца мясцовыя камітэты, складзеныя з адвольнай колькасці чальцоў, сярод якіх прынамсі адзін мусіць быць духоўнай асобай, зацверджанай біскупам.

У абсяг іх дзейнасці ўваходзіць:

1) склікanne і арганізацыя мясцовых сходаў;

2) кіраўніцтва перадвыбарчымі кампаніямі;

3) разгляд і накіраванне ў цэнтральнае кіраўніцтва здольных кандыдатур дэпутатаў Думы і іншых органаў самакіравання;

4) рэкамендаванне асобным паветам кандыдатаў, якія падыходзяць для заняцця павятовых і настаўніцкіх пасад;

5) інфармаванне Цэнтральнага камітэта пра мясцовыя патрэбы;

6) арганізацыя ў асобных мясцовасцях грамадскіх і культурных устаноў і камітэтаў, як: бібліятэк, прафесійных таварыстваў і звязаў, таварыства “Еднасць”,[10] “Згуртаванне”,[11] касаў Райфайзэна[12] ці іншых і г.д.;

[10] “Jedność” (“Адзінства”) – у пачатку XX стагоддзя адзін з найбуйнейшых польскіх прафсаюзаў, які аб’ядноўваў супрацоўнікаў тэкстыльнай прамысловасці.

7) ажыццяўленне рахункаводства мясцовых аддзяленняў Партыі;

8) інфармаванне Цэнтральнага камітэта пра навіны, якія вымагаюць распаўсюджвання ў выданнях Партыі, і пра ўсе мясцовыя справы, якія з якіх-небудзь прычын датычаць Партыі.

**C. Сходы.**

1) Агульныя сходы склікаюцца паводле патрэбы, прынамсі раз на год.

2) Кіраўніцтва ажыццяўляе старшыня Цэнтральнага камітэта; у дапамогу яму сход абірае аднаго ці некалькі віцэ-старшыняў.

3) Камітэты перад скліканнем сходаў павінны выпрацаваць агульныя тэмы паседжанняў і разгледзець адпаведных людзей для зачытвання дакладаў і тлумачэння.

4) Кожны чалец Партыі мае права падаваць тэмы для паседжанняў за месяц да склікання сходу. Камітэт мае права на матываваную адмову. На сходзе новыя тэмы могуць быць дапушчаныя толькі ў выпадку аднагалоснай ухвалы Камітэта. Тэмы абмеркаванняў і парадак паседжанняў сходу мусіць быць апублікаваныя ў выданнях Партыі за два тыдні перад скліканнем сходу.

5) На сход маюць доступ чальцы Партыі і іншыя асобы, калі яны пайменна праводзяцца на сход чальцамі Партыі. Чужыя асобы маюць права браць голас толькі ў сілу адзінагалоснага пастанаўлення прэзідыума.

6) Мясцовыя сходы склікаюцца пад кіраўніцтвам мясцовых камітэтаў згодна з патрэбамі кожныя тры месяцы ці часцей, аднак не часцей, чым з двухтыднёвым перапынкам. На іх распаўсюджваюцца тыя ж самыя правілы, што і ў выпадку цэнтральных альбо агульных сходаў, толькі са скарачэннем пазначаных у пункце 4 тэрмінаў да двух тыдняў і тыдня.

7) На сходах складаюцца пратаколы, якія публікуюцца ў выданнях Партыі.

8) У асобных парафіях чальцамі мясцовых камітэтаў альбо мясцовым пробашчам ці вызначаным праз лакальны камітэт прадстаўніком склікаюцца парафіяльныя сходы для разгляду мясцовых грамадскіх справаў і палітычнай інфармацыі – не часцей, чым раз на тыдзень, у загадзя вызначаны дзень.

**D. Сродкі**

1. Дабраахвотныя ахвяраванні на карысць Партыі.

2. 2 рублі штогадова за права атрымоўваць паведамленні Партыі ў форме аднаго з штотыднёвікаў, выдаваных пад кіраўніцтвам Партыі;

3. За ўваход на агульны сход плаціцца 50 капеек, на мясцовыя сходы – 25 капеек; на парафіяльныя сходы ўваход бясплатны.

4. Сходы выбіраюць штогод па тры чальцы ў рэвізійную камісію для праверкі рахункаводства Партыі.

Органамі канстытуцыйна-каталіцкай Партыі з'яўляюцца дэмакра-

[11] "Spójnia" ("Згуртаванне") – польскі спажывецкі кааператыў, філіі якога ў пачатку XX стагоддзя дзейнічалі ў тым ліку і на тэрыторыі літоўска-беларускага краю.

[12] Касы Райфайзэна – пазыкова-ашчадныя кааператывы, якія працавалі па сістэме, створанай нямецкім грамадскім і гаспадарчым дзеячам Фрыдрыхам Вільгельмам Райфайзэнам (Raiffeisen, 1818—1888). Пазыкі, паводле гэтай сістэмы, выдаваліся Касай толькі сябрам адпаведнага таварыства.

тычна-каталіцкі штодзённік “Nowiny Wileńskie”,[13] а таксама штотыднёвікі “Przyjaciel Ludu”[14] і “Towarzysz Pracy”,[15] якія з 1906 году выходзяць у Вільні.

**Е. Актуальная дзейнасць.**

1) Стварэнне арганізацыйнага бюро.

2) Скліканне агульнага сходу і стварэнне лакальных камітэтаў.

3) Скліканне лакальных і парафіяльных сходаў для высвятлення новых правоў і абавязкаў, для абдумвання спакойных і легальных спосабаў актуальнай дзейнасці ў пытаннях мясцовага самакіравання, школаў, выбараў і ўсіх пякучых праблемаў бягучага моманту.

4) Разгляд матэрыяльных патрэбаў насельніцтва, каталіцкіх арганізацый, прафесійных таварыстваў, таварыстваў узаемнай дапамогі, касаў і г.д.

5) Пошук асобаў пэўных у поглядах, узорных у жыцці і інтэлектуальна здольных быць кандыдатамі ў розныя мясцовыя прадстаўніцтвы самакіравання і ў Дзяржаўную думу.

**Заўвага.** Прысутнасць духоўных асобаў у цэнтральным і мясцовым камітэтах, выкліканая патрэбай моманту, у будучыні не з’яўляецца абавязковай.

**Ініцыятар – Эдвард Роп, віленскі біскуп.**

Абраныя чальцы арганізацыйнага бюро:

**Юзаф Мантвіл (Montwiłł Józef),** дырэктар Зямельнага банка ў Вільні.

**Station Станіслаў Лапацінскі (Łopaciński Stanisław),** старшыня Віцебскага сельскагаспадарчага таварыства.

**Ксёндз Мацiевіч (Ks. Macijewicz),** капелан школаў.

**Ксёндз Міронас (Ks. Mironas),** капелан школаў.

**Ян Ляховіч (Lachowicz Jan),** Віцебская, д. 3.

**Стэфаноўскі (Stefanowski),** аптэкар, Вільня, Пагулянка.

**Юзаф Змітровіч (Zmitrowicz Józef),** студэнт універсітэта.

---

13 “Nowiny Wileńskie” (“Віленскія навіны”) — штодзённая газета, якая выдавалася з 4(17) студзеня да 20 лютага (5 сакавіка) 1906 года ў Вільні на польскай мове. Падзеі палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурна-рэлігійнага жыцця беларуска-літоўскіх губерняў на старонках газеты асвятляліся з хрысціянска-дэмакратычных пазіцый. Усяго выдадзена 32 нумары.

14 “Przyjaciel Ludu” (“Сябра народа”) – штотыднёвая хрысціянска-дэмакратычная газета, якая выходзіла ў Вільні ў 1906—1911 гадах пад рэдакцыяй Тадэвуша Завадскага. Была арыентаваная ў асноўным на сялянскую аўдыторыю.

15 “Towarzysz Pracy” (“Таварыш працы”) – штотыднёвая хрысціянска-дэмакратычная газета, якая выходзіла ў Вільні ў 1906 годзе пад рэдакцыяй Л. Багдановіча. З’яўлялася органам Таварыства хрысціянскіх рабочых, адпаведна была зарыентаваная перадусім на рабочую аўдыторыю.

©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 20, 2013

# Праграма Літоўскай дэмакратычнай партыі (праект)[1]

Сёлета ў Вялікай Літве[2] быў праведзены з'езд літоўскіх дэмакратаў, на якім сярод мноства іншых пытанняў разглядаліся пытанні і іх цяперашняй праграмы. Паколькі за кароткі час гэтую праграму нельга было цалкам апрацаваць, то выкананне гэтай справы было даручанае абраным людзям, або камісіі, якая сёння, выканаўшы сваю справу ў адпаведнасці з атрыманымі парадамі, асмельваецца абвясціць яе грамадству з пазнакай, што гэтая праграма, пакуль не зацверджаная Літоўскай дэмакратычнай партыяй, застаецца праектам праграмы Літоўскай дэмакратычнай партыі.[3]

З прыемнасцю бачачы такое мноства абмеркаваных у праграме пытанняў у літоўскім друку, ласкава просім кіраўнікоў "Varpas"[4] і "Ukininkas",[5] а таксама і іншыя газеты змясціць гэты праект цалкам.

15.XI.1902. Камісія

## I. Нашыя мэты

Пасля трэцяга падзелу Польскага гаспадарства (viešpatystė), Літва трапіла ў маскоўскі (maskoliai) палон і сваю ўладу згубіла. У той час на Літве вольнымі былі толькі шляхта ды ксяндзы. Некалькі разоў спрабавалі яны скінуць прыгнёт, аднак, бачачы толькі ўласную карысць, не зважалі на долю вяскоўцаў ды па-старому змушалі іх да цяжкага прыгону. Менавіта таму ў мяцяжах супраць Маскоўшчыны вяскоўцы ім не дапамагалі, і з гэтае прычыны былі задушаныя тыя паўстанні, а Літва трапіла ў яшчэ большы прыгнёт.

Урэшце, скінуты прыгон. Вяскоўцы атрымалі крыху болей волі, але і над імі, як і над шляхтай ды святарамі, вісеў той самы палітычны маскоўскі прыгнёт. Асабліва літоўцам пачаў той прыгнёт брыднуць з часіны Мураўёва-вешальніка, калі ім заба-

1 "Programas Lietuvių demokratų partijos" (1902), *Varpas,* № 12. Перакладзена паводле: Miknys, R. (1995) *Lietuvos demokratų partija 1902-1915 m..* Vilnius: 184-196. Усе вылучэнні ў тэксце падаюцца ў адпаведнасці з арыгіналам. Каментары да тэксту – Томаша Блашчака.

2 Маюцца на ўвазе літоўскія землі пад уладай Расіі.

3 Літоўская дэмакратычная партыя (Lietuvių demokratų partija), з 1906 года Дэмакратычная партыя Літвы – адна з найбольш уплывовых літоўскі палітычных арганізацыйны пачатку XX стагоддзя, фактычна другая пасля сацыял-дэмакратаў. Дзейнічала з 1902 па 1920 год.

4 Varpas ("Варпас", "Звон") – літаратурна-палітычны штомесячнік, выдаваўся ў 1889-1906 гадах у Тыльзіце і Рагніце (Усходняя Прусія). Адна з важнейшых газет літоўскага адраджэння.

5 Ūkininkas ("Укінінкас", "Селянін") – штомесячнік для сялян, выдаваўся ў 1889-1906 гадах у Тыльзіце і Рагніце рэдактарамі "Varpas".

ранілі друк, купляць зямлю і займаць розныя пасады ў адміністрацыі. Гэтую палітыку маскоўцаў, накіраваную на выкараненне літоўскасці, урэшце, пачалі разумець некаторыя нашыя вучоныя людзі і не дэнацыяналізаваныя (nenutaitėjusieji) літоўскія вяскоўцы. Нацыя (tauta) абудзілася ад доўгага сну. Чым далей, тым болей пачало з'яўляцца заступнікаў літоўскага народу і абаронцаў яго праў, урэшце, з'явілася і замежнае наша пісьменства.

Але пакуль Літва па-ранейшаму пад маскоўскім цяжарам, наш народ не можа набыць належных для сябе правоў. Крыкі і мальба аб літасці перад уладай, што ўпарціцца наш край абрусіць, нічога не дапамагаюць; перад моцай улады даводзіцца выставіць яшчэ мацнейшую нацыянальную і свядомую літоўскую арганізацыю. Пакрысе пачалі ў Літве з'яўляцца новыя праменьчыкі святла. Тыя агеньчыкі – веснікі вольнай і незалежнай Літвы – нарэшце засвяцілі і ў задымленых хацінах літоўскіх бедакоў па вёсках ды гарадах. **"Літва – для літоўцаў",** "Літва павінна быць вольная" – гэты, напачатку нясмелы, покліч пачаў ахапляць усё большыя і большыя масы людзей. Літва палітычна змярцвелая, Літва хоча палітычнага адраджэння – у гэтым мэта нацыі (tauta), гэтага патрабуюць праграмы ўсіх партый, якія тут існуюць. Вольная і не належная да іншых народаў і дзяржаў Літва – гэта аддаленая мэта нашай Літоўскай дэмакратычнай партыі.

Для дасягнення гэтай шырокай мэты неабходная як мага шырэйшая асвета нашага грамадства. Такая асвета сёння ўладай забараняецца: усё даводзіцца выконваць употай; нават звычайная культурная праца, якая ў самой Масковіі іншым народам не забароненая, літоўцам забараняецца. Мы ж не маем не толькі вольнага друку, але і звыклага, цэнзураванага. Акрамя гэтага, не маем вольных сходаў, вольнай асветы для моладзі, вольнага веравызнання, словам, не маем тых правоў, якія ў кожнай прасветленай дзяржаве сёння людзям забяспечаныя. Усе гэтыя правы, як у нас, так і ва ўсёй Масковіі, уладамі абмежаваныя. Гэтаксама ў грамадскім кіраванні дзяржавай самі сяляне не могуць ні ў выпуск новых законаў умешвацца, ні клапаціцца пра ўжо выпушчаныя, ні займаць месцы ў самой адміністрацыі праз выбар людзей. Усё, у рэшце рэштаў, залежыць ад бюракратыі, што падсунулася пад крылы маскоўскага арла, або, проста гаворачы, ад цара.

Не так павінна быць: ва ўсіх справах замест вяршэнства цара ці жменькі ўраднікаў, што яму належаць, **вяршэнства мусіць быць у саміх людзей.** Такая перадача вяршэнства сялянам магчымая, толькі калі згіне цяперашняе бюракратычна-паліцэйскае маскоўскае кіраўніцтва. Сёння ўжо і сама ўлада ведае, што знішчэння яе прагнуць і самі расійскія (rusų) партыі, што супраць яе паўстаюць гэтаксама і ўсе народы, якія жывуць пад маскоўскім прыгнётам і прагнуць вызваліцца з-пад таго прыгнёту.

Такім чынам, каб і літоўцы набылі гэтае вяршэнства і забяспечылі плады палітычнай свабоды, **мы павінны ісці разам з партыямі Масковіі, што паўстаюць супраць цяпераш-**

**ніх уладаў.** Гэта памятаючы, ЛДП будзе намагацца трымаць салідарнасць з тымі партыямі, якія патрабуюць палітычнай свабоды.

Аднак патрабаванні Літоўскай дэмакратычнай партыі не абмяжоўваюцца здабычай палітычнай свабоды. Гаворачы "Літва – для літоўцаў", мы прагнем здабыць для нашага народу такі палітычны парадак, пры якім літоўцы змогуць самі сабой кіраваць, не залежачы ад чужынцаў. Гэта можа здарыцца толькі тады, калі будзе атрыманая **поўная аўтаномія Літвы ў этнаграфічных межах.**

Не заглыбляючыся ў будучыя падмуркі аўтаномнай Літвы, ЛДП, тым часам, лічыць найважнейшым выхоўваць нашае грамадства ў кірунку, прадугледжаным партыяй, і прызвычайваць яго бараніць свае справы ад улады і чужынцаў, якія перашкаджаюць ажыццяўленню нашых мэтаў.

Кароткі змест згаданых мэтаў і патрабаванняў, далей выкладзеных больш падрабязна, і ўтварае праграму Літоўскай дэмакратычнай партыі, якая, з цягам узмацнення нашых сіл, спадзяемся, будзе развівацца і ўдасканальвацца. З гэтай праграмай злучаецца і наша тактыка, далей абмеркаваная, якая мусіць развівацца, залежна ад сіл самой партыі і іх росту.

## II. Нашыя патрабаванні

Як у Масковіі, так і ў Літве, якая да Масковіі належыць, няма ні сойму, ні іншага абранага людзьмі сходу, перад якім мы маглі б выставіць свае патрабаванні, як гэта робіцца ў дзяржавах, дзе існуюць парламенты. Свае патрабаванні нам даводзіцца ўздымаць толькі перад маскоўскімі ўладамі, якія могуць іх прыняць або адхіліць ды нават пакараць за тое, што тыя патрабаванні ўздымаюцца. З досведу мы ведаем, што **ў вачах уладаў маюць вартасць толькі такія патрабаванні, выканання якіх патрабуюць шырокія масы людзей,** і калі яны будуць не задаволеныя, можа адбыцца паўстанне тых мас супраць уладаў. Патрабаванні, што мы выстаўляем, амаль усе такога кшталту...

Але сярод іх ёсць нямала і такіх патрабаванняў, выканання якіх мы патрабуем ад усяго нашага грамадства, і ад асобных яго станаў і асобаў. Для выканання гэтых патрабаванняў, як пераканаўчая моц, застаецца агульная думка нашай грамады (visuomenė) і цвёрдае перакананне ў іх неабходнасці.

Тым часам, мы лічым, што ўсе патрабаванні, што выстаўляюцца, найзручней падзяліць на наступныя пяць раздзелаў: 1) аб падтрыманні нашай мовы; 2) аб адукацыі нашай моладзі; 3) аб народным кіраванні (žmonių valdymas); 4) аб упарадкаванні парафій; 5) аб падтрыманні розных станаў нашага грамадства.

**1. Аб падтрыманні нашай мовы**

а) мы патрабуем дазволу для літоўцаў **друкаваць у Літве літоўскімі літарамі літоўскія кнігі і ўсе іншыя выданні** на тых самых правах, як сёння ў Масковіі друкуюцца расійскія кнігі і газеты. Гэтаксама патрабуем, каб продаж і распаўсюджванне літоўскай літаратуры, выдадзенай тут або дзе-небудзь за мяжой, ажыццяўляўся паводле правоў, нададзеных рускай або іншай чужой мове;

б) мы патрабуем, каб ва ўсіх грамадскіх месцах, напрыклад, на дазволеных уладамі сходах, таварыствах або зборах, чытаннях або дакладах, таксама ў тэатрах або на канцэртах, **літоўскай мове** былі нададзеныя **роўныя правы, як і рускай мове;**

в) ва ўсіх зносінах уладаў з людзьмі літоўскага краю, прыкладам, у валасцях, судах, на чыгунцы, параходах і г. д., галоўнай мовай мусіць быць літоўская; **усе аб'явы, абвесткі,** паведамленні і прамовы **ўладаў да людзей павінны быць па-літоўску;**

г) усе надпісы ў грамадскіх месцах, як шыльды, указанні вуліц і дарог, усякія абвесткі ўладаў пра рынкі, продажы, вышукі, ахову ад заразных хваробаў і г. д. павінны агучвацца і на літоўскай мове;

д) усе кіраўнікі ўрадавых установаў **у Літве павінны валодаць літоўскай мовай;** якія не валодаюць – не павінны займаць пасадаў;

е) мы патрабуем, каб кожны літовец, нават калі валодае чужымі мовамі, ва ўсіх установах Літвы і ў зносінах з рознымі начальнікамі ўжываў толькі літоўскую мову. Каб **усе дамовы, пагадненні, угоды,** што складаюцца паміж людзьмі, таксама **подпісы** на дакументах, выкладзеных па-літоўску, **выконваліся па-літоўску** (гл. "Наша тактыка");

ж) ва ўсіх школах Літвы павінна быць уведзеная літоўская мова, абавязковая для навучання;

з) у літоўскіх касцёлах павінна ўжывацца літоўская мова як асноўная;

і) біскупы і ксяндзы Літвы павінны валодаць літоўскай мовай. Для гэтай мэты павінна быць уведзенае абавязковае навучанне літоўскай мове ў Віленскай і Сейнскай каталіцкіх семінарыях, як тое ёсць у Ковенскай семінарыі.

**2. Аб адукацыі нашай моладзі**

а) ведаючы, што культурны рост кожнай нацыі найболей залежыць ад асветы, якая прадстаўляецца людзям, мы хацелі б у Літве ўвесці такі парадак, пры якім была б забяспечаная ўсеагульная **свабода адукацыі і бясплатнае, прынамсі, пачатковае навучанне для кожнага селяніна.** Цяпер мы маем урадавыя школы, накіраваныя на дэнацыяналізацыю нашай моладзі і яе абдурэнне (apkvailinimas), дзеля палітычных выдумаў улады, застаюцца для нас не толькі бескарыснымі, але найчасцей з'яўляюцца згубнымі для нашага народу (tauta). Да апошніх мусім аднесці **царкоўныя** і іншыя **школы ва ўладзе папоў, у якія літоўцам увогуле не належыць аддаваць дзяцей.** [Паводле цыркуляра Віленскага біскупа ад 15 лютага 1902 года];[6]

б) гарадскія і валасныя **пачатковыя школы,** дзе ўсё па-руску выкладаецца, **таксама літоўскім дзецям не пасуюць,** але паколькі рэзка ў іх не ажыццявіш змен, то раім аддаваць у іх дзяцей, толькі для змяншэння іх уплыву патрабуем:

1) каб перад тым, як ісці ў такія школы, кожнае дзіця ўмела **па-літоўску** чытаць і пісаць;

[6] Выдадзены біскупам Стэфанам Звяровічам 15 лютага 1902 года цыркуляр № 509, якім забараняў каталікам пасылаць дзяцей у царкоўна-прыходскія школы. Сам біскуп пасля гэтага быў на 9 месяцаў выгнаны у Цвер, затым узначаліў Сандамірскую дыяцэзыю.

2) каб у тых школах вера выкладалася **па-літоўску** і паводле **літоўскіх** катэхізмаў, друкаваных **лацінска-літоўскімі** літарамі;

3) каб, аддаючы дзяцей у такія школы, бацькі клапаціліся пра прадухіленне адмоўнага ўплыву на іх дзяцей. Для гэтых мэтаў дзяцей трэба забяспечыць літоўскімі кніжкамі, па якіх яны змогуць ва ўсім разабрацца;

в) патрабуем, каб ва ўсіх **павятовых гарадах** Літвы былі заснаваныя **сярэднія школы** для мужчынаў і дзяўчат (гімназіі). Для ўступлення ў гэтыя школы павінны быць знятыя ўсе цяперашнія абмежавальныя ўмовы, як, напрыклад: адрозненні навучэнцаў паводле веры ці паходжання, высокая плата за навучанне, сведчанні паліцыі пра адданасць уладам, прымусовае размеркаванне навучэнцаў у інтэрнаты ці кватэры, што вылучаюцца для ўтрымання (пражывання), прымусовае нашэнне вопраткі, шытай паводле пэўнай формы, абмежаванне загадзя вызначанай колькасці вакансій і г. д.;

г) увядзенне выкладання веры для літоўцаў-навучэнцаў сярэдніх школ на літоўскай мове;

д) патрабуем, каб кожнаму селяніну было дазволена навучаць дзяцей у хаце без ніякіх перашкодаў або кары, што сёння ўводзяцца ўрадам;

е) **у пачатковых школах дзеці** літоўцаў **павінны навучацца** ўсім прадметам **па-літоўску. Настаўнікі** гэтых школ абавязаны быць **абраныя літоўцамі** і павінны быць **літоўцамі;**

ж) пры кожнай воласці, або гміне (gmina), трэба дазволіць заснаваць літоўскія кнігарні;

з) увесці выкладанне літоўскай мовы ў сярэдніх школах Літвы, а таксама ў семінарыях Вільні і Сейнаў;

і) дазволіць кожнай асобе або таварыству засноўваць розныя школы, у якіх усё па-літоўску будзе выкладацца і якім будуць дадзеныя тыя самыя правы, як і ўрадавым школам таго ж узроўню;

й) **вярнуць Літве Віленскі ўніверсітэт,** у якім сярод іншых кафедраў будзе і кафедра літоўскай мовы, гісторыі і літаратуры.

**3. Аб народным кіраванні**

Трымаючыся падмуркавага прынцыпу, што людзі мусяць самі сабой кіраваць, а не падпарадкоўвацца начальнікам, якіх над імі паставілі чужынцы, мы патрабуем увядзення прынцыпу самакіравання ў найшырэйшым сэнсе, як для асобных гарадоў, вясковых воласцяў (гмін), так і для ўсяго нашага краю.

Згадваючы гэта, патрабуем:

а) каб улады **адмянілі** ўсе **абмежавальныя законы,** уведзеныя для Літвы, якія сёння не дазваляюць літоўцам-каталікам займаць пасады, напрыклад, у адміністрацыі, судах, на чыгунцы і ў іншых урадава-грамадскіх установах.

**Увага:** пасадаў жандармаў, паліцыянтаў і іншых, клопатам якіх з'яўляецца дэнацыяналізацыя і палітычнае абдурэнне, не мусяць літоўцы займаць;

б) каб усе пасады, такія, як старастаў, войтаў, суддзяў, пісараў, настаўнікаў школ, былі выбарныя і займалі іх літоўцы;

в) каб кіраўнікі паветаў не ўмешваліся ў справы воласцяў пры за-

цвярджэнні збору, размеркавання падаткаў і г. д.;

г) каб сяляне былі роўнымі ў правах з усімі дзяржаўнымі саслоўямі і замест цяперашняй воласці была ўведзеная агульнасаслоўная воласць;[7]

д) паколькі агульныя справы нашага краю ўладамі на цяперашні час забяспечваюцца толькі ў паліцэйскім сэнсе, што паказвае дзейнасць нашых генерал-губернатараў, то замест іх у **Літве павінен быць уведзены агульнасаслоўны сойм,** у якім абраныя людзьмі паслы будуць вырашаць наступныя справы нашага краю:

1) забеспячэнне ўсіх эканамічных спраў Літвы;

2) забеспячэнне народнай асветы;

3) забеспячэнне лячэння і гігіенічнага ўтрымання;

4) прызначэнне падаткаў і іх размеркаванне паводле заможнасці;

5) і ўсе справы краю, якія толькі дазволяць абмяркоўваць.

## 4. Аб упарадкаванні парафій

Для таго, каб прызвычаіць людзей саміх сабой кіраваць і каб пазбегнуць у эканамічных справах парафій магчымых нягодаў пры цяперашнім парадку, ЛДП, не ўмешваючыся ў справы веры, лічыць за неабходнае трымацца ў гэтых выпадках такога кірунку:

а) уся парафіяльная маёмасць належыць самім парафіянам, якія абавязаныя абраць для нагляду за ёй касцельныя камітэты або сіндыкаты. Чальцы гэтых камітэтаў даюць справаздачу аб даходах і выдатках парафіяльнаму сходу.

б) усе галоўныя выдаткі, як, напрыклад, пабудова, адбудова ці абнаўленне касцёлаў, могілак, дома настаяцеля, шпіталяў і г. д., камітэты выконваюць паводле рашэння парафіяльнага схода.

в) увесь **прыбытак за касцёльнае абслугоўванне, ахвяраванні і запісы павінны быць уключаныя ў скарб парафіі,** які застаецца пад наглядам камітэта.

г) усе службі касцёла павінны наймацца парафіяльным камітэтам, які выплочвае ім і заробак. Той жа **камітэт выплочвае заробкі і ксяндзам.**

## 5. Аб падтрыманні розных саслоўяў

а) памятаючы, што інтарэсы розных станаў не толькі не супадаюць, але найчасцей адны адным супярэчаць, мы не займаемся асаблівай падтрымкай спраў якога-небудзь стану, але будзем намагацца забяспечыць агульныя інтарэсы ўсіх, то бок нацыянальна-палітычныя патрабаванні. Аднак, бачачы пакутнае і гаротнае жыццё прыгнечаных пластоў нашага грамадства, ці то паводле становішча, ці паводле бядоты, або неадукаванасці, найперш будзем клапаціцца пра паляпшэнне іх стану, бо без такога паляпшэння наўрад ці варта ад іх патрабаваць разумення і палітычна-нацыянальных інтарэсаў. Таму сярод іншых турботаў ЛДП на першае месца ставіць забеспячэнне, паляпшэнне стану працаўнікоў гарадоў і вёсак, малазямельных і беззямельных сялянаў, вяскоўцаў, дробных рамеснікаў і прамыслоўцаў. Усведамленне гэтымі

[7] Верагодна, размова ідзе пра неабходнасць стварэння агульнасаслоўных прадстаўнічых органаў.

саслоўямі партыйнай мэты ёсць наймацнейшым апірышчам для ажыццяўлення яе задум.

б) гаворачы аб стане гарадскіх і вясковых працоўных, ЛДП лічыць патрэбным пашыраць у іх асяродку саслоўна-палітычную свядомасць, пакідаючы ім волю ствараць арганізацыі, якія ім для гэтай мэты пададуцца неабходнымі. Саслоўнымі інтарэсамі працоўных сёння рупіцца Літоўская сацыял-дэмакратычная партыя і шырэйшы пералік іх патрабаванняў ужо выкананы гэтай партыяй. Мы згодныя з ёй па ўсіх пытаннях нацыянальнага руху працоўных Літвы.

в) Што да падтрымкі сялянаў, мы ставім наступныя патрабаванні:

1) адмена палажэнняў, што абмяжоўваюць сялян або іншых прадстаўнікоў нашага грамадства пры закупцы зямлі, лясоў і г. д.;

2) скасаванне падаткаў на выкуп зямлі;

3) скасаванне розных натуральных абавязкаў, якія сяляне сёння выконваюць, як, напрыклад: рамонт дарог, выкананне павіннасцяў, утрыманне мясцовай паліцыі;

4) ураўнанне правоў сялянаў з усімі іншымі станамі;

5) спрашчэнне **падзелу сялянаў на хутары;**

6) **вяртанне канфіскаваных** падчас апошняга паўстання **маёнткаў і лясоў** нашчадкам былых уладальнікаў, а калі іх няма – раздаць беззямельным працоўным Літвы;

7) **перадача зямлі, якая ў Літве належыць уладам, ва ўладанне беззямельным працоўным;**

8) забарона засноўваць у Літве калоніі старавераў, былых маскоўскіх жаўнераў, што сёння ўладамі ладзіцца;

9) увядзенне ільготнага крэдыту на куплю зямлі, яе паляпшэнне, набыццё насення і г. д.;

10) увядзенне пры воласцях дарадцаў-аграномаў, якія навучаць людзей лепш апрацоўваць зямлю;

11) заснаванне ў кожным павеце школ земляробства, садаводства, пчалярства;

12) дазвол сялянам засноўваць таварыствы, сіндыкаты, аб’яднанні і г. д.;

г) што да падтрымкі рамеснікаў, прамыслоўцаў, купцоў, то лічым за неабходнае клапаціцца пра іх умацаванне і абарону ад дэнацыяналізацыі. Іх мноства сёння ў гарадах. Паколькі хочам, каб нашыя гарады былі літоўскія, мусім ахоўваць пераехаўшых літоўцаў ад страты нацыянальнай адметнасці, а тых, што ўжо дэнацыяналізаваліся, – старацца абудзіць да патрабаванняў нашай нацыі;

д) **абаронай інтарэсаў шляхетных памешчыкаў і ксяндзоў** як наймацнейшых пластоў нашага грамадства **мы не займаемся,** але патрабуем, каб пэўныя прадстаўнікі гэтых станаў, што страцілі нацыянальнасць у ходзе гісторыі, вярнуліся да сваёй забытай нацыі і прынялі літоўскую за хатнюю мову. Абодва гэтыя саслоўі мусяць клапаціцца пра дабрабыт нашага народа, бо іх узрасціў крывавы пот нашых людзей. Таму ад гэтых станаў можна патрабаваць выкананне пэўных абавязкаў перад нашымі людзьмі.

### III. Наша тактыка

Мэта нашай тактыкі – выпрацаваць і арганізаваць разумную палітычную партыю, якая з цягам часу зможа ажыццявіць нашыя

патрабаванні, працуючы пэўным чынам па ўсёй Літве. Такое ажыццяўленне некаторых з нашых патрабаванняў магчымае толькі праз увасабленне нашых памкненняў, падкрэсленых у першай частцы дадзенага праекта праграмы. Не сумняемся, што, наогул, нашае грамадства яшчэ не даспела да ўспрымання будучай аўтаномнай і незалежнай ад іншых дзяржаў Літвы, аднак гэтыя мэты лічым за неабходнае падкрэсліць для ўразумення больш шляхетнымі пластамі нашага грамадства, якія, у адпаведнасці з далейшымі патрабаваннямі, лепей разбяруцца ў сённяшніх нацыянальна-палітычных патрабаваннях розных станаў. На гэты час не вядзецца гаворка аб дасканалым вытлумачэнні асноў той будучай Літвы і парадку, які мы ў ёй сёння хочам увесці. Рабіць мы гэта можам толькі з дапамогай мары, для якой не абавязкова павінна быць месца ў праграме; большую ўвагу будзем старацца звяртаць на тое, што сёння ёсць, і як непажаданыя з'явы сучаснасці на працягу далейшага жыцця выкараніць. Нам падаецца, для гэтых мэтаў цалкам дастаткова звычайных апірышчаў, а аздобу для іх і афармленне падкажа кожнаму фантазія. Так, гаворачы пра нашыя мэты, мы нічога не гаворым пра скасаванне сённяшняга войска, пра тое, якім чынам будзе рабіцца размеркаванне ў будучай Літве маёмасці, якім чынам будзем клапаціцца пра асвету людзей, пра іх лячэнне, пра іх штодзённую працу і г. д. Не сумняемся, што ўсе гэтыя пытанні прадстаўнікі асобных саслоўяў паводле іх цяперашняга становішча павінны будуць па-свойму вырашыць, самастойна (atskyriai) даць аздобы той будучай Літве, хаця ўсе саслоўі згодныя, што цяперашні стан жахлівы і патрабуе змен. Такім чынам, усе гэтыя саслоўі мы аб'ядноўваем не паводле таго, чаго кожнае з іх патрабуе ў выніку, але паводле таго, што сёння **аднолькава ўсім шкодзіць,** роўна ўсіх трымае пад прыгнётам. Тая прыгнятальная цяжкасць – гэта і ёсць **палітычнае ярмо Масковіі,** па якім далейшае квітненне нацыі немагчымае. Праўда, не ўсе саслоўі аднолькава тое ярмо адчуваюць: гэта залежыць як ад іх сучаснага становішча, так і ад ступені іх асветы. Шляхта і проста заможныя людзі не адчуваюць часам тое ярмо, бо і пад ім нядрэнна жывецца, а матэрыяльна прыдушаныя пласты, як, напрыклад, працоўныя, сяляне, дробныя гандляры і рамеснікі, не ўсведамляюць цяжкасць таго ярма праз недахоп асветы. Паколькі забеспячэнне патрэбаў прыгнечаных магчымае толькі пасля ўвядзення ў Літве новага парадку (tvarka), то яны для адстойвання сваіх інтарэсаў зацікаўлены ў зменах і ўвядзенні новага парадку. Таму толькі на гэтыя саслоўі мы можам цвёрда разлічваць, у той жа час памешчыкі, святарства і ўвогуле багацеі, паколькі яны ў стане і цяпер свае інтарэсы абараніць, могуць зусім не хацець пераменаў. Праўда, сёння і гэтыя саслоўі пакутуюць ад уціску, які не дазваляе расквітнець іх задумам цалкам. Напрыклад, ім забаронена займаць пасады ў адміністрацыі, вольна ствараць таварыствы, купляць зямлю, таксама ўведзеныя адмысловыя тарыфы на іх заробкі адносна іншых і г. д. Але, калі адкінуць гэты ўціск, у іх думках застанецца мала патрабаванняў,

якія не адпавядалі б мэтам уладаў. Памятаючы пра гэта, мы найбольш павінны клапаціцца пра паляпшэнне становішча прыгнечаных пластоў нашага грамадства, бо прагнае жаданне яго паляпшэння супадае з прагай усталяваць новы парадак і палітычны уклад Літвы. Хаця мы не разгледзелі і не выклалі сённяшніх патрабаванняў саслоўя працоўных, але іх кірунак зразумелы ўжо праз спасылку на прэтэнзіі Сацыял-дэмакратычнай партыі, што дзейнічае ў Літве. Адрозненне тых патрабаванняў толькі ў тым, што мы патрабуем падтрымкі гэтага саслоўя, у той час сацыялістычныя партыі патрабуюць змен у жыцці працоўных, як і ўсяго грамадства, якое сёння грунтуецца на прыватнай уласнасці. Паляпшэнне ўмоў працы, змяншэнне працоўнага дня, павелічэнне заробку і клопат пра як мага шырэйшую асвету для іх застаюцца і ў нашай праграме.

Шырэй мы выклалі патрабаванні нашых сялянаў, бо сярод іх, як найбольш шматлікага пласта грамадства, што застаўся літоўскім, лічым найбольш патрэбным працаваць. Палітычная самасвядомасць гэтага саслоўя насамрэч пакажа свядомасць усяе нацыі і будзе наймацнейшым апірышчам для вызначэння будучай аўтаноміі Літвы ў этнаграфічных межах.

Для палітычнага ўсведамлення як гэтага, так і іншых саслоўяў, мы раім ствараць па ўсёй Літве асобныя суполкі, якія ўсведамляюць нацыянальна-палітычныя і матэрыяльныя патрабаванні. Гэтыя суполкі павінны стацца ў Літве тымі агеньчыкамі, пра з'яўленні якіх мы ўжо раней вялі размову.

Для пашырэння палітычнага самаўсведамлення раім карыстацца палітычна-нацыянальнай літаратурай, ладзіць грамадскія абмеркаванні, чытанні, далей тэатры, гулянні, народныя святы, наведванні галоўных нашых гістарычных пісьменнікаў і дзеячаў. Замест простага распаўсюджвання кніжак ці адозваў сярод людзей, якія да чытання не маюць звычаю, раім, у першую чаргу, карыстацца жывым словам, таму будзем старацца ўтрымліваць пэўных агітатараў, якія будуць наведваць і трымаць слова ў розных кутках Літвы. Распаўсюд адозваў ці розных пракламацый не выключаем, бо яны часта разварушваюць вакольныя думкі і прызвычайваюць нашае грамадства гаварыць пра важныя для яго справы, але замест іх вышэй ставім арганізацыю хаця б маленькага атрада свядомых людзей, якія ўжо надалей будуць клапаціцца пра падтрымку літоўшчыны ў сваіх ваколіцах.

Паколькі нашыя патрабаванні датычаць не толькі ўладаў, але і грамадства і яго канкрэтных асобаў, то мясцовым суполкам трэба будзе старана дбаць пра выкананне гэтых патрабаванняў. Да апошніх можна аднесці трыманне літоўскай мовы як у грамадскім жыцці, так і ў нашых касцёлах, дзе часта мове польскай нададзенае прывілеяванае месца. Трымання і павагі да гэтай мовы трэба патрабаваць ад кожнага ва ўсіх выпадках. Як гэта падрабязней пазначана ў нашай праграме.

Далей галоўнай справай гэтых суполак застаецца праца па навучанню нашай моладзі. Памятаючы, што ў гэтай моладзі ўся надзея на-

цыі, мы абавязаныя бараніць яе ад дэнацыяналізацыі і так выхоўваць, каб менавіта з яе літоўскаму народу была б найбольшая карысць. Для гэтае мэты навучэнцы кожнай установы павінны забяспечвацца літоўскай літаратурай, а таксама жыць усімі клопатамі ці задумамі, што паўстаюць у народзе. Асабліва неабходна з маленства прызвычайваць людзей да ідэі, што літоўцы, скончыўшы навучанне, павінны застацца на радзіме і працаваць на яе карысць. Тыя, якія з нейкіх прычын парушылі гэты абавязак, мусяць старацца вярнуцца, не зважаючы на матэрыяльны няўклад (nepasivedimas), а калі ўжо засталіся за мяжой, то сваёй маёмасцю павінны дапамагаць тым, хто застаецца ў сваім краі. Маладым людзям, якія ідуць у навуку і ўжо схіліліся да ахвяравання сваіх сіл на карысць радзімы, павінна аказвацца абавязковая дапамога. Для гэтай мэты паўсюдна ў Літве павінны стварацца суполкі для збору грошай на падтрымку вучнёўскай моладзі, і кожная сям'я мусіць згадзіцца на выплату прызначанага для гэтай мэты падатку.

Таксама абавязкам гэтых суполак будзе падтрымка ўсіх пацярпелых праз сваю нацыянальна-палітычную працу, а яшчэ падтрымка партыйнай канцылярыі (і пісараў). Павінен ладзіцца як мага шырэй збор грошай на выпуск кніг і адозваў, а таксама для палітычных вязняў і пакутнікаў.

Каб прызвычаіць сялянаў, а таксама іншыя станы, да прынцыпу, што яны павінны ўсюды самі сабой кіраваць, раім ствараць для абароны саслоўных інтарэсаў розныя таварыствы, грамадствы і г. д. Што да сялянскага кіравання, то раім пераконваць і праводзіць агітацыю, накіраваную на тое, каб сяляне самі карысталіся дазволенымі правамі на самакіраванне ў воласці (гміне). Вядома, выступленні сялянаў супраць уладаў, як, прыкладам, адмова ад выплаты якога-небудзь падатку, ад збораў на якія-небудзь абразы, ад выплаты заробку пісарам ці настаўнікам праз іх несумленнасць, не абыдуцца без ахвяр, але гэта ўсё не пройдзе дарма. Улада, адчуўшы перакананасць людзей і іх помсту, будзе вымушана тое-сёе даць. Гэтыя помсты і замахі, ці то ў воласці, ці то ў парафіяльных справах, прывядуць да большага адзінства сярод людзей, якія лепш пазнаёмяцца з заганамі ворага. Заахвочваем таксама збор подпісаў сярод людзей, ці за дазвол друку для літоўцаў, ці за іншыя справы. Неістотна, што гэтыя просьбы не дасягаюць сваёй мэты, але яны прызвычайваюць людзей да агульнага дзеяння.

Напрыканцы гэтых некалькіх словаў пра тактыку, хочам сказаць пра прынцыпы нашага стаўлення да чужынцаў. Памятаючы пра сваё асноўнае апірышча – "Літва – для літоўцаў" – мы будзем старацца ўтрымаць цяперашнія этнаграфічныя межы Літвы, каб хваля дэнацыяналізацыі далей Літву не залівала. Тыя ж, хто сёння жыве на літоўскай тэрыторыі, ці яны будуць чужынцы, ці дэнацыяналізаванымі літоўцамі, абавязаныя цалкам паважаць нашыя нацыянальныя патрабаванні і ім не супраціўляцца. Ніякай нянавісці супраць чужынцаў мы не ўздымаем, але дома, баронячыся ад чужынцаў, мы ўсюды і заўсёды будзем намагацца дапамагчы і падтрымаць сваіх, і ў выпадку зло-

сных нападаў з боку чужынцаў, будзем бараніцца і змагацца супраць іх. Асаблівай увагі патрабуюць адносіны з палякамі, якія не перастаюць там-сям распаўсюджваць свае ідэалы ў Літве, далучаючы яе да Польшчы. Супраць гэтага мы пярэчым і адкідаем якое-небудзь іх кіраванне нашымі справамі, хоць не выключаем салідарнага дзеяння, роўна як і з іншымі чужынцамі, як латышы, фіны, маларосы (mažrusiai) або беларусы (baltgudžiai), якія гатовыя змагацца з уладамі за лепшую будучыню.

15.XI.1902.

## Да нашай праграмы

Не заглыбляючыся ў мэты і патрабаванні, мы ласкава просім гэтым разам звярнуць увагу чытача на адну буйную загану праграмы – недахоп навуковага абгрунтавання.

Мэты і патрабаванні праграмы павінны быць абгрунтаваныя не толькі маральнымі прынцыпамі, але і прынцыпам навуковым, паводле якога жыццё грамадства не паддаецца штурханню ў якую-небудзь каляіну, уліццю ў якіясьці формы (kvarma), але ідзе сваім асаблівым шляхам, мае свае правы, сваю тэндэнцыю, сваю эвалюцыю.

Філасофія гісторыі прасачыла гэты шлях, прасачыла пэўны закон жыцця грамадства і назвала яго **законам арганічнай эвалюцыі,** то бок арганічнага росту, пастаяннага відавочнага паступовага культурнага развіцця.

Гегель пазначыў гэты закон у сферы ідэй, а Карл Маркс звязаў ідэі з матэрыяльнымі патрэбамі людзей і акрэсліў гэты закон наступнымі словамі: "Das industriell entwickeltere Land zeigt dem minder entwickelten nur das Bild der eigenen Zukunft"[8] ("Краіна, якая мае вышэйшую прамысловасць, паказвае шлях краіне, што мае ніжэйшую прамысловасць"). Мы ж, каб прыстасаваць гэты закон да ўласнага жыцця, маглі б сказаць так: "Кожны культурны **ўздым маладой нацыі** – гэта, увогуле кажучы, не што іншае, як **патрапленне ў каляіну нацый, што ўзняліся вышэй".**

Таму, каб навукова абгрунтаваць сваю праграму, мы павінны найперш вывучыць гісторыю ўздыму тых нацый, якія стаяць за нас вышэй, а потым зразумець культурны стан сваёй нацыі. Гэта неабходна, каб убачыць ужо выкананую культурную працу, культурную прыступку, на якой наша нацыя стаіць і якім шляхам нам *найперш* выпадае крочыць далей.

Увогуле, наша праграма будзе ні чым іншым, як зборам высокіх ідэй, пачэсных памкненняў і летуценняў, але не практычных патрабаванняў, што адпавядаюць духу часу.

Акрамя таго, прынцыпы нашай партыі павінны быць так сфармаваныя, каб было добра відаць, у чым мы звязаныя з сацыял-дэмакратамі і клерыкаламі і ў чым ад іх адрозніваемся.

Урэшце, мы мусім звярнуць увагу, што ў раздзеле "нашыя патрабаванні" быў прапушчаны вельмі важны культурны фактар – вера, і гэты прабел тым болей незразумелы, калі прыгадаем, што "нашыя патрабаванні" хочуць набыць сімпатыі "шырокіх мас людзей".

Рэд.[акцыя]

8 *"Das Kapital".* Vorwort zur I. Auflage. – *Заўвага ў арыгінале.*

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 20, 2013

# Праграма Дэмакратычнай партыі Літвы[1]

## А. Уступ

У апошнія стагоддзі мы бачым цэлы шэраг нацый (tautos), якія дбаюць пра тое, каб падняць сваю мову, сваю культуру і па-свойму жыць. Ад іншых народаў не хочуць адстаць і літоўцы.

З 1883 года, калі з'явілася першая нацыянальная (tautiška) літоўская газета "Aušra",[2] пачаўся новы літоўскі рух.

За аснову літоўскага адраджэння ўзятая літоўская мова.

Паколькі па-літоўску размаўлялі амаль толькі адны працаўнікі літоўскіх вёсак, то літоўскім патрыётам давялося з самага пачатку звяртацца са сваімі ідэямі да шырокіх мас працоўных, менавіта таму літоўскі рух быў **дэмакратычны.**

З цягам часу абаронцы літоўцаў пачалі падзяляцца на некалькі партый.

Зараз маем чатыры выразныя літоўскія партыі:

1. Дэмакратычная партыя Літвы;[3]
2. Сацыял-дэмакратычная партыя Літвы;[4]
3. Хрысціянска-дэмакратычная партыя Літвы;[5]
4. Літоўская нацыянальна-дэмакратычная партыя (яшчэ не да канца ўтвораная).

Пачаткам дзейнасці Літоўскай дэмакратычнай партыі можна лічыць 1894 год, калі адбыўся адыход прыхільнікаў клерыкальнага кірунку ад "Varpas"[6] і "Ūkininkas",[7] але тады людзі, што належалі да арганізацыі гэтых дзвюх газет, не насілі імя Літоўскай дэмакратычнай партыі. Толькі ў 1902 годзе, падчас усеагульнага сходу ў Дабікіне,[8] было выра-

1 *Lietuvos demokratų partijos programa* (1906). Tilžė. Перакладзена паводле: Miknys, R. (1995). *Lietuvos demokratų partija 1902-1915 m.,* Vilnius: 197-205. Усе вылучэнні ў тэксце падаюцца ў адпаведнасці з арыгіналам. Каментары да тэксту – Томаша Блашчака.

2 Гл. спасылку 4 Маніфеста Нацыянальнай партыі літоўскіх дэмакратаў.

3 Гл. спасылку 3 Праграмы Літоўскай дэмакратычнай партыі.

4 Сацыял-дэмакратычная партыя Літвы (літ. Lietuvos socialdemokratų partija) – першая літоўская палітычная партыя, заснаваная 1 траўня 1896 года ў Вільні. Адна з найбуйнейшых партый літоўскага адраджэння і незалежнай Літвы міжваеннага перыяду (1918-1940). Афіцыйна дзейнічала да 1936 года, пакуль аўтарытарны рэжым Сметоны не забараніў дзейнасць усіх палітычных партый.

5 Гл. спасылку 2 Праекта праграмы Літоўскага аб'яднання хрысціянскіх дэмакратаў.

6 Гл. спасылку 4 Праграмы Літоўскай дэмакратычнай партыі.

7 Гл. спасылку 5 Праграмы Літоўскай дэмакратычнай партыі.

шана назваць арганізацыю “Varpas” і “Ūkininkas” **Літоўскай дэмакратычнай партыяй.** У 15 дзень лістапада месяца таго самага года быў складзены праект партыйнай праграмы, выдадзены ў “Varpas” №12 ад 1902 г.[9] і адтуль адбіты асобна.

Сціслa гаворачы, у тым **праекце праграмы** ад 1902 года былі выкладзеныя такія патрабаванні:

I. **Далёкая мэта партыі:**

1. Вольная і не прыналежная да іншых народаў і дзяржаў Літва.

2. **Старшынства (кіраванне)** жыхароў ўсімі справамі Літвы.

II. **Бліжэйшыя патрабаванні такія:**

1. **Самакіраванне** або аўтаномія Літвы з усесаслоўным соймам, які будзе вырашаць эканамічныя справы краіны, пытанні асветы, здароўя, падаткаў, а таксама іншыя, што будуць у паўнамоцтвах сойма.

2. **Мясцовае самакіраванне** – валасцяў, акруг, абласцей, – чыноўнікі Літвы выбіраюцца самімі жыхарамі, валодаюць літоўскай мовай.

3. Скасаванне ўсялякіх абмежаванняў правоў насельніцтва; ураўнанне жыхароў у правах з выхадцамі з Расіі.

4. У **школах:** пачатковае навучанне для ўсіх бясплатна, для літоўцаў па-літоўску; настаўнікі – выбарныя; у павятовых гарадах – сярэднія школы; універсітэт – у Вільні; прыватныя школы і хатняе навучанне – без умяшання ўладаў; паступленне ва ўсе школы вольнае, без абмежаванняў; у сярэдніх школах Літвы – выкладанне для літоўцаў літоўскай мовы і веры па-літоўску.

5. Правы літоўскай мовы павінны быць ураўняныя з правамі рускай мовы; свабода літоўскага друку (тады быў забаронены літоўскі друк у расійскай дзяржаве), біскупы і ксяндзы Літвы павінны валодаць літоўскай мовай; у Віленскай і Сейнскай каталіцкіх семінарыях павінна выкладацца літоўская мова; у літоўскіх касцёлах неабходна ўвесці малітвы па-літоўску.

6. **Парафіяльныя пытанні.** ЛДП ў справы веры не ўмешваецца, патрабуе толькі абрання камітэтаў для нагляду за маёмасцю парафій і наймання ксяндзоў ды іншых службоўцаў пры касцёле.

7. **Вясковыя справы.** Скасаванне ўсялякіх абмежаванняў для набыцця зямлі, скасаванне выкупных падаткаў, ураўнанне сялянаў у правах з іншымі саслоўямі, спрашчэнне падзелу вёсак на хутары; забеспячэнне зямлёй беззямельных і малазямельных вяскоўцаў; ільготныя крэдыты для куплі зямлі ці ўдасканалення гаспадаркі; утварэнне гаспадарчых школ, [увядзенне пасад] аграномаў-дарадцаў і г. д.

8. **Справы працоўных.** Асвета, свабода таварystваў, ахова ад дэнацыяналізацыі.

9. **Дробным рамеснікам, прамыслоўцам, гандлярам:** узмацненне і ахова ад дэнацыяналізацыі.

10. Абаронай правоў **памешчыкаў і ксяндзоў** ЛДП не займаецца,

---

8 Дабікіне (літ. Dabikinė) – вёска ў Шавельскім павеце, непадалёку ад Акмян (у паўночнай Жамойці).

9 “Programas Lietuvių demokratų partijos” (1902), *Varpas*, 1902, № 12.Гл. пераклад на беларускую мову ў гэтым нумары часопіса.

але патрабуе ад іх унёску ў нацыянальную працу літоўцаў.

Такія вось у той час былі патрабаванні Літоўскай дэмакратычнай партыі. Прайшло тры з невялікім гады. Частка гэтых патрабаванняў выканана: у пачатковых школах уводзіцца літоўская мова і выкладанне; у сярэдніх школах, у тым ліку і ў семінарыях, таксама ўводзіцца літоўская мова; прыватныя школы крыху вызваліліся ад умяшання ўлады; літоўскі друк вернуты; абмежаванні для літоўцаў пры куплі зямлі скасаваныя; большасць выкупных (išperkamieji) падаткаў скасаваныя; таварыствы засноўваць стала прасцей. Усяго гэтага ўдалося дамагчыся ад расійскіх уладаў. Другая частка патрабаванняў з таго праекта праграмы ўсё болей прыспявае і можа ў недалёкай будучыні ўвасобіцца ў жыццё; трэцяя ж частка тых патрабаванняў усё яшчэ з'яўляецца аддаленым ідэалам.

Наша партыя застанецца і далей чыста дэмакратычнай; будуць для яе важныя справы ўсёй этнаграфічнай Літвы; будзе яна далей грунтавацца на шырокіх працоўных масах; будзе намагацца дасягнуць такога ўпарадкавання Літвы, каб быў урад шырокіх мас, роўнасць і вольнасць са справядлівым падзелам маёмасці.

Ні сваіх бліжэйшых, ні далейшых мэтаў мы не думаем дамагчыся нейкім іншым чынам як, як праз доўгую барацьбу. Мы ведаем, што свабода не даецца проста так, яе трэба здабыць у барацьбе. Таму наш шлях – шлях барацьбы.

Паколькі нам даводзіцца клапаціцца не толькі пра справы некаторых жыхароў Літвы, але і справы ўсёй Літвы, мы лічым неабходным памяняць імя партыі.

Цяпер называцца будзем не **Літоўскай дэмакратычнай партыяй,** а **Дэмакратычнай партыяй Літвы.**[10]

Як ужо сказана, значная частка праграмы 1902 года ўжо выкананая. Жыццё, тым часам, вылучае новыя пытанні, таму надышла пара Дэмакратычнай партыі Літвы паправіць і дапоўніць сваю праграму.

## B. Праграма Дэмакратычнай партыі Літвы

**I. Ідэал партыі**

**Ідэал партыі** – вольная, ні да каго не прыналежная дэмакратычная Літоўская рэспубліка са справядлівым размеркаваннем маёмасці, аб'яднаная з суседнімі дэмакратычнымі дзяржавамі федэратыўнымі сувязямі.

**II. Аўтаномія Літвы**

Бліжэйшая ж мэта партыі – шырокая дэмакратычная **аўтаномія Літвы** з Соймам у Вільні, абраным усеагульным, таемным, прамым і роўным галасаваннем незалежна ад нацыі, веры і полу.

* * *

[10] Такім чынам, назва "Lietuvių demokratų partija" была замененая на "Lietuvos demokratų partija". "Lietuvos", у адрозненні ад "lietuvių", адсылае да Літвы як геаграфічнага і палітычнага панятку, а не да этнічных літоўцаў.

**Заўвага.** Да этнаграфічнай Літвы мы адносім: усю Ковенскую губерню; усю Віленскую губерню, акрамя Вілейскага павета і часткі Лідскага, Дзісенскага і Ашмянскага паветаў; усю Сувальскую губерню, акрамя частак Сувальскага павета і акрамя Аўгустаўскага павета; часцінкі Куршскай і Гарадзенскай губерні.[11]

1. Межы аўтаномнай Літвы будуць праведзеныя паводле нацыянальнага складу насельніцтва і яго жадання.

2. Правы іншародцаў (kitataučiai) у аўтаномнай Літве будуць захаваныя асноўнымі дзяржаўнымі законамі.

3. Літва можа набыць аўтаномію праз сойм усіх заснавальнікаў Расійскай дзяржавы.

4. Цэнтральным уладам усёй дзяржавы могуць належаць наступныя пытанні:

1) Замежныя справы: замежнае прадстаўніцтва, кантракты, канвенцыі, памежныя падаткі.

2) Чаканка грошай.

3) Агульнадзяржаўныя падаткі.

4) Абарона дзяржавы: пастаяннае войска, ваенны флот, фартэцыі, стратэгічныя дарогі.

**Заўвага.** Мясцовая літоўская народная міліцыя падпарадкоўваецца аўтаномным уладам Літвы.

5) Пошты і тэлеграфы.

6) Нагляд за асноўнымі дзяржаўнымі законамі, прынятымі Устаноўчым Соймам.

7) Заканадаўства для ўсёй дзяржавы.

5. Усе іншыя пытанні, не ўключаныя ў кампетэнцыю цэнтральнай дзяржаўнай улады, адносяцца да ведама Сойма Літвы і літоўскіх аўтаномных уладаў. У гэтых справах ніводнае пытанне не можа прайсці без рашэння Сойма Літвы. Такім чынам, Сойму Літвы застанецца вырашаць наступныя пытанні:

1) Упарадкаванне мясцовага самакіравання (воласці, акругі, паліцыя, адміністрацыя).

2) Мясцовыя падаткі.

3) Упарадкаванне землеўладання і лясоў (забеспячэнне малазямельных і беззямельных зямлёй).

4) Утварэнне цывільнага і крымінальнага Кодэкса Літвы.

5) Пытанні народнай асветы (школы, кнігарні, музеі і г. д.).

6) Дарогі, тракты, шашы, чыгунка, водныя шляхі.

7) Літоўская народная міліцыя.

8) Іншыя пытанні, не належныя да ведама цэнтральных уладаў.

6. Вярхоўная дзяржаўная ўлада мае намесніка ў Літве, праз якога падтрымлівае зносіны з Літоўскім Соймам. Намеснік прызначаецца вярхоўнай уладай з кандыдытаў, абраных Літоўскім Соймам.

7. Цэнтральная дзяржаўная ўлада складаецца: 1) з вярхоўнай улады; 2) з дзяржаўнага Сойм, абранага поўным[12] усеагульным галасаваннем усіх жыхароў дзяржавы; 3) з прадстаўніцтва асобных аўтаномных частак дзяржавы; 4) з Вярхоўнага дзяржаўнага суда.

8. Паўнамоцтвы і межы [кампетэнцыі] кожнай установы вызначае агульнадзяржаўны Устаноўчы Сойм.

[11] Да гэтых абшараў належыць і Пруская Літва, але сюды, да аўтаномнай Літвы, яе не дадаём. – *Заўвага ў арыгінале.*

[12] То бок роўным, таемным і прамым. – *Заўвага ў арыгінале.*

9. Усё аўтаномнае кіраванне ў Літве – дэмакратычнае: валасці, гарады, вобласці, акругі павінны аўтаномна кіравацца народнымі сходамі і народнымі прадстаўнікамі, абранымі ўсімі жыхарамі вольным і ўсеагульным галасаваннем. Літоўскія службоўцы **мясцовых аўтаномных адзінак** павінны быць абраныя самімі жыхарамі.

**III. Правы насельніцтва Літвы і ўсёй дзяржавы**

1. Усе жыхары Літвы і ўсяе дзяржавы роўныя перад законамі.

Усялякія няроўнасці жыхароў паводле нацыянальнасці, веры, паходжання скасоўваюцца.

2. Ніхто не можа быць абвінавачаны і пакараны інакш, як пэўным судом і паводле звычайных крымінальных законаў.

3. Ніхто не можа быць арыштаваны і абшуканы, інакш як праз загад суда. Нічыё жыллё не можа быць абшуканае або рэчы забраныя, інакш як праз загад суда.

Нічые лісты і пасылкі не могуць быць адкрытыя або забраныя, інакш як праз загад суда.

Кожны арыштаваны чалавек павінен быць вызвалены або прыведзены ў суд не пазней як праз суткі ў мясцінах, дзе суд ёсць, або ў іншых мясцінах – праз трое сутак з моманту затрымання.

За кожны беспадстаўны арышт, вобшук чалавека, жылля, або якіх-небудзь рэчаў, за ўскрыццё або затрымку лістоў і пасылак адказваюць тыя, хто якім-небудзь чынам да гэтага спрычыніўся.

4. Усе жыхары маюць права належаць або не належаць да якой-небудзь веры. Усе веравызнанні перад законамі роўныя. Праваслаўная вера не мае якіх-небудзь асаблівых правоў перад іншымі веравызнаннямі.

5. Усе маюць права гаварыць, пісаць, друкаваць і якім-небудзь іншым чынам распаўсюджваць свае думкі. Усялякая цэнзура скасоўваецца. За слоўныя злачынствы,[13] як і за іншыя злачынствы, усе адказваюць толькі перад судом у законным парадку.

6. Усе маюць права рабіць сходы ці на адкрытым паветры, ці ў памяшканні.

7. Усе маюць права вольна засноўваць таварыствы, суполкі, звязы, ладзіць палітычныя партыі, не пытаючыся дазволу ўладаў.

8. Усе маюць права накіроўваць петыцыі ў любыя ўрадавыя месцы, як кожны жыхар паасобку, так і дамовіўшыся з іншымі.

9. Усе маюць права вольна, без пашпартоў перасяляцца з месца на месца і жыць па ўсёй дзяржаве; застаюцца толькі замежныя пашпарты, якія даюцца ўсім і без перашкоды.

Усе маюць свабоду без перашкодаў стаць грамадзянамі іншай дзяржавы.

10. Усе паўнагадовыя і паўнапраўныя жыхары, мужчыны і жанчыны, маюць роўныя выбарчыя правы, могуць выбіраць іншых, могуць самі быць абраныя на любыя выбарныя пасады ў грамадстве.

**IV. Землеўладанне і сялянскія пытанні**

1. Усе зямельныя абшары Літвы належыць да аўтаномнай Літвы. Цэн-

[13] Злачынствы, звязаныя са свабодай слова.

тральная дзяржаўная ўлада можа выкупіць частку той зямлі толькі для дзяржаўных патрэб пасля ўхвалення Літоўскага Сойма.

2. Літоўскі Сойм вызначае найвялікшы памер зямлі, што можа належаць аднаму жыхару.

3. Для забеспячэння зямлёй беззямельных і малазямельных жыхароў Літоўскі Сойм засноўвае зямельны фонд, які складаецца з: 1) земляў і лясоў дзяржавы ды кіроўнай дынастыі; 2) прыватных земляў, якія пераходзяць у рукі далёкіх родзічаў; 3) абшараў, якія перавышаюць дазволены рашэннем Сойма памер валодання для аднаго жыхара; 4) адмыслова для гэтага выкупленых земляў за сродкі краіны ў асобных уладальнікаў; 5) усіх лясоў краіны. Літоўскі Сойм прымае рашэнне аб справядлівым узнагароджанні за землі, узятыя ў фонд у прыватных асобаў.

4. Літоўскі Сойм павінен займацца паляпшэннем урадлівасці зямлі. Штогод частка грошай краіны мусіць выдаткоўвацца на: гаспадарчыя школы, узоравыя гаспадаркі, паляпшэнне насення жыта, паляпшэнне пароды жывёлы, правядзенне каналаў, дарог і іншых гаспадарчых удасканаленняў. Справа Літоўскага Сойма – упарадкаваць сервітуты, палегчыць падзел вёсак на хутары, абараніць сялянаў ад капіталістычнай эксплуатацыі ў гандлі збожжам і земляробчымі прадуктамі.

5. Спекуляваць (праварочваць) зямлёй або лесам павінна быць забаронена, або, прынамсі, абмежавана законам.

Лясны матэрыял павінен быць лёгкадасягальны для забеспячэння патрэбаў мясцовых жыхароў.

6. Найбліжэйшы нагляд і ўпарадкаванне землеўладання і лесаўладання павінен належаць аўтаномным суполкам, воласцям, акругам.

**V. Падаткі**

1. Павінны быць скасаваныя любыя накладныя падаткі (бандэролі, акцызы, штэмпелі і інш.) на рэчы, неабходныя для ўсіх: цукар, газа, запалкі, піва, дрожджы, соль, жалеза, папера, гарэлка і інш.

2. Вымярэнне падаткаў ад прыбытку і ад маёмасці павінна быць прагрэсіўнае.

Вызначаная невялікая частка прыбытку і маёмасці павінна быць увогуле ад падаткаў вольная.

3. Ніхто з тых, хто не плаціць падаткаў, не можа мець меней правоў за падаткаплацельшчыкаў.

**VI. Справы працоўных**

1. Усе працоўныя павінны быць забяспечаныя за сродкі краіны ў выпадку хваробы, калецтва, старасці і беспрацоўя.

2. Павінна быць вызначаная найменшая выплата за працу рабочага.

3. Павінна быць вызначаны найдаўжэйшая працягласць працоўнага дня з прытрымліваннем 8-гадзіннай працы ўдзень.

4. Дзецям, цяжарным, кормячым маці і хворым наёмная праца павінна быць забароненая. Начная праца павінна быць дазволеная толькі ў выпадку неабходнасці.

5. Павінна быць уладкаваная інспекцыя як фабрычных, так і зямельных рабочых, абраная самімі працаўнікамі і не належная ні да адміністрацыі, ні да паліцыі.

6. Працоўныя месцы і жыллё рабочых павінны быць належным чынам уладкаваныя і ўтрыманыя.

7. Лячэнне і лекі працоўным даюцца бясплатна.

8. Працоўныя маюць свабоду страйкаў.

**VII. Судовыя справы**

1. Суд павінен быць для ўсіх роўны, хуткі, справядлівы і бясплатны.

Ніжэйшыя ці міравыя (santaikos)[14] суддзі абіраюцца.

Акруговыя суды і Судовая Палата прызначаюцца Соймам. Таксама і вярхоўная інстанцыя (vieta) Літоўскага суда – Віленскі трыбунал – складаецца з прызначаных Соймам суддзяў. Усе судовыя справы разглядаюцца ў Літве.

2. Суддзі – нязменныя, незалежныя ад адміністрацыі і ад Літоўскага Сойма.

3. Літва мае свой цывільны і крымінальны кодэкс.

4. За ўсе крымінальныя правіны, якія караюцца законамі не менш як 3 месяцамі турмы ці цяжэйшай карай, павінен разглядаць суд прысяжных.

**VIII. Пытанні асветы**

1. Пачатковае свецкае навучанне для ўсіх абавязковае і даецца за сродкі краю.

2. Далейшае навучанне ў краёвых школах (не прыватных) павінна быць без аплаты, для ўсіх дасягальнае, без усялякіх абмежаванняў і свецкае.

3. Заснаванне прыватных школ з любымі праграмамі (і якой-небудзь мовай выкладання) для ўсіх вольнае, без умяшання ўладаў.

4. Поўная вольнасць для ўсіх ладзіць кнігарні, чытанні, курсы, тэатры, канцэрты.

5. Школы краіны павінны быць так упарадкаваныя, каб пераход з ніжэйшых у вышэйшыя быў без перашкодаў і без экзаменаў.

6. Павінна быць уладкавана дастаткова гаспадарчых і рамесных школ.

7. У Вільні павінен быць Літоўскі ўніверсітэт.

8. Кожны жыхар мае права набыць пачатковую адукацыю на сваёй роднай мове, а наколькі можна – то і далейшую адукацыю.

9. Іншым народам Літвы (палякам, беларусам (baltarusiai), габрэям, рускім, немцам) павінна са скарбу краіны выдаткоўвацца пэўная частка грошай, паводле ліку кожнага народа, на справы асветы на іх роднай мове.

**IX. Войска**

1. Пастаяннае войска ўсёй дзяржавы павінна пакрыху змяншацца. Час жаўнерства павінен быць скарочаны і не можа быць даўжэйшым за два гады.

2. Літоўцы праходзяць вайсковую службу ў Літве.

3. Правёўшы вызначаны час у войску, запасныя жаўнеры пераходзяць у краёвую міліцыю, якая ў вызначаныя тэрміны склікаецца на вайсковае навучанне.

4. Мясцовая міліцыя і неабходная для яе зброя павінны быць у руках аўтаномнай літоўскай улады.

5. Пастаяннае войска пакрыху павінна замяняцца народнай міліцыяй.

[14] Літаральна “прымірэнчыя”.

**X. Моўныя пытанні**

1. У аўтаномнай Літве ва ўрадавых установах афіцыйная мова – літоўская.

У мясцінах з іншароднымі жыхарамі побач з літоўскай ужываецца і іншая мясцовая мова (беларуская (baltarusiška), польская, габрэйская і інш.).

2. Усе службоўцы, ксяндзы і біскупы ў аўтаномнай Літве павінны валодаць літоўскай мовай.

**XI. Парафіяльныя і касцёльныя справы**

1. ДПЛ, не ўмешваючыся ў справы веры, патрабуе, каб парафіяльнае ўладкаванне было дэмакратычнае, гэта значыць, каб парафіяльная маёмасць кіравалася сходамі ўсіх парафіян і абранымі ўсеагульным галасаваннем парафіянамі камітэтамі.

**XII. Тактыка.**

Для дасягнення сваёй мэты Дэмакратычная партыя Літвы будзе карыстацца рознымі сродкамі:

1. Будзе займацца арганізацыяй шырокага Сялянскага звязу Літвы (Lietuvos Ūkininkų Sąjunga) і Звязу працоўных Літвы (Lietuvos darbo žmonių sąjunga).

2. Будзе займацца стварэннем добрых літоўскіх школ, выданнем кніг, газет, адозваў, ладзіць кнігарні, чытанні, інакш кажучы, – прасвятляць масы.

3. Будзе аб'ядноўвацца з прадстаўнікамі тых партый, нацый і асобных частак расійскай дзяржавы, якія хочуць аўтаноміі дамагчыся.

4. Будзе намагацца накіраваць войска на абарону правоў жыхароў.

5. Пры патрэбе ДПЛ не адмаўляецца і ад інакшых сродкаў, якія могуць наблізіць да мэты Партыі.

6. На будучым Устаноўчым Сойме Расійскай дзяржавы ДПЛ будзе клапаціцца пра набыццё прызнання для Літвы аўтаномнага дэмакратычнага ладу.

4.III.1906 г.

*Дэмакратычная партыя Літвы*

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 20, 2013

# Маніфест Нацыянальнай партыі літоўскіх дэмакратаў[1]

### Прынцыпы, на якіх грунтуецца НПЛД

### Суайчыннікі і суайчынніцы![2]

Партыя,[3] праграму і статут якой мы вам тут падаем, не маладая ў Літве, яна за ўсе старэйшая, аднак яна толькі зараз сфармавалася наноў. Людзі, якія да яе належаць, **дагэтуль былі расцярушаныя** па ўсіх краях дзеля палітычных ды і іншых прычын. Часткова гэта [тыя людзі], якія ад зараджэння "Aušra"[4] шчыравалі ў імя Айчыны (tėvynės), намагаліся прасвятляць сваіх братоў, **абуджаць у іх любоў да літоўшчыны** і Айчыны, часткова гэта большасць маладзейшага пакалення, што стаіць на нацыянальнай глебе ды змагаецца за волю і дабро сваіх братоў. Прыняўшы зараз назоў "Нацыянальнай партыі літоўскіх[5] дэмакратаў", яна, як палітычная партыя людзей Літвы, у сваю праграму ўносіць **падтрымку еднасці літоўскай нацыі (tauta), праўдзівасць яе ніколі не спыненага самастойна-палітычнага існавання** ды неабходнасць пастаяннай руплівай працы ў гэтым пытанні.

Каб дамагчыся гэтай, тут згаданай, мэты, НПЛД мае намер найперш аднаўляць сярод людзей надзею, што літоўцы змогуць палітычна адрадзіцца, **як і ў даўнія часы тое было,** у будучую самастойную дзяржаву (savistovia valstija). Надалей НПЛД збіраецца ў суполку сцягваць і злучаць **матэрыяльныя і інтэлектуальныя сілы** нацыі для ўзняцця нацыянальнай самасвядомасці людзей, абуджэння пачуцця нацыянальнага

[1] Перакладзена паводле: "Tautiškosios Lietuvių demokratų partijos manifestas" (1990), *Tautines savimones žandintojai: nuo asmens iki partijos,* red. E. Aleksandravičius, Vilnius: 182–183. Першы раз надрукавана ў 1905 годзе. Каментары – Томаша Блашчака.

[2] У арыгінале – tautiečiai ir tautietės – то бок "людзі той самай нацыі" (народа – tauta), а не Айчыны (tėvynė – tėvynainiai).

[3] Нацыянальная партыя літоўскіх дэмакратаў (Tautiškoji lietuvių demokratų partija) – заснавана 27 лістапада 1905 года. Партыя мела правую, нацыянальна арыентаваную праграму, у яе ўваходзіў адзін з пачынальнікаў літоўскага нацыянальнага руху Ёнас Басанавічус (1851-1927), а таксама будучы аўтарытарны лідар міжваеннай Літвы Антанас Смятона (прэзідэнт Літоўскай Рэспублікі ў 1919-1920 і 1926-1940 гады). Партыя дзейнічала з 1905 па 1913 гады, выдавала часопіс "Viltis" ("Надзея").

[4] Aušra ("Аўшра", "Світанак", "Зара") – першая літоўская газета, выдавалася ў 1883-1886 гады, усяго выйшла 40 нумароў. Першыя пяць нумароў былі надрукаваныя ў Рагніце, астатнія ў Тыльзіце (Усходняя Прусія). Рэдактары: Ёнас Басанавічус, Юргіс Мікшас, Ёнас Шлюпас, Марцінас Янкус, Юозас Андзюлайціс-Кальненас.

[5] У арыгінале – Lietuvių, а не Lietuvos, то бок адсылае не да "Літвы", а да этнічных "літоўцаў".

адзінства і салідарнасці ды падтрымкі **нацыянальных літоўскіх спраў.**

Прагнучы распаўсюджваць у народзе (tauta) прынцыпы народаўладдзя (дэмакратыі) у найшырэйшым сэнсе, НПЛД прызнае, што **вярхоўным прынцыпам грамадскай арганізацыі людзей павінна быць вольная, добраахвотная і абсалютна раўназначная чалавечая асоба (персона).**

Далей яна прызнае, што дзяржава ў сваёй дзейнасці абавязана заўсёды перад вачыма мець:

а) пастаянны найбольш прадуктыўны шлях паляпшэння і памнажэння гаспадарчага і культурнага дабрабыту краю; і

б) каб грамадзяне як найболей і як найраўней удзельнічалі ў выкарыстанні гэтага дабрабыту.

Таму, песцячы надзею, што толькі тады дзяржава зможа як найлепш спрыяць ажыццяўленню згаданай мэты, калі яна будзе палітычна пабудаваная на прынцыпах сапраўднай дэмакратыі, а дакладна, каб сама нацыя (tauta) стала вярхоўнай уладаркай свайго краю і магла сама кіраваць ды распараджацца сваім лёсам.

НПЛД вырашыла змагацца за поўнае ажыццяўленне гэтага прынцыпу ў Літве, каб дзяржава як найлепей магла ў жыццё ўвасобіць і рэалізаваць імкненне да згаданых прынцыпаў.

Як з праграмы і ніжэй пададзенага статута відаць, НПЛД і надалей абяцае працаваць на карысць Літвы ўвогуле і яе працоўных. Яна будзе змагацца за палітычныя, культурныя і эканамічныя правы нашага народа, а менавіта: **будзе дамагацца як мага шырэйшай аўтаноміі для нашага краю; клапаціцца пра тое, каб усюды, дзе літоўцы спакон вякоў жывуць, узняць на належны ўзровень літоўскую мову, культуру і ўдасканаліць для літоўцаў умовы эканамічнага жыцця.**

Праграму, якую мы тут падаем, здаецца, яшчэ нельга назваць поўнай, бо і яе складанне вельмі цяжкае пры сённяшніх палітычных умовах. Адна яе частка, дзе пра аўтаномію Літвы, мае толькі часовую пераходную мэту. Іншыя яе часткі, дзе пра фінансавую палітыку краю, складзеныя ў надта кароткім выглядзе, бо будучыня літоўскай дзяржавы, ад якой будзе залежаць упарадкаванне фінансаў ды іншых пытанняў, яшчэ вельмі няясная і не дазваляе прадбачыць, як і што можа з часам здарыцца. Аднак прынцыпы партыі, адлюстраваныя ў праграме, на наш погляд, досыць зразумелыя: **гэта свабода людзей Літвы і іх матэрыяльны дабрабыт.**

Як праграма партыі, так і яе статут былі прынятыя Віленскім і Ковенскім камітэтамі НПЛД, аднак падчас Першага ўсеагульнага кангрэса партыі яны мусяць яшчэ быць абмеркаваныя і канчаткова зацверджаны.

Хаця, як бачым, у самой праграме партыі пэўныя драбніцы з часам могуць быць змененыя, а да іншых яе спраў, хутчэй за ўсё, будуць дададзеныя яшчэ некаторыя дэталёвыя патрабаванні, але прынцыпы праграмы ўжо наўрад ці будуць перамененыя.

Таму НПЛД, доўга не чакаючы, лічыць, што ўжо зараз абавязкова трэба склікаць пад свае сцягі **ўсіх працоўных Літвы,** бо толькі за імі сіла, толькі яны пад кіраўніцтвам партыі змогуць вызваліць Літву, узяць уладу ў свае рукі, толькі яны

ў стане падтрымаць і забяспечыць свабоду жыхароў Літвы. Таму мы заклікаем усіх, каму дарагія літоўскія справы, яднацца, паўсюдна гуртавацца ў суполкі, трымаючыся ніжэй пададзенага статута партыі: у вёсках, мястэчках, валасцях, паветах, гарадах і г. д., ды супольна весці барацьбу за правы і нацыянальныя ідэалы літоўцаў і Літвы.

©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 20, 2013

# Літоўскае аб'яднанне хрысціянскіх дэмакратаў (праект праграмы)[1]

Гэты праект быў складзены летась перад Віленскім сходам. Сёння, без сумневу, трэба было б зрабіць у ім некаторыя змены, бо з таго часу не адна рэч стала зусім іншай. Спадзяемся, што гэтыя змены пазначаць самі чытачы. А мы тым часам падамо гэты праект такім, якім ён быў складзены, прыбраўшы толькі пару зусім непатрэбных драбніцаў. Калі большасці ён спадабаецца і будзе зацверджаны духоўнай уладай, дык можна будзе пачынаць займацца і афіцыйнай легалізацыяй Літоўскай партыі хрысціянскіх дэмакратаў.[2]

Рэдакцыйная заўвага

Склалі:

1. Ксёндз канонік Ёнас Мацюлявічэ,[3] інспектар Пецярбургскай духоўнай акадэміі.
2. Ксёндз Аляксандрас Дамбраўскас,[4] прафесар акадэміі.
3. Ксёндз Пранцішкус Бучыс,[5] ад'юнкт акадэміі.

---

1 Lietuvių krikščionių demokratų partijos programos projektas (1907), *Draugija*, Nr. 1. Перакладзена паводле: Lietuvos atgimimo studijos (1991), Lietuvos valstybės idėja (XIX a. – XX a. Pradžia), t. 4. Vilnius: 327-340. Усе вылучэнні ў тэксце падаюцца ў адпаведнасці з арыгіналам. Каментары да тэксту – Томаша Блашчака.

2 Хрысціянска-дэмакратычнае аб'яднанне Літвы (літ. Lietuvos krikščionių demokratų sąjunga) – партыя, дзейнічала ў 1905-1907 гадах, яе лідарам з'яўляўся А. Дамбраўскас-Якштас. Аднавіла дзейнасць у час Першай сусветнай вайны і была адной з найбуйнейшых партый першых гадоў літоўскай незалежнасці.

3 Майроніс (літ. Maironis), сапраўднае прозвішча: Ёнас Мачуліс (літ. Jonas Mačiulis), у тэксце падаецца як Ёнас Мацюлявічэ, (літ. Jonas Maciulevičė), 1862-1932 – каталіцкі святар, паэт. Выпускнік Ковенскай духоўнай семінарыі (1888) і Пецярбурскай духоўнай акадэміі (1892). У 1903 годзе атрымаў ступень доктара тэалогіі. У 1909-1932 гадах – рэктар Ковенскай духоўнай семінарыі, 1922-1932 гадах – выкладчык Літоўскага ўніверсітэта, кіраўнік кафедры маральнай тэалогіі.

4 Адомас Якштас (літ. Adomas Jakštas), сапраўднае імя: Адомас Дамбраўскас (літ. Adomas Dambrauskas), у тэксце падаецца як Аляксандрас Дамбраўскас (Aleksandras Dambrauskas), 1860-1938.– каталіцкі святар, філосаф-тэолаг, паэт, эсперантыст. Выпускнік Ковенскай духоўнай семінарыі (1884) і Пецярбургскай каталіцкай духоўнай акадэміі (1888). У 1902-1906 гадах – прафесар Пецярбургскай духоўнай акадэміі, адзін з заснавальнікаў Літоўскай каталіцкай акадэміі навук.

5 Бучыс, Пранцішкус Пятрас (літ. Pranciškus Petras Būčys, пол. Piotr Franciszek Buczys), 1872-1951 – літоўскі каталіцкі святар, доктар тэалогіі, адзін з заснавальнікаў Літоўскай каталіцкай акадэміі навук. У 1930 годзе перайшоў на грэка-каталіцтва і стаў біскупам каталікоў усходніх абрадаў.

## Аб'яднанне літоўскіх хрысціянскіх дэмакратаў

Кожны чалавек мае свой розум, і пра адны і тыя ж рэчы не ўсе мяркуюць аднолькава. Хоць збольшага меркаванні людзей здаюцца разнастайнымі, але яны часам падобныя адно да аднаго. Калі людзі з падобнымі меркаваннямі аб'ядноўваюцца, дык свае жаданні і погляды яны могуць здзейсніць хутчэй, чым тыя, якіх шмат, але яны не аб'яднаўшыся. Таму ва ўсіх краінах, дзе законы выдаюць выбраныя ў Сойм прадстаўнікі людзей, людзі з падобнымі думкамі яднаюцца.

Аб'яднаўшыся, са свайго асяродку яны могуць хутчэй выбраць прадстаўніка ў дзяржаўны Сойм, а той потым, парадзіўшыся з іншымі такімі ж прадстаўнікамі, робіць, каб законы выходзілі паводле яго думкі. Аб'яднанне людзей з падобнымі меркаваннямі, якое жадае далучыцца да заняткаў справамі ўсёй краіны, называецца партыяй. Ва ўсіх краінах бывае шмат партый, таксама не адна ёсць у Літве.

Мы, літоўскія хрысціянскія дэмакраты, таксама аб'ядналіся, бо нашыя меркаванні пра справы Літвы амаль аднолькавыя. Сваю назву мы пісьмова часта пазначаем толькі трыма літарамі – Л.Х.Д. (L.K.D.) У нашым аб'яднанні мы ўсе літоўцы, усе хрысціяне і ўсе дэмакраты. Слова "дэмакрат" раней у Літве не было чуванае; ды і цяпер многія людзі яго не разумеюць.

Дэмакратамі называюцца ўсе тыя, хто найперш і найбольш рупіцца справамі простых людзей. Дэмакраты хочуць, каб усе незаможныя людзі роўна з багацеямі маглі выбіраць сваіх прадстаўнікоў на сойм, каб усе мелі роўныя правы. Мы, прыналежныя да гэтага аб'яднання Літоўскіх хрысціянскіх дэмакратаў, маем асабліва рупіцца, каб простым людзям у Літве была дадзеная поўная свабода на ўсё добрае, каб ім было лепш жыць; каб гарады не высмоктвалі ўсяго заробку з гаспадара сядзібы і яго сям'і; каб яны не псавалі ні яго сумлення, ні здароўя. Мы будзем працаваць, каб лепш было ўсім людзям, што жывуць у вёсках: земляробам, тым, хто мае зямлю, і тым, хто яе не мае, тым, хто наймае, і тым, каго наймаюць, батракам у маёнтках і іншым слугам. Мы будзем дапамагаць і тым, хто выпраўляецца ў гарады ў пошуку заробку і застаецца там жыць.

Мы называемся хрысціянамі і гэтае слова змяшчаем у назву свайго аб'яднання таму, што верым: ёсць Бог, а Хрыстос – наш Збаўца. Вучэнне Ісуса мы прымаем і яго запаветы бярэмся выконваць. Не толькі ў сваім хатнім жыцці, але і ў занятках справамі нацыі (tauta) мы будзем паводзіцца так, як загадвае хрысціянскае вучэнне. Гэтай нашай прывязкай да Бога і веры мы адрозніваемся ад іншых існых у Літве партый. Сацыял-дэмакраты веры не прызнаюць і яе адкідаюць, а Літоўскія дэмакраты[6] пра яе не кажуць і ёю не рупяцца. Мы, ведаючы, што вера найбольш патрэбная ўсім, будзем усюды і заўсёды бараніць справы веры. У жыцці дзяржаў часта здараецца, што ўрад катуе людзей за веру. Гэта ведаюць усе літоўскія каталікі. Нам сапраўды дарагая Хрысціянская вера, таму мы не дамо яе нікому крыўдзіць ні адкрыта, ні таемна.

[6] Маецца на ўвазе Літоўская дэмакратычная партыя, гл. больш падрабязна спасылку 3 да Праграмы Літоўскай дэмакратычнай партыі.

У назву свайго аб'яднання мы паклалі слова "літоўскія", бо Літва – гэта нашая айчына і мы яе любім, як дзеці сваю маці. Літоўская мова для нас асабліва дарагая. Людзей іншых нацыянальнасцяў і іншых моў, якія жывуць у Літве і дзе яшчэ, мы крыўдзіць не будзем, бо мы хрысціяне і тых, хто гаворыць па-рознаму, мы любім як сваіх блізкіх. Кожны народ (tauta) мае сваю асаблівую мову. Мы – літоўцы, значыць, літоўская мова – наша мова.

Ніжэй падамо спіс тых рэчаў, выканання якіх мы патрабуем ад улады (урада) нашай дзяржавы. Але спадзявацца на ўсё мы ад яе не можам. Калі б мы чакалі, пакуль яна выканае нашыя патрабаванні, дык у той час на нас ціснулі б нашыя бядоты, а многія людзі памерлі б, так і не ўбачыўшы лепшых дзён. Таму працаваць будзем таксама і самі. Пакуль улада будзе ўладкоўваць літоўскія і карысныя для Літвы школы, мы пачнем навучаць дзяцей найболей патрэбным ім рэчам у сядзібах.

Літоўцы кажуць: зашмат захочаш, мала атрымаеш. Як і ў гэтай прыказцы, мы патрабуем гэтулькі, колькі можна спадзявацца атрымаць, і абяцаем гэтулькі, колькі ў акалічнасцях нашых дзён можна выканаць. Адразу мы бярэм на сябе толькі гэтулькі працаў, колькі можам ахапіць, а не хапаемся за ўсё адначасова. Мы ніколі не будзем падбухторваць людзей нападаці на ворага, які нашмат мацнейшы, бо добра ведаем, што карысць з гэтага пайшла б ворагу, а нашым людзям была б бяда. Нашая зброя – сіла духу, а наша сіла ў тым, што змагаемся адно за праўду і справядлівасць.

Прычына ўсіх цяперашніх бядотаў у тым, што ў людзях мала сумлення. Нашыя бюракраты нас крыўдзілі і катавалі, бо яны не мелі сумлення. Калі не будуць мець сумлення тыя, хто з бюракратамі змагаецца, дык, узяўшы верх, пачнуць крыўдзіць іншых. З гэтага будзе толькі адно наступства: замест аднаго крыўдзіцеля з'явіцца іншы. Разумеючы гэта, мы ніколі ні з адным ворагам не будзем змагацца несумленнымі спосабамі. Сваіх працаўнікаў мы не будзем страляць, не будзем нішчыць іх маёмасці, не будзем накідваць ім несправядлівых абвінавачванняў, не будзем рабіць і іншых такіх нячэсных рэчаў, якія нішчаць у людзях сумленне. З Богам пачынаем, з Богам і рабіць будзем.

Да нашага аб'яднання далучылася частка літоўскіх ксяндзоў, нас дабраслаўляюць біскупы.

У будучыні гэтую сваю праграму мы дапоўнім і пашырым так, як таго запатрабуе час. Але кірунак і асноўныя праўды (tiesos) не зменяцца ніколі. Мы ўсе застанемся літоўцамі, хрысціянскімі дэмакратамі, г. зн. апекавальнікамі простых людзей, бо мы самі простыя і дзеці простых.

Выразна кажам, што не намерваемся аддзяліцца ад Расіі. Хоць гэта вядома і без слоў, але буйнымі літарамі гэта пазначаем, каб нашыя працаўнікі не маглі накінуць нам гэтага жадання аддзяліцца.

Літоўскія хрысціянскія дэмакраты найбліжэй родныя да Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі.[7]

Паміж ім і намі адрозненне толькі ў справах мовы. Таму ва ўсіх справах

[7] Больш падрабязна гл. спасылку 1 да Праграмы Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі.

веры і дабра свайго краю мы будзем клапаціцца, каб з імі дамаўляцца загадзя і потым працаваць заадно, каб мы былі мацнейшымі. У нашай і іх праграмах раздзел пра справы Касцёла амаль слова ў слова той жа самы. Мы спадзяемся, што, грунтуючыся на дарагім для нас абодвух хрысціянскім вучэнні, мы зможам прыйсці з імі да згоды і ў моўных пытаннях, якія нас зараз падзяляюць. Такім чынам, адзінства стане яшчэ мацнейшым, але як нацыянальная арганізацыя мы ўсё ж застанемся асобна ад іх.

На сходзе прадстаўнікоў усёй Расіі мы спадзяемся найболей дамаўляцца з Расійскай партыяй канстытуцыяналістаў-дэмакратаў.[8]

## I. Агульныя патрабаванні праграмы ЛХД

1. Калі ў Расійскай імперыі пачнецца канстытуцыйнае і дэмакратычнае кіраванне дзяржавай, дык Літве мае быць дадзеная аўтаномія са сваім соймам, выбраным праз усеагульнае, роўнае, прамое, таемнае і абавязковае галасаванне. Аўтаномія Літвы павінна ахопліваць яе этнаграфічныя межы і знаходзіцца ў іх. Межы паміж ёй і суседнімі землямі маюць быць накрэсленыя з улікам нацыянальнасці памежных жыхароў і іх жадання.

2. У будучым парламенце Расіі ЛХД заўсёды будуць стаяць за справы маральнасці, справядлівасці ды свабоды і будуць клапаціцца, каб усім народам былі дадзеныя роўныя правы. Там мы будзем заўсёды змагацца супраць уціску і праследу веры.

Баронячы справы ўсёй Літвы, будзем клапаціцца, каб быць заадно з іншымі літоўскімі партыямі.

3. У асноўных, нязменных і незнішчальных законах Расіі мае быць запісана: а) што кіраванне гэтай дзяржавай – канстытуцыйнае, б) што міністры павінны трымаць перад прадстаўнікамі людзей адказ; в) што дзяржаўныя фінансы знаходзяцца пад кантролем прадстаўнікоў людзей, г) што ўсе народы (tautos), якія жывуць у Расіі, маюць права атрымаць аўтаномію: нацыянальна спелыя – адразу, а няспелыя – набыць яе тады, калі саспеюць, д) роўнасць усіх людзей перад судом, е) недатыкальнасць асабістага жыцця і карэспандэнцыі, ж) свабода веры ды публічнае і прыватнае здзяйсненне яе абрадаў, свабода заснавання кляштароў, ордэнаў, кангрэгацый, таварыстваў і брацтваў, з) свабода ўсякіх палітычных, навуковых, літаратурных, мастацкіх, фінансавых, прамысловых і іншых таварыстваў, аб'яднанняў, з'ездаў і кангрэсаў, і) поўная незалежнасць судоў ад адміністрацыі, к) свабода слова і друку, л) і ва ўсёй Расіі і Літве мае быць поўная свабода ўсім, асабліва касцёлам, засноўваць усякія свабодныя школы ад пачатковых да вышэйшых. Гэтую свабоду ЛХД уважаюць за адну з асноўных і змагацца за яе будуць найбольш зацята.

4. Прадстаўнікі людзей ва ўсерасійскі парламент выбіраюцца роўным, прамым, таемным, **абавязко-**

8 Канстытуцыйна-дэмакратычная партыя (рус. Конституционно-демократическая партия) – расійская ліберальная палітычная партыя, дзейнічала ў 1905-1917 гады, старшыня – Павел Мілюкоў.

**вым** галасаваннем, без адрознення веры, нацыянальнасці, полу і стану.

## II. Агульныя справы Літвы (Аўтаномія Літвы)

5. Мэтай працы ЛХД з'яўляецца аўтаномія Літвы ў этнаграфічных межах, г. зн. ахапляючы ўсю Ковенскую губерню і літоўскамоўныя часткі Сувальскай, Куршскай, Гарадзенскай і Віленскай губерняў з горадам Вільняй як безумоўным цэнтрам гэтага краю.

6. Аўтаномія Літвы будзе складацца з такіх нацыянальных правоў: а) мець Сойм сваёй краіны ў Вільні, які зможа і мусіць усталёўваць правы і прызначаць падаткі для ўсёй тэрыторыі аўтаноміі і які будзе выбраны роўным, прамым, таемным, абавязковым галасаваннем усіх дарослых жыхароў, б) суд і адміністрацыя з тутэйшых людзей, в) усе школы з тутэйшай мовай і з настаўнікамі з тутэйшых людзей, г) залежнасці адміністрацыі ад аўтаномнага Сойма і яе адказ перад ім, д) вайсковая служба ў сваім краі, е) у сядзібах і гарадах мясцовыя ўстановы самакіравання прызначаюць для сваёй акругі паліцыю, плацяць ёй заробак і кантралююць яе працу.

Войска з караблямі, кіраванне мытнямі, чыгунка і пошта з тэлеграфамі застаюцца пад уладай цэнтральных расійскіх органаў кіравання, але з той умовай, што службоўцы гэтых аддзяленняў будуць прызначацца з тутэйшых жыхароў і будуць ведаць мясцовыя мовы.

7. Аўтаномны Сойм Літвы павінен будзе ўключыць у свае асноўныя законы прыналежныя ўсім грамадзянам Расіі правы і свабоды, згаданыя ў пункце I праграмы пад літарамі ад "Д" да "Л", ды не зможа іх звужаць ці скасоўваць.

## III. Справы асветы

8. Ад самага пачатку з найбольшай сілай мы патрабуем: а) каб ва ўсіх літоўскіх пачатковых школах усе прадметы выкладаліся па-літоўску, б) каб усе настаўнікі там былі літоўцамі, в) каб праграма была прыстасаваная да патрэбаў духу і цела літоўцаў, каб настаўнікаў прызначалі жыхары наваколля школы з тых людзей, якія маюць патрэбную асвету, г) каб у сярэдніх школах выкладалі на літоўскай мове, д) каб веру выкладаў ксёндз той бажніцы, да якога дзеці належаць, г. зн. каталікам – каталіцкі ксёндз, пратэстантам – пастар і г. д., е) каб выкладанне літоўскай мовы настаўнікам у семінарыях было сярод найважнейшых прадметаў навучання.

9. Патрабуем: а) каб у пачатковых школах асвета была бясплатная, б) сярэдніх школаў заснаваць гэтулькі, каб было досыць месцаў для тых, хто хоча і можа ў іх навучацца, в) у сярэдніх і вышэйшых школах зменшыць плату за навучанне, г) наблізіць сувязь паміж усімі школамі, каб можна было лёгка перайсці з адной у іншую, д) каб наведванне свабодных школ лічылася выкананнем права **абавязковага** навучання.

10. Каб тыя дзеці, што не ходзяць у школу, не заставаліся не навучанымі самым патрэбным рэчам, ва ўсіх вёсках выберам хоць па адным мужчыне ці жанчыне, хто навучыў бы ўсіх дзяцей гэтай вёскі па-літоўску пісаць, чытаць, а таксама катэхізісу.

11. ЛХД будуць клапаціцца пра заснаванне ў кожнай парафіі чытальні, з якой усе людзі гэтай парафіі змогуць бясплатна ўзяць кнігі для чытання.

Пакуль яшчэ мала добрых літоўскіх кніг, таму заснавана Таварыства Святога Казіміра[9] для іх выдання. Усе яго выданні парафіяльныя чытальні атрымаюць танней, чым іншыя пакупнікі. Літоўскія хрысціянскія дэмакраты будуць клапаціцца, каб усе выданні гэтага таварыства былі ва ўсіх парафіяльных чытальнях.

12. Дзеля дапамогі літоўскай навуцы і мастацтву Літоўскія хрысціянскія дэмакраты маюць заснаваць "Motinėlė".[10] Гэта таварыства: яго члены плацяць па 10 руб. штогод. З гэтых унёскаў і аднаразовых ахвяраў складаецца грашовы фонд, з якога даюцца стыпендыі для тых літоўцаў з несумнеўнымі здольнасцямі, хто ідзе вучыцца, асабліва ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Такім чынам спадзяемся падрыхтаваць дастаткова навуковых сілаў, патрэбных для будучага Літоўскага ўніверсітэта.

13. Неўзабаве пасля "Мацеркі" адкрыем другі фонд, у які будзем збіраць грошы, патрэбныя для заснавання першай мясцовай чыста літоўскай школы.

## IV. Справы мовы

14. Усе жыхары Літвы маюць права лічыцца членамі таго народа (tauta), членамі якога яны самі пажадаюць быць. Ім дазваляецца мець свае школы для дзяцей і свае нацыянальныя таварыствы.

15. Усімі сіламі мы будзем клапаціцца і працаваць, каб адразу спынілася пераўтварэнне літоўцаў у прадстаўнікоў іншых народаў, каб русіфікацыя і паланізацыя не крочылі далей ні на крок.

16. У тых касцёлах, да якіх належаць 300 літоўскамоўных чалавек, мае быць літоўскамоўны ксёндз. Дзе ў парафіі такіх больш за 1000, там павінны казаць літоўскія казані і спяваць ружанцы прапарцыйна колькасці літоўцаў.

17. У біскупстве, што ахапляе 100.000 літоўцаў-каталікоў, біскуп або падбіскуп павінен умець размаўляць па-літоўску.

18. Мы будзем змагацца з польскімі інтэлігентамі, якія захочуць пашыраць у Літве польскую каланізацыю, засноўваць польскія школы дзеля дэнацыяналізацыі літоўскіх дзяцей, патрабаваць ад слуг свайго маёнтка, каб тыя абавязкова ўмелі размаўляць па-польску.

19. Усе службоўцы (oficijalistai) маёнткаў у этнаграфічнай Літве павінны ўмець размаўляць па-літоўску і не мусяць ужываць прынукі да сваіх падданых з тым, каб тыя вывучылі польскую мову і на ёй размаўлялі. Таго ж вымагаем ад памешчыкаў, што займаюцца пастаянным доглядам сваіх маёнткаў.

9 Таварыства Святога Казіміра – літоўскае каталіцкае выдавецкае таварыства, дзейнічала ў Коўне ў 1905-1940 гадах, усяго мела 10 кнігарняў, з 1918 года у яго ўладанні была друкарня "Šviesa", заснавана на месцы друкарні С. Банайціса ("Banaičio spaustuvė").

10 "Motinėlė" ("Моцінеле", "Маці") – літоўская дабрачынная арганізацыя, дзейнічала ў 1906-1915 і 1920-1932 гадах у Коўне, старшыня – А. Дамбраускас-Якштас.

## V. Справы гаспадаркі

20. Надзяленне беззямельных земляробаў зямлёй, што прыналежыць дзяржаве, на як мага больш палегчаных для іх умовах.

21. Дзяржава (Аўтаномная ўлада) рамантуе дарогі і будуе масты.

22. Павінна быць забаронена знішчаць пушчы; вываз дрэў і дроў за мяжу павінен быць абмежаваны, каб і незаможныя людзі маглі купіць сабе досыць дроў і бярвення.

23. Дзяржаўная дапамога: а) беззямельным або малазямельным земляробам, што купляюць зямлю ў збяднелага памешчка, б) вяскоўцам, што перабіраюцца ў хутарскія калоніі, в) земляробам, што клапоцяцца пра гай на сваёй зямлі.

24. Заснаванне крэдыта для дробных земляробаў, дзе яны маглі б лёгка, танна і хутка пазычыць грошы на свае зямельныя патрэбы.

25. Выданне законаў, пры выкананні якіх работнікі сядзібаў і маёнткаў былі б абароненыя ад несправядлівасці наймальнікаў, а наймальнікі былі б абароненыя ад несумленнасці найманых і паасобных уцёкаў не ў час. Для гэтага патрэбна заснаванне выбранай з абодвух бакоў працоўнай інспекцыі ў маёнтках і вёсках, якая б глядзела, каб не было крыўды ні работнікам, ні наймальнікам.

26. Заснаванне гаспадарчых і спажывецкіх таварыстваў, прытулкаў узаемадапамогі і г. д.

27. Каб літоўскія вяскоўцы, выправіўшыся па заробкі ў вялікія гарады, не загінулі там у цяжкіх акалічнасцях, ЛХД маюць рупіцца заснаваць у іх арганізацыі, якія б аб'ядноўвалі тых шукальнікаў заробку і дапамагалі ім.

28. Каб вяскоўцы мелі арганізацыю па ўзаемнай ахове ад пажараў зусім асобна ад жыхароў гарадоў і мястэчак.

29. Лёгкае атрыманне карысных ведаў з земляробчай навукі: а) праз пэўныя пачатковыя і сярэднія школы па гаспадаранні, б) праз заснаванне ўзорных гаспадарак, в) праз пэўных інструктараў.

30. Заснаванне бальніц і прытулкаў, гэткая арганізацыя медычнай і юрыдычнай дапамогі, каб ёю маглі карыстацца ўсе бясплатна.

31. Забеспячэнне грамадскімі сродкамі работнікаў гаспадаркі па старасці і хваробе. Фабрычным работнікам забеспячэнне ад фабрыкі.

## VI. Справы маралі

32. Памочніцы ці іншыя дзяўчыны або жанчыны, што служаць у маёнтках, часам у гаспадароў зведваюць крыўду ад мужчын, што над імі пастаўленыя. Калі яны звернуцца да ЛХД, дык знойдуць хуткае і моцнае заступніцтва.

33. Усе ЛХД, якія жывуць у адной парафіі, складаюць асобную суполку, якая ўсімі сваімі сіламі спыняе п'янства сярод літоўцаў свайго наваколля.

34. Каб людзі, адцягнутыя ад п'янства, мелі месцы дзе можна сумленна і карысна павесяліцца, ЛХД будуць засноўваць у сядзібах і гарадах сходы з літоўскімі чытаннямі, спевамі, тэатральнымі імпрэзамі і іншымі маральнымі забавамі.

## VII. Справы царквы

35. У справах веры будзем клапаціцца дамаўляцца і галасаваць заадно

з хрысціянскімі дэмакратамі іншых народаў Расіі.

36. Свабодныя зносіны са Святым Айцом. Выбар біскупаў паводле кананічных законаў без умяшання свецкай улады. Арганізацыя кіравання дыяцэзіяй без хоць якога ўмяшання свецкіх кіраўнікоў, а толькі паводле касцёльнага парадку.

37. Свабода біскупаў: а) засноўваць новыя парафіі і змяняць межы старых, б) склікаць сіноды дыяцэзій і правінцый, в) будаваць касцёлы і капліцы парафій, філій.

38. Рашэнні біскупаў: а) па пытаннях шлюбу паміж каталікамі, б) па пытаннях трымання прысягі маральнасці ў шлюбе, в) па правінах ксяндзоў супраць іх спецыяльных абавязкаў паклікання – павінны мець вагу судовага рашэння.

39. Свабоднае заснаванне пачатковых і вышэйшых семінарый і кіраванне імі, а таксама абсалютна свабоднае ад усякага нагляду навучанне ў іх моладзі, што рыхтуецца ў ксяндзы; прызначэнне настаўнікаў і складанне праграм павінна залежыць толькі ад біскупа.

40. Кампенсацыя каталікам за ўсе ўчыненыя ім крыўды, г. зн. аднаўленне скасаваных біскупстваў і суфраганій: вяртанне зачыненых, зруйнаваных і перайначаных касцёлаў, або грашовая кампенсацыя за гэта.

41. Вяртанне той касцёльнай маёмасці, што была забраная пасля ўкладзенай са Святым Айцом дамовы (Канкардат). Вяртанне біскупам тых грошай, якімі цяпер нібыта кіруе калегія, а па праўдзе іх марнуе Міністэрства Унутраных Спраў без карысці, а часта нават на крыўду каталіцкага касцёла.

42. Скасаванне Пецярбургскай каталіцкай калегіі. Вяртанне духоўнай каталіцкай калегіі з Пецярбурга ў Вільню[11] і яе, з усімі капіталамі, кнігамі і маёмасцю, поўнае вызваленне з-пад свецкага апекавання.

43. Свабоднае заснаванне кляштароў, пасяленне ордэнаў, кангрэгацый, верніцкіх таварыстваў і брацтваў.

44. Свабоднае складанне дамовы перад заручынамі паміж асобамі рознай веры і яе юрыдычнае прызнанне. Свабоднае вызнанне веры.

45. Увядзенне грыгарыянскага календара.

## VIII. Унутраны партыйны парадак

46. Цэнтральны камітэт выбіраецца дэлегатамі ад павятовых (pavietinis) сходаў. З гэтай мэтай яны з'язджаюцца крыху раней, чым усеагульны штогадовы збор партыі. Члены Цэнтральнага камітэта працуюць адзін год. Яны могуць быць пакінутыя ў камітэце і надалей. Са свайго шэрагу яны выбіраюць старшыню,[12] касіра. Ніхто не можа быць старшынём, касірам і сакратаром два гады запар, а на другі год ён ipso facto застаецца памочнікам старшыні, а калі апошні не можа, дык выконвае за яго абавязкі. Той жа парадак у павятовых камітэтах.

Пры цэнтральным бюро могуць быць найманыя пісары і памочнікі.

47. Цэнтральны камітэт ЛХД будзе ў Вільні. Ён будзе складацца з 5 асобаў.

[11] Віленская духоўная акадэмія была перанесена ў Пецярбург у 1842 годзе.
[12] У літоўскім арыгінале калька з рус. "председатель" – "pirmasėdis".

Яго задачамі будуць: а) арганізацыя і падрыхтоўка ўсеагульных з'ездаў партыі, б) зносіны з павятовымі і парафіяльнымі камітэтамі, вызначэнне ім накірунку працы, інфармаванне пра справы на пэўны час, а таксама вызначэнне, што ў пазначаным часе трэба рабіць асабліва рупна, в) юрыдычныя парады і абарона ЛХД – аб'яднання або паасобных яго членаў – у друку, г) арганізацыя або зацвярджэнне павятовых камітэтаў, д) складанне спісаў кандыдатаў у соймы дзяржавы і аўтаноміі, е) пры патрэбе накіраванне кандыдатаў у органы мясцовага самакіравання, ж) вядзенне касы аб'яднання, з) публікацыя ў газетах аб'яднання патрэбных звестак і адозваў. Таксама агалошванне справаздачаў і абвяржэнне непраўдзівых чутак.

У Цэнтральным камітэце павінен быць адзін ксёндз, зацверджаны біскупам.

48. У кожным павеце, а калі ён вялікі – у кожным дэканаце, ствараецца павятовы камітэт, колькасць членаў якога па велічыні патрэбаў можа быць большай ці меншай. З іх хоць адным павінен быць зацверджаны біскупам ксёндз.

Задачы павятовых камітэтаў: а) склікаць мясцовыя соймы, б) працаваць, каб партыйныя кандыдаты былі выбраныя прадстаўнікамі ў адказныя месцы, в) парады цэнтральнаму камітэту, каго ён можа прызначаць на кандыдатаў у прадстаўнікі ў соймы дзяржавы, аўтаноміі або ніжэйшага самакіравання, г) пры патрэбе парады парафіяльным камітэтам, каго яны могуць выбіраць сабе за настаўнікаў, суддзяў і г. д., д) паведамленне Цэнтральнаму камітэту пра мясцовыя справы, е) дапамога парафіяльным камітэтам у іх клопатах пра заснаванне таварыстваў, чытальняў, касаў Райфайзэна[13] і г. д., ж) улік колькасці, з) паведамленне Цэнтральнаму камітэту таго, што яму можа спатрэбіцца ведаць або што трэба агалосіць.

49. У кожнай парафіі – камітэт з чатырох асобаў, да якіх пятым далучаецца ксёндз. Задачы гэтага парафіяльнага камітэта: а) клопат пра парафіяльную чытальню, б) паведамленне ўсім жыхарам парафіі, калі будуць усеагульны і павятовы з'езды партыі і пашырэнне іх рэзалюцый, в) рупіцца, каб партыйныя газеты своечасова прыходзілі мясцовым падпісчыкам, і дапамагаць ім у адсылцы падпіскі, г) ажыццяўленне хрысціянска-сацыяльнай дзейнасці партыі, д) спыненне п'янства, е) клапаціцца пра бальніцы, ж) выдача пасведчанняў членам, якія кудысьці з'язджаюць, і паведамленне ім адраса, дзе там дзейнічаюць групы арганізацыі ЛХД, з) заснаванне публічных ці прыватных школ з літоўска-хрысціянскім духам, і) паведамленне Цэнтральнаму камітэту ў Вільні пра колькасць багамольцаў, якія з парафіі мяркуюць ехаць наведаць святыя месцы ў Вільні, і час іх вандроўкі, к) па магчымасці быць трэцім суддзём у непаразуменнях паміж наймальнікамі і найманымі. Для гэтага трэба было б, каб у камітэце была роўная колькасць тых і тых. Парафіяльныя сходы могуць адбывацца толькі ў святочныя дні.

50. Прынамсі раз на год – адзін усеагульны сход (susirinkimas) пар-

[13] Больш падрабязна гл. спасылку 12 да Праграмы Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі.

тыі. Пры патрэбе Цэнтральны камітэт можна склікаць і часцей.

Прэзідэнтам усеагульнага сходу заўсёды з'яўляецца наноў выбраны на наступны год старшыня Цэнтральнага камітэта. Па яго просьбе сход можа выбраць аднаго ці двух памочнікаў. Ён сабе прызначае двух сакратароў, якія вядуць пратакол сходу.

51. Перад усеагульным з'ездам партыі Цэнтральны камітэт, а перад павятовымі сходамі – павятовыя камітэты павінны вызначыць тэмы на абмеркаванне.

Усе члены партыі маюць права падаваць на абмеркаванне сходу хоць якое пытанне. Падаўца павінен ясна сфармуляваць сваю думку пісьмова, так, каб яна, калі будзе прынятая, магла быць адразу без ніякіх зменаў упісаная ў праграму або статут партыі. Такая тэма для ўсеагульнага сходу павінна быць пададзеная Цэнтральнаму камітэту за месяц перад сходам. Цэнтральны камітэт мае права скараціць гэты час. Усе тэмы ўсеагульнага сходу павінны быць апублікаваныя ў газетах, прынамсі, за два тыдні да сходу.

Асобы, якія не належаць да арганізацыі ЛХД, не могуць прамаўляць на яе сходах, ні на ўсеагульным, ні на меншых. Права на пасіўнае знаходжанне там даецца толькі ўладным прадстаўнікам на статутных соймах і ў камітэтах.

52. Павятовыя сходы звычайна адбываюцца двойчы на год. Пры патрэбе можа быць зроблена некалькі экстраардынарных сходаў, але прамежак часу паміж імі павінен быць не меншы за два тыдні. На іх увесь парадак такі ж, як і на ўсеагульным сходзе, толькі тэмы могуць прымацца за два тыдні да сходу, а абвяшчацца павятовым членам – за тыдзень. У павятовых сходах удзельнічаюць толькі: а) дэлегаты ад парафіяльных сходаў і б) тыя, хто плоціць не толькі 10 руб. партыйных унёскаў, але яшчэ і запісваецца як член Таварыства Святога Казіміра і "Мацеркі".

53. Усе земляробы, хто прыналежыць да партыі ЛХД і ўносіць штомесяц па 25 кап., бясплатна атрымліваюць "Nedėldienio Skaitymas"[14] і ўсе афіцыйныя водгукі, паведамленні, спавяшчэнні таварыства. Усе ксяндзы і свецкія інтэлігенты плацяць па 10 руб. на год і атрымліваюць бясплатна выданне "Draugija"[15] разам з усімі аб'явамі і адозвамі таварыства.

[14] Nedėldienio skaitymas ("Нядзельдзіенё скайцімас", "Нядзельная чытанка") – каталіцкі штотыднёвы часопіс, які выдаваўся ў 1905-1907 гадах у Коўне, галоўны рэдактар – Антанас Каросас (літ. Antanas Karosas), са снежня 1906 года – Адомас Дамбраўскас-Якштас. Усяго выйшла 102 нумары. З канца 1907 года замест яго пачалося выданне часопіса "Vienybė".

[15] Draugija ("Драўгія", "Таварыства") – літаратурна-навуковы штомесячны часопіс, выдаваўся Таварыствам святога Казіміра ў Коўне, у 1907-1914, 1917-1923 і 1937-1940 гадах. Галоўны рэдактар – Адомас Дамбраўскас-Якштас, у 1938-1940 гадах – Нікодземас Раштуціс (літ. Nikodemas Raštutis). Усяго выйшла 213 нумароў.

# Аўтары

***Андрэй Валодзькін*** – кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (Мінск). andrei_va@tut.by

***Лукаш Войцешак (Łukasz Wojcieszak)*** – доктар палітычных навук, спецыялізуецца на даследаванні энергетычнай бяспекі і транзіту энерганосьбітаў (Кракаў, Польшча). drwojcieszak@gmail.com

***Андрэй Елісееў*** – магістр палітычных навук, магістр міжнароднага і еўрапейскага права, аналітык Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (Мінск). andreiyeliseyeu@gmail.com

***Дзмітрый Ісаёнак*** – незалежны аналітык, грамадскі актывіст (Беларусь). yic.minsk@gmail.com

***Аляксандр Ланеўскі*** – дактарант гістарычнага факультэта Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве (Польшча). alexandr.iwanowicz@gmail.com

***Аляксандр Пяганаў*** – магістр гістарычных навук, аспірант Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (Мінск), асацыяваны даследчык Універсітэта Дэні Дзідро (Парыж). piahanau@gmail.com

***Таццяна Чыжова*** – даследчык Інстытута палітычных даследаванняў "Палітычная сфера", навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (Мінск –Вільня). chyzhova@palityka.org

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 20, 2013

# Authors

***Tacciana Čyžova (Tatyana Chyzhova)*** – research fellow at the Institute of Political Studies "Political Sphere", research fellow at the Institute of Philosophy of the National Academy of Sciences of Belarus (Minsk – Vilnius). chyzhova@palityka.org

***Dzmitry Isajonak (Dzmitry Isayonak)*** – independent analyst, civil activist (Belarus). yic.minsk@gmail.com

***Andrej Jelisejeŭ (Andrei Yeliseyeu)*** – MA in Political Science, MA in International and European Law, analyst of the Belarusian Institute for Strategic Studies (Minsk). andreiyeliseyeu@gmail.com

***Aliaksandr Lanieŭski (Aliaksandr Laneuski)*** – PhD student at the Faculty of History, Jagiellonian University in Krakow (Poland). alexandr.iwanowicz@gmail.com

***Aliaksandr Piahanaŭ (Aliaksandr Piahanau)*** – MA in History, PhD student at Belarusian State University, associate researcher at Paris Diderot University (Minsk). piahanau@gmail.com

***Andrej Valodźkin (Andrei Valodzkin)*** – PhD in History, senior research fellow at the Institute of Economy of the National Academy of Sciences of Belarus (Minsk). andrei_va@tut.by

***Łukasz Wojcieszak*** – PhD in Political Science, his research focuses on energy security and transit of energy resources (Krakow, Poland). drwojcieszak@gmail.com